ўвязаць. Адным словам—спекулянт. Спекулянт у наплечніках. Вы бачыце, паручнік Рыдэль, як добра мы ведаем вашага начальніка?

Але чалавек у куце маўчаў. Ён глядзеў проста перад сабою.

— Гаварыце далей,—сказаў начальнік.

Крамарчык гаварыў:

— Каленбрун палае нянавісцю, самай дзікай і нястрыманай да СССР. Ён і тут ўвязвае ідэёвыя пытанні з асабістымі справамі. Ён страціў маёнткі і фабрыкі ў выніку пролетарскай рэволюцыі ў Расіі і, акрамя таго, у час грамадзянскай вайны яму расчапілі галаву. Ён калека. І вось, так сказаць, увязваючы прыемнае з карысным, майёр Каленбрун задумвае тонкі, правакацыйны план. Гэты план складаецца з некалькіх асноўных пунктаў. Каленбрун мяркуе дзейнічаць у вузкіх рамках, і таму да супрацоўніцтва ў гэтай справе ён запрашае майёра дэфензівы. І для таго, каб гэтаму майёру не было крыўдна, для яго таксама застаецца ласы кавалак. Калі Каленбрун асноўнай мэтай свайго плана лічыць магчымасць як мага далей і глыбей закінуць на тэрыторыю СССР свайго шпіёна, дык для майёра дэфензівы застаецца магчымасць атрымаць цалкам у свае рукі комуністычную арганізацыю, якая будзе скарыстана для гэтай мэты. Якім чынам комуністычная арганізацыя будзе скарыстана ў барацьбе з пролетарскай рэволюцыяй? Вось у гэтым і заключаецца ўвесь змест плана, які носіць назву „Тэорыя Каленбрун". Гэта даволі тонкі план.

Крамарчык змоўк і ўзяў папяросу. Чалавек насупроць яго, у куце, нярухома сядзеў у крэсле і не зводзіў вачэй з аднэй кропкі. У яго крывіліся губы і рухаліся жаўлакі на шчоках.

— Першы пункт плана—гэта пранікнуць двум правакатарам, двум шпіёнам у комуністычную арганізацыю, увайсці ў давер'е, заваяваць аўтарытэт, абмацаць больш выдатную фігуру з комуністаў-падпольшчыкаў, пастарацца увайсці ў сяброўскія адносіны з гэтым комуністам і, у прыватнасці з усімі, каго яны будуць ведаць, і весці справу так, каб арганізацыя апынулася на самым гарачым участку класавай барацьбы, каб на ёй канцэнтравалася ўвага мас, а разам з тым і ўсіх іншых, хто нават знаходзіцца ў баку ад барацьбы. Разам з гэтым было патрэбна, каб каля фігуры намечанага комуніста было як мага больш палітычнага шуму, як гаварыў сам Каленбрун. Гэта дае магчымасць запісаць на рахунак комуніста як мага больш абвінавачванняў у антыдзяржаўнай, палітычнай дзейнасці.

Крамарчык змоўк і прайшоўся па пакоі.

— Хаця дзейнасць комуністычнай ячэйкі на такі час, каб набраць адпаведную колькасць абвінавачванняў супроць аднаго з яе членаў, таксама што-небудзь азначае, аднак, майёр Каленбрун суцяшаў сябе тым, што гэта ёсць адступленне пад белым сцягам. Гэта яго тэорыя: „Наступаць так, каб вораг лічыў, што ты адступаеш". Паколькі ў плане меліся некаторыя элементы

гэтай тактычнай формулы, план і быў названы „Тэорыяй Каленбрун“, каб у сакрэтных архівах увекавечыць імя яго аўтара. Але вы пераацанілі значэнне гэтай формулы, паручнік Рыдэль! Вы захапіліся правакацыйнай гульнёй і не здолелі арыштамі кіраўнікоў-комуністаў папярэдзіць забастоўку. А гэта вам каштавала не мала ў агульнай суме хаця Каленбрун і суцяшаў сябе сваёй філозофскай формулай.

Чалавек у куце не абазваўся ні словам.

— Гаварыце—сказаў начальнік.

— Другі пункт плана—гэта арышт комуніста разам з адным з правакатараў. Трэці пункт плана—гэта наладжванне інсцэніроўкі пракурорскага допыта, а калі патрэбна, дык і суда. Дзейнічаючыя асобы інсцэніроўкі—агенты дэфензівы. На дэфензіву-ж ускладаецца і правядзенне арышта і, у выпадку патрэбы інсцэніровак, бо Каленбрун лічыў усё-ж гэтыя справы за не надта чыстыя для рук. І ў парадку „канцэнтрацыі сіл“ і „брацкага супрацоўніцтва двух родаў адной зброі“—аддаваў выкананне трэцяга пукта плана дэфензіве, безумоўна, пад сваім мастацкім кіраўніцтвам. Мэтай гэтага плана з‘яўляецца—пакрыць недахопы, дапушчаныя пры арышце ў тым выпадку, калі яны будуць дапушчаны, стварыць штучную атмасфэру сур‘ёзнейшай справы, укосна паказаць падпольшчыкам, што арыштаваным пагражае смерць і, такім чынам, падрыхтаваць глебу для правядзення ў жыццё чарговых пунктаў плана.

Крамарчык сеў на крэсла і спакойна закурыў. Зноў разлёгся яго крыху глухаваты голас.

— Чацвёрты пункт—гэта самы адказны і рашаючы. Ад яго залежыць лёс плана. Другі правакатар, які яшчэ застаўся ў арганізацыі, павінен прапанаваць арганізацыі план уцёку. План у агульных рысах выражаецца ў тым, што сапраўднаму зняволенаму, комуністу, апрануты наглядчыкам агент дэфензівы падае ключ ад дзвярэй, з якіх з усім камфортам можна выйсці з турмы і апынуцца за горадам. Для арганізацыі-ж план падаецца ў тым святле, што гэты „комуніст“, які яго прапануе, мае двух блізкіх па палітычных поглядах людзей у турме, і яны дапамогуць уцячы вязням. Адным словам, шыта белымі ніткамі. Але ўцёк з-пад шыбеніцы—прывабная рэч. У такіх выпадках многа не разважаюць. Арганізацыя павінна была згадзіцца. На гэта і меціў Каленбрун. Але задача заключалася не толькі ў тым, каб дабіцца згоды арганізацыі на ўцёк, правядзенне якога правакатар бярэ на сябе. Трэба было яшчэ змусіць арганізацыю на тое, каб яна прапанавала вызваленым комуністам, ці праўдзівей комуністу з прыклееным да яго шпіёнам, нелегальна эміграваць у СССР. Некуды інакш, толькі ў СССР! Наколькі гэты пункт удаўся-б, не ведаю. Можна цвёрда сказаць: не ўдаўся-б! Комуністы не ўцякаюць са сваіх пазіцый! Крамарчык памаўчаў.

— Але ў дадзеным выпадку—ён удаўся. Пяты пункт—гэта уцяканне з турмы. Шосты—гэта адпраўка комуніста на выро-

вачцы ў шпіёна па маршруту, які вызначаны самім Каленбрунам. Гэта для таго, каб у выпадку патрэбы, можна было-б пакласці канец падарожжу. Сёмы пункт—гэта пераход мяжы, калі шпіён павінен аб гэтым праінфармаваць адпаведных асоб. Восьмы пункт, гэта той пункт, які Каленбрун ахарактарызаваў наступнымі словамі: „Атрымоўвае срэл у патыліцу". Гэта азначае тое, што шпіён пасля таго, як будуць праведзены на тэрыторыі СССР усе фармальнасці з устанаўленнем асобы і калі абодвых, памеркаваннях Каленбруна, вызваляць з-пад варты—шчаслівы ўдалай авантурай шпіён, страляе комуніста дзе-нібы ў цёмным месцы, і тады ўжо пачынаюцца пункты, якія павінны былі акрыць гумозны чэрап Каленбруна бессмяротнай славай, плечы-генеральскімі эпалетамі, грудзі—ганаровымі фашысцкімі ордэнамі. А кішэні? А кішэні думаў напхаць Каленбрун даляровымі паперкамі, якія меркавалася атрымаць за тыя пункты, што мусіў выраблять яго агент. А пункты гэтыя—мусіць, падпалы, узрывы, шкодніцтва!

Крамарчык памаўчаў.

А той, што застаўся на месцы, другі правакатар, павінен быў пранікнуць у арганізацыю, як чалавек акрыты заслугамі, як мага глыбей і тады аддаць у рукі дэфензівы ўсіх да адзінага.

Гэта была доля майёра дэфензівы з „каласальнага" плана „канцэнтрацыі сіл" і „брацкага супрацоўніцтва". Аб усім гэтым я даведаўся ў самы крытычны момант.

Крамарчык зноў устаў.

— І я даведаўся аб тым, што таварыш Адам Турчын—паручык разьведкі Рыдэль, што таварыш Ярош Гагай—безыменны белагвардзеец. І адпаведна з гэтым, былі прыняты меры. Я прыйшоў на бульвар да вас, паручнік Рыдэль, ужо добра ведаючы што вы з сябе ўяўляеце. Цераз некалькі хвілін адбыўся мой арышт, пры якім вы так мужна абараняліся. Другі пункт плана прайшоў без запінкі. Потым, калі я ляжаў збіты наглядчыкамі і згубіў палову крыві, вы прыехалі на ўласным аўтамабілі ў турму, змянілі шыкарны мундзір на мяшэчную куртку, адпаведна гэтаму загрыміраваліся і накруцілі на галаву клуб бінтоў і ваты, гэткі-ж, як і ў мяне. Адбылася грозная цэрэмонія пракурорскага допыту. Пракурор быў падабраны ўдала, і трымаў сябе з помпай, хоць за дваццаць хвілін да гэтага піў гарэлку з прастытуткамі ў падазроннай гарбатні на правох звычайнага, паліцэйскага філера. Адным словам, і трэці пункт прайшоў гладка. Чацверты пункт яшчэ гладзей. Гагаю проста ўклалі ў вусны тое, што ён павінен быў сказаць. І без усялякіх размоў, была вынесена пастанова накіраваць нас у СССР. Перш нават, чым Гагай здолеў унесці прапанову аб гэтым. Пункт нумар пяць прайшоў класічна. Даўгавязы хлапчук з дэфензівы падаў мне ключ, растлумачыў, што мне з ім належыць рабіць і пажадаў усяго добрага. Усё прайшло гладка. Затрымка з першага пачатку выйшла толькі з-за таго, што я быў слабы пасля пабояў. Перастараліся наглядчыкі. І я папраўляўся два тыдні. А далей...

Крамарчык глянуў у кут. Цяпер чалавек не глядзеў у зямлю. Яго вочы ўперліся проста ў твар Крамарчыка, і ў гэтых вачах гарэла дзікая нянавісць загнанага звера. Чалавек ўчапіўся скурчанымі пальцамі за паручні крэсла і, нахіліўшы тулава наперад, слухаў насцярожана, трывожна і ўважліва. Крамарчык зьдзівіўся гэтай змене. Але зараз-жа гнеў вострым, апаляючым струменем разліўся у грудзях. Стрымліваючы яго, Крамарчык момант маўчаў, пераводзячы дыханне.

Начальнік зрабіў адзнаку на лісце паперы і сказаў:

— Гаварыце, гаварыце...

— А далей... А далей, паручнік Рыдэль, справы пайшлі інакш. І хаця вы, па рэкамендацыі Каленбруна, і ўнікум, аднак, вы нават і не заважылі, як вас перавялі на другія рэйкі. Вы прыехалі да турмы ў сваім крытым аўтамабілі, апранутыя ў арыштанцкае адзенне, і ў лазьні пачакалі мяне. Мы шчасліва ўцяклі. Таварыш Врон, лепшы комуніст, крышталёвай чыстаты, цвёрды, як сталь, чалавек, ілгаў першы раз на жыцці, удзельнічаючы ў інсцэніроўцы, якую мы аргаізавалі для вас з Гагаем ў сувязі з нашым, выбачайце, уцёкам. Але без інсцэніроўкі нельга было абыйсціся. Як ні цяжка было ілгаць таварышу Врону і таварышу Яну, як ні цяжка мне было кінуць таварышоў і работу, і як ні цяжка было арганізацыі накіраваць мяне, аднак гэта было зроблена. Гэтага патрабавала справа. Мы бачылі абходны манеўр ворага ў наш тыл і павінны былі яго папярэдзіць. Мы не маглі дапусціць таго, каб гэткія паразіты, як вы і ваша агентура, Рыдэль, шкодзілі ў Соцыялістычным Саюзе, падрывалі—хаця і ў нязначнай ступені, аднак падрывалі—соцыялістычнае будаўніцтва.

— Гаварыце,—зацікаўлена сказаў начальнік і кінуў косы погляд на чалавека ў куце. Той сядзеў нярухома, у тэй-жа позе.

— І я павёў вас на вяровачцы, паручнік Рыдэль, выдрэсіраванага ў англа-французскіх школах, паслухмянага сабачку маццёрага фашыста майёра Каленбурн. Павёў другімі маршрутамі Вы не супярэчылі. Вы лічылі, што другі маршрут—гэта непрадбачаная планам Каленбруна акалічнасць. Вы так цвёрда верылі Каленбруну, што нават у некаторых выпадках давяралі і мне. І гэта дало мне магчымасць адлучыцца на хвіліну, каб прачытаць адну цікавую паперку. Ведаеце што там было напісана? Што правакатар Ярош Гагай растраляны цераз некалькі хвілін, пасля таго, як мы з вамі пакінулі хаціну таварыша Яна.

Чалавек у крэсле ўздрыгнуў.

— Будзьце спакойны, паручнік Рыдэль. Зроблена чыста!

Зноў бязвольна пачало схіляцца скамечанае цела чалавека. Ён заплюшчыў вочы і прыкрыў твар далонямі. Падкурчаная пад крэсла нага ўздрыгвала метадычнымі, кароткімі штуршкамі.

— Вы пачалі праяўляць адзнакі неспакою толькі ўжо пад канец падарожжа. Вас непакоіла тое, што вы не атрымалі ніводнага слова ад тых, якія вас паслалі. Адсутнасць сувязі давяла

вас да таго, што вы кідаліся да кожнага сустрэчнага паліцыянта, і мне даводзілася нацягваць вяровачку. І што далей, то больш узрастаў ваш неспакой, але я моцна трымаў вас, хаця гэта было даволі цяжка. Я не сумневаўся ў тым, што вы маглі мне стрэліць у патыліцу, як толькі вам што-небудзь здасца падазроным. Лавіраваць паміж вамі і паліцыяй, якая, бясспрэчна, круцілася па нашых слядох—бо труп Гагая што колечы сказаў Каленбруну, было даволі цяжка. Але вы слепа верылі ў геніяльнасьць Каленбруна, і вось—я прывёў вас. Толькі цяпер вы ўбачылі, што ішлі не па тых рэйках. Што далей, паручнік Рыдэль?

Твар Крамарчыка зноў уздрыгнуў сутарагай. Ён сціскаў кулакі і цяжка дыхаў, будучы ня ў сілах сутрымаць гнеў.

— Супакойцеся,—мякка сказаў начальнік.—Сядайце.

— Што далей, паручнік Рыдэль? пытаў Крамарчык.

Чалавек маўчаў.

— Ха-ха-ха!—нечакана рассмяяўся Крамарчык.—Ха-ха-ха! Выдатная рэч! Галодныя рабочыя брыдуць да дому, не маючы граша на трамвай, а токар Адам Турчын прымае ванну з адэкалону і едзе на ўласным аўто абедаць у рэстаран! Марціна Крамарчыка збіваюць да крыві пры арышце, а ў Адама Турчына, не гледзячы на тое, што з ім паўгадзіны змагалася дзесяць паліцыянтаў, адарваны толькі адзін гузік ад пінжака. Збіты Крамарчык ляжыць на падлозе камеры праз ноч, а Адам Турчын на сваім шыкарным „Мэрсэдэсе" прыяжджае да начальніка турмы дагаварвацца аб тым, як лепш паставіць вадэвіль з „вайсковым пракурорам"! Выдатная рэч, паручнік Рыдэль! І я не павінен ад вас схаваць таго, што, калі вы мне апавядалі пра цудоўныя гісторыі з чарэмшынай, мне больш за ўсё хацелася аднаго...

Крамарчык выцягнуў уперад рукі.

— Сціснуць вось гэтымі рукамі вашу кволую, панскую шыйку, задушыць вас і кінуць у раўчак! Але гэтага я не мог зрабіць, бо мне было даручана даставіць вас куды належыць і таму я нырау па вас у вір. Слабая ваша гайка, паручнік, цягацца з пролетарыям! Я—пажылы, выпрацаваны чалавек, прайшоў сотні вёрст і пераплыў раку. Вы—малады, выпеставаны і натрэніраваны ў англа-францускіх школах—топіцеся ў рацэ як паршывае парасё ў лужыне вады. Я даставіў вас і вы раскажэце, што уяўляюць сабою чацвертая і чарговыя часткі плана Каленбруна. Дрэнна вы вялі сваю ролю, паручнік!

Крамарчык адвярнуўся ад яго і прайшоў да стала. Начальнік нешта запісваў у блакнот.

— Выкрываючы вашы авантуры, мы не поўзалі за вамі на жыватах!—сказаў Крамарчык.—Мы не займаліся эквілібрыстыкай. У нас няма таемных планаў з гордымі эпіграфамі і ідыёцкімі дэвізамі. У нас—палітычна-масавая работа! Узнімаецца рэволюцыйны рух, з кожнай хвілінай расце рэволюцыйны прыбой, і ніякія авантуры не здольны стрымаць заканамернага нарастання

рэволюцыйнага руху. Галадуюць пролетарыі, галадуюць тысячныя масы сялянскай бедна'ты, узнімаецца гнеў мільёнаў; наспяваюць грозныя падзеі. І супроць чыстых, сумленных людзей працы, супроць іх мазольных рук вы ўзнімаеце сваю зброю, авантуру! Бакал шампанскага, мяшок золата благаслаўляе вас на барацьбу супроць вялікай праўды эксплаатуемых! Але майце на ўвазе, што партыя пролетарыяту, комуністычная партыя, стаіць на чале барацьбы. І тут ужо ў вас—кароткія рукі! Тут—смерць авантуры! Яна не можа прыстасавацца, не можа знайсці глебы, яна губляе свой сэнс і выкрываецца самімі масамі. Вы бяссільны і асуджаны на пагібель! Запомніце гэта, паручнік Рыдэль! Вы прагулялі сваю гульню!

І касцісты кулак Крамарчыка грукнуў па стале. План праваканыі, пад дэвізам „Тэорыя Каленбрун"—быў ліквідаваны.

Крамарчык адвярнуўся да вакна. Там уставала сонца. Яно фарбавала ў чырвань касматыя грывы лясоў, яно слала роскаш праменняў па палёх, яно кідала пурпуровыя смугі туды, за раку, і фарбавала зарэчную далеч чужой краіны ў ясную чырвань. Неба, вясенняе і чыстае, было сіняе і глыбокае.

Ззаду, за плячыма Крамарчыка разлеглася нявыразнае мармытанне і хрып. Крамарчык азірнуўся.

Чалавек стаяў, хістаўся на бакі і рукамі, якія дрыжэлі ў нэрвовай ліхаманцы, ірваў каўнер кашулі. У яго быў зусім сіні твар, мутныя вочы, у якіх тупа варушылася нянавісць. Ён ірваў і каўнер з асцервяненнем, перакошваў твар, выскаляў зубы, і хрыпеў і мармытаў нешта незразумелае. Начальнік заставы паклаў аловак і глядзеў на яго.

Затрашчала матэрыя. Пасыпаліся гузікі на падлогу. Тады Рыдэль схапіўся за галаву, і пальцы яго пачалі камячыць і ірваць пасмы валасоў.

— Гэта дзіка!—плаксівым голасам крыкнуў ён.—Гэта дзіка... Непраўдападобна! Каб я... Генрых Рыдэль... І так...

Ён упаў на крэсла зноў і звесіў. галаву. Яго плечы задрыжэлі. Разлеглася ўсхліпванне. Паручнік Рыдэль плакаў.

— Унікум,—адварачваючыся да вакна, праз зубы сказаў Крамарчык.

Паручнік Рыдэль плакаў ценькім, пакрыўджаным голасам.

Начальнік заставы паморшчыўся і ўстаў з-за стала. Падышоўшы да дзвярэй і адчыніўшы іх, сказаў некаму ў другім пакоі:

— Прынясіце флакон нашатыру і кварту вады.

* * *

Так прайшла і загінула, не дасягнуўшы мэты сваёй, класавая авантура пад дэвізам „Тэорыя Каленбрун".

*(Канец)*

В. ЛЕАНІДАЎ

## НА ПРАРЫВЕ

Ноч. Дажджы перасціхлі.
    і з-за хмар выплывае месяц.
Коні мерна ступаюць,
    ідуць баразной.

Толькі часам пужліва
    храпуць каля самага лесу,
Потым мерна ступаюць
    ізноў ды ізноў.

Гэтак мешань рыхтуем
    да поўначы самай,
Каб назаўтра закончыць
    апошні пасеў.

Потым коні спыняем,
    падсыпаем аўса ім,
І самі садзімся
    ля агню на халоднай расе.

Задумёна дзяўчына Алеся
    пазірае на зор карагоды,
Штосці хоча па іх
    невядомае ёй разгадаць.

Ветры свежасцю веюць
    з далёкага ўсходу
І цалуюць няспынна
    вясновую даль.

Яна доўга глядзіць,
    потым ціха гаворыць
І голле падкладвае
    ў жвавы касцёр.

— Хачу ведаць, Васіль,
    я пра землю і зоры,
Пра ўвесь свет,
    пра чужое і наша жыццё.

Я заўсёды па-свойму
гадаю пра землю і зоры,
А хто ведае гэта—
ці так, ці не так!

Штосці часта ўначы
мне сніцца горад,
Хлопцы кажуць—
вучыцца пашлюць на рабфак...

Праспявалі здалёк
звонкім голасам сонныя пеўні,
Потым зноўку наўкола—
нямая смуга.

Зноў за працу пара. Устаем,
разгінаем калені,—
Трэба-ж к раніцы скончыць
апошнія га.

* *
*

Працаваць дзень і ноч?—
Ёсць надзейныя людзі.
Гэта зробіць усё
маладосць.

Камсамолец заўсёды на пытанне:
„Будзе?"
Адказвае ўпэўнена:
— Ёсць!

МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

# НА ЧЫРВОНЫХ ЛЯДАХ [1])

## (АПОВЕСЦЬ)

## І. ЦІХІЯ СЯЛІБЫ

— Дык гэта вы, Іван Іванавіч?
— Я...
— Каваль?
— Каваль...
— Сапрыёнаў?
— Так...
— Ну, дык я тады распранацца буду.

Іван Іванавіч яшчэ раз агледзеў гэтага чалавека. Быў ён рахманы нейкі, вяртлявы. Ці то ад маладосці свае, ці то з другіх тых прычын якіх, хто яго разбярэ чалавека гэтага. Калі і маладосць, дык не першая, доўгія рудыя вусы звешваліся ўніз і паблісквалі ад газоўкі ледзяныя сусолкі на іх. Чалавек старанна абіраў іх, тупаў нагамі ля парогу, каб снег абіць, ногі сагрэць, завіхаўся ля камянка, рукі грэў. Але-ж сказаць, каб дужа да тае печы ладзіўся, дык не: башлык адкруціў, здзеў каптан, да стала падаўся.

— Аднак-жа і холад на дварэ, аж да самых касцей дабірае... А ты, чалавеча, чаго стаіш да газовачку тую ў руцэ трымаеш? Ты, браце, яе на стол стаў ды сядай от бліжэй... Ды пастой, сесці яно, браце, ня дзіва ў цяперашнія часы... Не пашкодзіла-б мне, здаецца, з марозу ды цёплае тае вады шклянку якую ўхапіць... Мо' прыстараўся-б як, згатаваў-бы тым часам. А я... я чалавек не горды, я й пачакаць магу...

— Але...

— А ты, чалавеча, без але... Пасля гэта, братка, пасля... Я-ж цябе наскрозь бачу. От стаіць чалавек, лыпае вачмі з прасыпу дый думае: што то за халера такая ў хату ўбілася, ды шчэ муштраваць мяне збіраецца... Дык, братка, пасля! Пэўне-ж братка, у цябе не вучастак, каб гэта дакумантаў пытаць, пашпартам там, скажам, цікавіцца. Дык ты, братка, чаю гэта, на

[1]) Глядзі „Полымя Рэволюцыі" №№2-3, 4, 5, 6, 7, 8-9

жывую хоць бы сабе нітку тую. Ды й я пасаблю... Што табе, лучынак нашчапаць, вады прыстарацца?

— Да я ўжо сам...

Іван Іванавіч завіхнуўся ля камянка, корпаўся з чайнікам там ды пазіраў зрэдку на гэтага нечаканага госця. Чалавек паспеў ужо сцены абглядзець, усе тыя малюнкі з календароў, нешматлікія фатаграфіі, заседжаныя мухамі. Перакінуўся на тое кола веласіпеднае, спецыяльнае тое кола, паяльнае.

— Аднак і механіка ў цябе, я скажу, адсталая... Саматужная, браце, механіка... Далёка з такой механікай не папрэш, не паедзеш...

- Да кніжок дабраўся, што на лаве стопачкай складзены. Рыўся як у сваіх, перакідваў з месца на месца, на зусім растрыбушыў тыя стопкі, парадак парушыў, пры якім былі складзены тыя кніжкі.

— Гэта я люблю... Дужа люблю... І цябе можна сказаць, паважаю, калі ты чалавек ды да граматы ўсур'ёз, калі вочы на кнігі свярбяць. Гэта добра... Вот—Горкі ў цябе тут—важнецкі, браце пісьменнік. З ім, браце, дзялы можна ладзіць, наш ён, душа яго, браце мой, незапраданая, жыццё наша бача наскрозь і аб ім стараецца. Яго чытаць можна і вучыцца можна. Ты гэта прачытай калі і падумай. І тады, браце, дарога перад табой—шы-ырокая, шырокая... аж да самага таго сіняга мора... Па дарозе той сонца над табой, залатое, гаручае... І галоўнае, на цябе свеціць, на цябе, чалавеча. Ад сонца таго павага табе, мудрасць усякая... Так, чалавеча, мудрыя словы ў кнігах гэтых, мудроныя словы. Вот ты і падумай, як гэта мудрае слова ды да нашага шэрага жыцця прыладзіць... А вот сцішкі ў цябе тут... Гэта, браце, здарма... Кальцова 'шчэ можна, а вот Феты ў цябе тут, Бальмонты—ад іх і падалей можна, нязручна нашаму брату да сэрца прымаць іх блізка. „Полно спать: тебе две розы я принёс с рассветам дня.“ Розы... Слёзы... Марозы... Чорт іх ня возьме тым часам гэтыя розы... Тут, жыццё, чалавеча, вяне, 'шчэ як вяне, марнуецца, крывёю часам сыходзіць... Вось, браце, пра што нам думаць, аб чым мазгі варушыць трэба. А розы... Яно, канешне, харашо... але ў сваю пару. Як і ўсё ў сваю пару, не раўнуючы, як для мяне чаю твайго шклянка.

І калі сеў Іван Іванавіч побач за стол, каб для прыліка таго выпіць яшчэ шлянку таго чаю, знікла дзесці ўстрывожанасць аб чалавеку, аб незнаёмым і нечаканым госці. Той спакойна еў, наразаў па-гаспадарску хлеб, дастаў з куферачка каўбасы скрутак, Івана Іванавіча частаваў. Чалавек піў чай і заняты вячэрай не дужа ўкідаўся ў гаворкі.

— Ты ўжо мяне выбачай, але з дарогі я знясілеў крыху, духі, браце, падвяло, дык я больш на хлеб і налягаю. Пагаварыць-жа 'шчэ—нагаворымся...

І тады Іван Іванавіч прыглядзеўся да чалавека бліжэй. Быў твар у яго звычайны, не па заказу, як кажуць людзі. Шырокі

твар, валасы на ім ёжыкам, над шэрымі адкрытымі вачмі густыя бровы, нос з барадавінкай. Бараду чалавек галіў, і таму яшчэ паважней выглядалі пушыстыя пракураныя вусы. Былі яны доўгія, рудыя, нібы прасмаленыя нечым крыху. Не было за імі асаблівага дагляду і таму звісалі яны, заміналі, відаць, есці, і чалавек раз-по-раз адкідаў іх пальцам вялікім, гэтак спаднізу, пракураным збітым кіпцем. Рукі былі пляскатыя з такімі-ж пазбітымі пляскатымі пальцамі, у чэрнядзі той прасмаленымі.

— Відаць ля жалеза чалавек ходзіць. Мо' ля машыны, мо' так... Прамазучаны...

— Ну, а цяпер, Іван Іванавіч, паважаны каваль Сапрыёнаў, нам з табою і класціся можна. Ты гэта на ложку? Ладна, а я хіба на печ падамся, адагрэюся там з дарогі. А цябе, відаць, нясцерп бярэ, што за нахаба наляцела ў хату. Няма і ў мяне ахвоты трывожыць цябе задарма. З чыгункі я, браце. Брата ты свайго, відаць, ведаеш. Ён малатабойцам быў у нас у дэпо раней, потым, як табе вядома, на чысцейшую работу перакінуўся, у слесары падаўся, і нядрэнны, можна сказаць, слесар з яго... А цяпер, сказаць табе, сусім на чыстую ён падаўся. Сядзіць, цяпер у турме...

— Гэта ведаю...

— Так, вось і ты ведаеш. Гэта харашо. А за што ён сядзіць, цябе запытаць?

— Трохі чуў і пра гэта...

— Ужо добра, што хоць троху чуў... А сядзіць за забастоўку, 'шчэ пад восень гэта мы ладзілі ўсім дэпо. 'Шчэ і другія каторыя рабочыя далучыліся, па лініі, па тэлеграфу. Ну, і трэба сказаць, не пашанцавала такі нам, уклеілі па карку як след, каторыя і за краты трапілі, не адзін ён там, брат твой. Мне-ж сяк-так пашанцавала да пары, да часу. А цяпер, браце, крута. Народ ізноў усхадзіўся, ну, населі на нас цяпер, ну проста дыхнуць не даюць. Ды што дня арышты. Ды так прыпяклі, што на якую часіну і хавацца трэба, перачакаць які тыдзень-другі. Не таму, што скуру сваю зратаваць... А зловяць без часу, карысці для нас для ўсіх, ну, проста сказаць, аніякае. Вось і падаўся я, браце, да цябе, у тваю кануру гэтую... А мо' як і перачакаю... 'Шчэ раней угавор з тваім братам быў. Калі крута, кажа, будзе, дык махай у мястэчка, брат там мой Іван Іванавіч з кавальства хлеб мае, мужыкам лемяхі наварвае, а чалавек ён свой, не выдасць воўку ў зубы, хоць, кажа, мой Іван Іванавіч трохі і недарэка і як зашыўся ў бярлогу— баіцца ў людзі падацца. Дык вось, Іван Іванавіч, справа якая прывяла да цябе. Раскошы мне не трэба, грошы, браце, сякія-такія ёсць. Прыдбаем як-небудзь і хлеб і да хлеба.

— Ды гэта ты ўжо кінь. От зваць як цябе?

— А заві, хіба, Карнеем... Імя, бачыш, такое цёплае і харошае, у самы корань глядзіць, глядзіць і не пытае... Аднак

і загаварыліся мы з табою. Дык ты, браце кладзіся спаць, ды й я на верхатур'е твае палезу.

Але 'шчэ доўга гаварылі. Пра дэпо, пра брата Івана Іванавіча, пра вайну, пра жандараў—„гарцаюць гады, як сабакі тыя па лесе— ні ўшчунку на іх, ні ратунку чалавеку рабочаму". Ужо раз і два зашастаў пад печчу крыллем певеньІвана Іванавіча, аж шыбы тыя зазвінелі ад гарластага голасу.

— Што ты гэта? Ці не гаспадаркай абсеў, да курэй дабіраешся?

— Не... Гэта, бачыш, для вясёласці трымаю. Жыве ў мяне пявун сіратой поўнай. Абодвыя, можна сказаць, бабылі мы з ім. А ўдвох весялей. Ізноў-жа і гадзіннік часта псуецца, а ён табе не падманіць, весалун мой падпечны...

— Хіба толькі так...

* *
*

І рукамі айцец Панфіл замахаў, і рукавы тыя, як крыллі, шалёх шалёх...

— І не думайце, чады... І не прасіце...

Аж бараду тую падкідаць сваю стаў, згроб у лапу ды подкідам, подкідам лапушыстую...

— Хіба-ж мае ён права на плод які? Не нашае зямлі чалавек... Не ў правах чалавек... У ваенным палоне... Ізноў-жа, калі падумаць, не наскае ён веры, можа яму ксяндза патрэбна, можа яму яшчэ чорта лысага, выбачайце, трэба...

— Нам, бацюшка, хоць бы й чорт, хоць бы й лысы... абы рыза на ім да крыж...—адрэзала са зла таго Тацяна ды ў вугал аж сплюнула. Хацела нешта яшчэ рукамі дадаць, але былі тыя рукі клопатам звязаны, дзіця трымалі, у пялюшкі заверчанае. І ці таму, што дзіця тое раздзіралася крыкам, аж нос той-бубачка пасінеў, брала злосць Тацяну. І на папа—іш, зараза, ні прыступу... І на Янука—стаяў той, нерашуча тупаў на месцы, было ўсё ў навіну яму, упершыню даводзілася бачыць так блізка папа праваслаўнага.

— Гэта пастар, гэткая-ж барада апостальская... І кулакі...— скасавурыў вока на тыя рукавы шырокія.—І словам божым можа, ну а ляпне дзясніцай—адразу дух ка госпаду... Важнецкі пастар, што і гаварыць...

Тацяна локцем падштурхвала Янука, прагудзела ўсе вушы:

— Кум-жа ты не хто інш, дай рады папу...

Але дзе ты да гэтага пастыра прыступішся, той усё сваё:

— Дык вы й не думайце... Канешне, хрысціяне вы, і думкі добрыя ў вас, каб гэта чалавеку дапамагчы, але-ж не магу... Што не магу, дык не магу... Ніякага права не мае ён на плод...

— Што вы, бацюшка, плод калі гэты плод, можна сказаць, хлопцам вышаў... Адно—ахрысьціць толькі... Вам гэта не ў труд... Ізноў-жа за труд...

— І не гавары, мая кабета... Нічога я супроць Ганны не маю... Ізноў-жа і Язэп— аўстрыяк— ха-а-рошы чалавек, працавіты чалавек... Але-ж католік ён, палонны ён... Не магу я тут без кансісторыі... Калі ўжо на тое пашло, запытаю от, як там скажуць...

І ліха тое ўссела тут на Тацяну.

— А млын трымаць—пыталіся вы ў кансісторыі? А да баб чужых падалы мацаць—раіліся? А пападдзю біць—мо' да архірэя ездзілі?

Ледзь барады сабе не выдзер айцец Панфіл ад метушэння таго, ад знявагі нечуванае, бабскае тае звеганіны, дай ты ёй рады...

— Май ты бога ў сэрцы, чада мае... Ці так-жа добрыя людзі справы робяць, каб без нажа чалавека рэзаць? Ды такія-ж словы непрадуманыя... Хіба-ж так людзі да лада даходзяць, ды 'шчэ з сваім духоўным настаўнікам... Трэба ўсё да ціхамірліва, любамірліва каб... Мы й падумаем, мазгой паварушым, а мо' яно й на лад пойдзе, мо' яно на ўцеху вам выйдзе...

— Вы сабе як хочаце, так і думайце, а ў мяне слова да вас будзе простае: дзіцю трэба хрысціць, дзіця не пыталася ў бацькі, якога ён цара пілнуецца, і які яго поп хрысціць павінен... Няхрышчонікам-жа яно не будзе, як вы сабе хочаце... Мы й пакінуць вам яго зможам, калі не дасце вы тут рады...

Пацерабіў айцец Панфіл бараду крыху, рукамі развёў—што ты зробіш тут.

— Дык пойдзем хаця, чады... у пакойчык той у баковачку...

Доўга чашу тую— місу вялікую ставіў, вадойналіваў. Нехаця сабіраў прычандалы, крапідлы, пендзлікі, аж крахтаў, нацягваючы эпітрахіль. Агледзеўся 'шчэ раз,гучна высмаркаўся—аж дзіця тое ўскрыкнула з перапуду.

— Дык станавіцеся хаця, пачынаць хіба будзем...

Нудна маліўся айцец Панфіл. Углядаўся ў столь—падапрэла там пара дошчак,прыдзецца выкінуць няйначай. Пазіраў у вакно— корпалася пападдзя ля плота—то-ж не ўтаймаваная, соўдаецца заўсёды, як няпрыкаяная паплёвішча тое людзкое...

— Ну, дык плюнце хаця?

— Гэта мы могам... Так бы вы, бацюшка, даўней... А то не магу ды не магу...

— Не ўводзь ты, чада маё, у грэх мяне... Ідзіце ўжо хаця да Язэпа, сына яму нясіце ды дарогай-жа дзе з рук не выверніце... Бо з такім імпэтам...

Не паспеў дагаварыць айцец Панфіл, як тыя ўжо з хаты вымеліся. Ішлі аж уподбежку, каб дзіцё лішне на марозе не трымаць. Падміргвала Тацяна Януку:

— Бачыш, такі далі рады... Але-ж і кум з цябе, трэба сказаць. Чаркі ты, браце, добрай не варт. Скажу от хіба ўжо Язэпу дый Ганне, як ты папа напужаўся, з языка з'ехаў... Але жарты жартамі, а калі мы твайго панясем хрысціць? Хіба-ж вы зломкі з Насцяй?

— Ат, адвяжыся ты, назола...—мармытнуў Янук, думаючы аб нечым, аб сваім, аб сукрытым.

Айцец Панфіл доўга не мог давесці сябе да ладу. Усё хадзіў па пакоіку, перабіраў валасіны тыя пакручастыя ў барадзе, лаяўся:

— Ну й ну... Не жанчына, а казня табе ягіпецкая... Ці то аб пападдзі думаў, ці аб Тацяне той, аб куме Язэпавай.

— Чыстая табе Аўстрыя, не язык, а арудзія, даруй божа...

Відаць было, думкі мітусіліся на Тацяне, на Казішчынай. Гэтакай-жа нясусветнай дзяўчыне.

* * *

— Вы гэта па бакох, каторыя, а я следам, следам...—камандаваўураднік, расстаўляючы людзей на балоце.

— Да цішэй, не ўзнімайце гоману задужа, а то ўцячэ каторы... А ты, дзед Цыпрон, от проста так на стог і кіруйся, ды пільнуй...

— А чаго гэта мне пільнаваць, скажам?—запытаў паціху Цыпрон суседа. Урадніка не пытаў—дужа гэта там цікава справу з ім мецъ, з начальствам?

— А дызертыраў ловім, суседзе.

— А хто яны такія будуць, суседзе?

— От хтокала-ж... З салдатаў паўцякалі, уцекачы, значыцца, ну й туляцца па стажкох, на балоце...

— Ну й няхай яны, суседзе, і туляцца, вялікі-то нам клопат, дужа яны замінаюць нам, скажам?

— Многа ты разумееш, дзед....

Людзі пасоўваліся ўсё бліжэй да Фядосавых стажкоў. І калі падышлі зусім блізка, ніхто не меў асаблівай ахвоты выпінацца наперад, першым ісці да таго стогу. Усе нацiскалі на Цыпрона, каб ён гэта першым стог агледзеў,—упільнаваў бы першым. Але як зашыўся дзед адзаду, дык ніякімі крукамі не выцягнуў бы яго наперад.

— Што мне жысця мая абрыдзела, ці што? Каб я жыватом сваім паклаў тут... за вошта? Здаецца мне, што не пайду я, відаць не пайду... Ні завошта не пайду...

— Эх, ваяка з цябе, дзед Цыпрон. А 'шчэ салдатам быў...

— Вы гэта, пане ўраднік, дармо... Можа я ў салдатах і ня быў, гэта і суседзі ведаюць... Можа я ў ратніках толькі быў і то колькі тых тыдняў... А тут без аружыі не падыходзь... Ён цябе пырне каторы, а то і ўстрэліць можа... жалься тады, каму хочаш... Добрае дзела... Не спрыцен я на гэта, ды й чэрава ў мяне цяжкое, не дазваляе... Я ўжо назіркам хацу... Будзе калі каторы злодзей бегчы, я і ўчарэпаю яго, дам рады... А то пніся наперад... Гэта вы ўжо, пане ўраднік, як пры аружыі. Вам і бог вялеў...

Няма калі было спрачацца з Цыпронам, і ўраднік, падцягнуўшы папружку, пасунуў наперад. За ім, згрудзіўшыся ў купку,

панятыя. Паволі набліжаліся да стогу, нагіналіся да зямлі, уцяўшы голавы ў плечы, каб, крый божа, ад кулі тае бараніцца.

Дзед Цыпрон ішоў назіркам пазадзе і, пазіраючы наперад, прыслухоўваўся, як нешта захаладала ўнутры, аж пад самымі тымі печанямі ды сэрца пачало тахцець, нібы от з палка таго пякучага злез у лазні гарачай.

— Ну й жысця... Праз чужыя клопаты на старасці год у вайну ўцягаюць, у самую можна сказаць бойку...

І калі ўраднік, набраўшыся смеласці і адвагі і крыкнуўшы дзіка: „ану здавайся каторы...“—кінуўся з карабінам да стога, дзед як дуж драпянуў за бліжэйшую алешыну, зачапіўся лапцем за купіну і ўсім чэравам сваім так і ўліп у лёд, выцяўшыся да таго, што аж духі заняло. Ляжаў там, прыслухаўся, а ці хутка той бой будзе. Калі-ж сцішыўся гоман ля стога, прыўзняў ня смела галаву, зірнуў туды, за алешыну. Ля стога спакойна стаялі людзі, гаманілі аб нечым. Тады ўзняўся крэкчучы, да іх падлыпаў.

— А я, браце суседзе, забарсню папраўляў,—разбарсалася ліха на яе...—Да Банадыся гэтак.

— Мне твая забарсня ні к чаму... Не аб ёй мне клопат.

Ураднік нытрыў ля стога, пароў карабінкай з бакоў, падніз, увесь той стог растрыбушыў... Але і звання чалавечага не было ніякага таго чалавечага следу..

— Ты можа, хлопец, збрахаў часам? Ты можа анучыну якую за чалавека прыняў? Мо‘ прысніліся табе чабаты тыя салдацкія, з падкоўкамі каторыя? Мо‘ з перапуду табе, хлопец мой, у вочы ўкінулася?—насядаў на Банадыся ўраднік.

— Ды што вы, пане ўраднік. ‘Шчэ толькі гэта я прыкмеціў... Ды што прыкмеціў, калі чалавек, можна сказаць, кашлянуў на поўны свой голас і чабаты тыя варухнуліся... А вы кажаце... Я тады гэта да коняй...

Тут зірнуў Банадысь і збялеў нават.

— А коні дзе-ж?

— Якія коні, чалавеча?

— Ды нашы коні... Я-ж на парцы коняй прыяжджаў па сена, коняй тут і пакінуў. Бач-жа: ні саней, ні коняй...

— Гм... Гэта ўжо другая стацця... Кепская, браце, стацця, калі кажаш пра коні. Коні, канешне, і грошы каштуюць, а вашы коні, я ведаю, што ні кажы, не коні, стаеннікі,—суцяшаў Банадыся ўраднік.—Гэта, браце, калі бацька, крый божа, запытае у цябе пра іх, дык мала не будзе... А што запытае, як піць даць...

— Няйначай, як запытае... Відаць, запытае... Уга, ‘шчэ як запытае,—аж узрадаваўся тут дзед Цыпрон і рукамі замахаў.—Здаецца мне, пытаць будзе... А чалавек ён—Хвядос—можна сказаць, грымлівы... Грымлівы, ён чалавек, людцы мае...

— Маўчаў бы ты хаця, чорт пузаты... тожа лезе...—агрызнуўся Банадысь на старога.

— Чаго ты, чалавеча? Ты яго суцяшай, а ён на чалавека ўз'еўся... Мне што, мне пра коні твае клопат малы. Табе-ж, дурному, параду даюць... А пуза ты майго не чапай, яно табе свету не засціць...

Хадзілі ля стагоў, абышлі балота ўсё, на дарогу вышлі, а коняй тых—ні следу, ні паху. Толькі й знайшлі, што пацяруху тую сенную па вазавой дарозе зімняй.

— Эге... Гэта-ж на Здырдзічы твае коні падаліся няйначай. А калі туды,—памінай іх як звалі. Там яны заліліся... Калі толькі ў Здырдзічы—ні дна ім, ні пакрышкі, купляй новых, адным словам... Ізноў-жа ня мой і вучастак там... Дык хадземце хіба дамоў.

Вечарэла ўжо, як у мястэчка ўваходзілі. Дзед Цыпрон паважна ступаў—у гэтай-жа справе небяспечнай удзел, можна сказаць, браў. Гэта не кожны, канешне, зможа. Але-ж і радаваўся і ўсё-такі мілаваў госпад-бог у бойцы той на балоце. Расказаць от бабам, дужа яны табе веры дадуць.

* *
*

У Асроэля Нохіма заўсёды клуб. Асабліва-ж, калі дачка прыяжджала, Гінта, што ў горадзе разам з дачкой рэба Нісана вучыцца, з Бэцяй. Вархалу тады ў хаце, гармідару—не абярыся, аж вату закладае ў вушы паважаны фэльчар Асроэль Нохім, каб і вушы свае не натрудзіць залішне, дужа ты іх пасля да трубкі прыкладзеш. Але-ж ён не сярдуе—дзяўчаты. Што ты з іх возмеш, на тое-ж і гады тыя, каб пагарэзаць, паскакаць, у спевы ўкінуцца маладыя. І сядзіць рэб Нохім у куточку ля печы, зашыўшы носа ў газеціну, пазірае праз яе на хату. Тут-жа цэлае мястэчка: дзяўчаты і хлопцы, каторыя і старэйшыя пазашыліся ля сцяны, з моладзі цікуюць. Вунь ля самых дзвярэй прытуліўся Чырвонец, міргае пачырванелымі вачмі, часам пускаецца ў бясклапотны рогат. Будзе сядзець тут, пакуль не ўсунецца ў хату важкая постаць жонкі, заскрыпяць тады каля дзвярэй маснічыны і, грозна агледзеўшы хату, запытае яна:

— А ці не бачылі вы тут байбуса майго, Лейбу?

Пажартуе дзяўча каторая:

— Не відаць было... Ці яму хіба ў нас інтарэс які, чалавеку старому...

Прыплюшчыць вочы Чырвонцава палавіна, галаву крышачку ўгару, ды такімі вачмі надорыць каторую, у той і язык і спрыт той адымецца. Тут і свайго ўгледзіць, проста перад носам сядзіць, ушыўшыся за чужыя спіны ля сценкі.

— А ну!...—і ні слова таго болей, ні гуку. Толькі галавой матане. І без слоў разумее Чырвонец рух той, загад:

— Ідзі, зараза, хаця дзіця закалышы, а я рыбу пачышчу...

Не сказаць, каб дужа да спадобы было Чырвонцу яго палавіна, але дзе ты дзенешся ад яе. Ізноў-жа, каб не яна, дужа яму

Чырвонцу гэткую хеўру дзяцей выгадаваць. Што год, то дзіцё, а мінулым летам дык і зусім чалавеку пашэнціла: аж цэлую двайню бог даў. Аж зароў быў Чырвонец: божа любы, божа, чаму ды такія прывілеі мне, такія, можна сказаць, міласці залішнія. Але нічога—гадуюцца сабе Чырвонцавым клопатам ды рукамі тымі дбайнымі, гаспадарскімі яго паважанай палавіны. Так ужо канцы з канцамі сточвае, што аж дзівуецца часам сам Чырвонец—скуль яно ўсё бярэцца ў яе, з нічога можа часам цэлы полудзень згараць. І сама ад тых клопатаў як дзяжа расце, ідзе, грудзі калышуцца, як вазы тыя з сенам.

Спрабавалі кпіць каторыя з Чырвонца:

— Як ты, браце, такую сілу адужаў узяць за сябе?.. Гэта-ж яна адным пальцам цябе па носе як шчоўкне—толькі табе й кеўкнуць, браце... адразу й садухі выйдуць...

— Не шчоўкне, чалавеча... А што ўшыркі яна йдзе, дык гэта дактары казалі—ад сухога харчу... такая камплекцыя. Каб от на воды...

— Хіба-ж то ад сухога... дзіва то—на воды... Нешта от ты толькі на трэску згіндзіўся ад таго харчу сухога... Камплекцыя ў цябе дужа лёгкая.

— Гэта як чый арганізм.

— Калі арганізм, дык так... Арганізм ён, браце, сваю натуру знае, тут, браце, нічога не скажаш.

Так і адмахваўся арганізмам ад назол тых усякіх Чырвонец, Хадзіў па муку, па запалкі, па голкі, цягнуўся за імі ў горад ладзіў гандаль свой невялікі, ды калыхаў дзяцей. Засне калі каторае, падаваўся на людзі, бліжэй да смеху людскога, да чалавечага слова. Вальней там дыхаецца на людзях.

...А ў Асроэля сваім парадкам. Бэці-смолка, так празвалі яе за смуглы твар, ды Гінта-агонь—рудыя ў яе косы, агнявыя, так і палымеюць жар-жарам, хоць вочы тыя закрывай рукамі—галузуюць дзяўчаты, гульні водзяць. Кпяць над рабінавым сынам Самуілам—яшыботнікам. Сядзіць той у доўгім каптане, невялічкай шапкай прыкрыўшы курчавыя валасы, смуглявы твар, на якім гараць чорнымі міндалінамі вочы, і не сыходзіць з заняпалых зямлістых шчок ні то лёгкая ўсмешка ні то гіронія: над сабой, над імі, над гэтымі смолкамі і агнямі, над гэтай чырванню шчок, прарэзлівым смехам, над усім гэтым гоманам, вархалам, сумятнёй, што завецца жыццём. Але-ж вабяць гэтыя смолкі і вейкі смалявыя, і вочы, у якіх гарэзныя подсветы лямпы і дзявочы смех.

— Дык, пане Самуіл, скажыце, чаму вас вучаць у яшыбоце?

— Шанаваць прыгожых дзяўчат...

— І дужа вы ў той навуцы маеце посьпех?

— Гэта можна сказаць толькі каторай на вуха...

— Уга!.. дужа вы за многа захацелі, пане Самуіл... Трэба заслужыць раней, каб вуха вам падстаўляць...

— Іш, чаго захацеў, вуха... Табе ў божае хіба вуха глядзець, багамола, аб божых тых пейсах думаць, чаму яны пасівелі здаўна...—нейдзе з боку бухнуў Пінька, Пінька той Лазакрут, ды ціха яго пад бок Мотэле Гінт: „што ты, дурань, выскачыў, як абвараны...“

Смуглявы твар Самуіла бялее, і на ім усплываюць рэдкія плямы чырвані, шырацца міндаліны воч, і ў іх паблісква юць агенькі. Самуіл ідзе да Асроэля Мохэра.

— Мне вельмі шкада, рэб Асроэл, але над домам вашым шугае дух распусты, чорнай распусты, рэб...

Сам рэб Асроэл узрушаны, доўгая барада ходзіць сівымі хвалямі, узлаваны рэб Асроэл.

— Дзе, пытаю я, бачыце вы таго духа?

— Вы пускаеце ў дом гэтага чалавека...—не рукамі, а позіркам воч паказвае Самуіл на Піню.

— Гэта, пане Самуіл, не дух. Гэта, пане Самуіл, Лазакрут Пінька, Пінька-яўрэй... І дом мой не зачынены ні для каго... Калі-ж дзяўчатам вы не да спадобы, дык і сам госпад-бог нічым вам не дапаможа... А вам, Піня, сорам, каб у маёй хаце заводзіць сваркі, абражаць, гм... сына нашага паважанага рабіна... Навошта гэта—я вас пытаю... Ізноў-жа пра бога... У мяне народ, у мяне дзяўчаты, вам, Піня, трэба такі звязаць языка крыху, каб ён не матляўся задужа. А цяпер ша... Нашто сваркі... От паслухайце лепш газету, навін некаторых паслухайце.

Рэб Асроэла цікава паслухаць. Ён у кожнай газеце знойдзе жыцьцё“, як ён кажа, звойдзе „самы пульс“.

Ён чытае апошнія весткі з фронту, пра далейшы адыход расійскіх войск на „загадзя падрыхтаваныя пазіцыі“, пра высяленне небяспечных элементаў з прыфронтавай паласы і „ў першую чаргу яўрэйскага насельніцтва“. І не проста чытае рэб Асроэл. Міміка, гэсты рук дапаўняюць яго словы, і слухачы не толькі чуюць, але і ўяўляюць сабе гэтыя загадзя падрыхтаваныя пазіцыі і тэмпы гэтага адыходу—шпарка перабіраюць па стале Асроэлавы пальцы, і ад тэмпаў тых трасецца яго сівая барада, чуецца смех хлапцоў і дзяўчат.

Каторы-то раз усё рыхтуюць пазіцыі... Рыхтуюць, рыхтуюць і, відаць, кепскія ўсе пазіцыі—пакідаюць, бач, немцам, а самі зноў на „загадзя“...

І калі чытае ён аб „небяспечных“, твар яго гарыць усімі невымоўнымі жахамі, старыя змаршчакі плятуць павуціну страхоцця, сівыя бровы становяцца старчком—„ах-жа, якія жахі, якая вялікая пагроза непераможным вайском...“

На тварах слухачоў узнікаюць і расплываюцца ўсмешкі. Але вянуць яны на паўдарозе, нібы нехта шурпатай рукой дакранаецца да гэтых цёплых усмешак, і жывыя твары блекнуць, шарэюць, тухнуць зыркія вочы.

— Смешна?—пытае рэб Асроэл.—Што вы думаеце аб гэтым, „небяспечныя“ маладыя людзі? Мо‘ гэта цікавей ад вашых спрэ-

чак з Самуілам, мо' гэта цікавей ад навук Самуілавых? І што вы думаеце аб гэтым, дзяўчаты?

— Мы, татэ, нічога не думаем... Няхай нас не чапаюць і мы нікога...—адказвае дачка Гінта, Гінта-агонь.

— Гэта кепска, што ты не думаеш... Той, хто не думае, той не жыве... Той, хто не думае, той—трава... Той, хто не думае... Лёгка жыць на зямлі без думак, але-ж следу ніякага на зямлі не застанецца ад таго чалавека... Кепска калі не думаць... А вы павінны думаць, у вас маладыя мазгі, каб думаць...

— Як гэта так, каб не думаць?

І тады пачынаецца вялікі гоман у хаце, гарачыя спрэчкі. „У маёй хаце, як у гармаце", кажа часам рэб Асроэл. Тады разгараюцца яшчэ больш чорныя міндаліны Самуілавых воч, і на заняпалых шчоках разліваюцца здрадлівыя чырвоныя плямы.

— Аб чым гаварыць...—звініць яго надтрэснуты голас.—І не раз і не два гаварылі вам, што мы толькі госці на рускай зямлі... не нам яна і не мы ёй... Не ў Расіі і не ў іншай якой краіне будзе жыць яўрэй... Што, значыць, жыць? Быць гаспадаром свае зямлі, свае волі, сваіх жаданняў, мець свае парадкі, свае законы, мець сваю армію, нарэшце. Вось што значыць жыць.

— А дзе той яўрэй думае жыць?—пытае рэб Асроэл і не пытае, а кепікі строіць. У рэб Асроэла свае думкі. Пра яго кажуць, што „ў яго няма свайго бога", што ён з выгляду толькі яўрэй, для прыліку ў сінагогу ходзіць, а душу сваю даўно за радаў чорту лысаму, адрокшыся ад свайго народу, ад душы народа.

— Як дзе?—І тады Самуіл пачынае гаварыць аб богам абяцанай зямлі, аб вялікім палестынскім руху, якому кожны сумленны яўрэй павінен аддаць сваё цела і душу.

Самуіл уваходзіць у сваю ролю, і ўся яго нізкая постаць, чорны каптан, чорныя міндаліны воч, чорная шапачка прыходзіць у вялікі рух, і тады здаецца: не нізенькі Самуіл кідае свае гарачыя словы, а шугае нейкі чорны агонь, непакойны, няўмiручы, які прайшоў праз мільёны магіл і трун, прайшоў праз вякі і гады, прайшоў з тым, каб зноў і зноў гаварыць 'шчэ жывым, што надыйдзе час і прыдзе ён—найвышэйшы і грозны, адкрые векавыя магілы, ажывіць памёрлыя душы, ажывіць вялікімі непераможным сваім духам, засвеціць згаслыя вочы згубленымі яснотамі неба, пакажа дарогу на абяцаную зямлю, на будучую светлую айчыну. Хіба не аб гэтым пісалі пракрокі? Хіба мы не павінны слухаць пракракаў?

Канчае Самуіл, і чорныя міндаліны воч урачыста абводзяць пакой. Ад чорных іскраў яго вачэй вянуць і густа ападаюць агнявыя вейкі Гінты і ўздыхае Чырвонец—божа, божа, дзе падзеліся тыя прарокі, якія-ж то прыгожыя казкі... ды нейкім халадком праціннаецца сэрца ў Бэці, холадна на душы, холадна, і чамусці ўсплываюць на памяць зябкія плечы, сутуленая і маўклівая постаць... Ссыльны... І прарокі...

Дзе яна залатая сярэдзіна тая, дзе яны, залатыя словы аб праўдзе, аб вечнасці, аб айчыне.

І ні то ўсміхаючыся, ні то сур'ёзна, дэкламуе пад нос рэб Асроэл:

Для нас айчызна толькі там,
Дзе любяць нас, дзе вераць нам.

— Не тое, рэб Асроэл, не тое... Але я да Самуіла,—паднімаецца ўзрушаны Пінька.

— Ты от кажы-ка мне, вял-і-кі вучоны, адкажы-ка мне...
Харашо гэта ў цябе: і Іезікііль—харашо, і Іерэміяда—харашо, і Эклезіястам напужаць можна, калі хто палахлівы. Аднак, што загадаеш мне рабіць у Палестыне? Ну, Алтэр—яму камерцыя, яму й бог і прарокі вялелі... Лейба стараста—чаму-б яму не быць там старастам, ха-а-рошы чалавек... Ну, Самуіл што-ж, выходзіць яму на рабіна ваканцыя, ха-а-рошая ваканцыя. Калі, канешне, не адаб'е мазгі на Іезікіілі, будзе рабінам. Адаб'е—і то не бяда, можа шамесам быць—і то хлеба кавалак... А што мне загадаеш рабіць, мне, Піньку Лазакруту? Кажуць, лаза там не расце, што-ж я круціць буду?

Нехаця, каб адчапіцца, кідае Самуіл:

— Будзе якое другое дрэва, будзеш і круціць...

— А пакруці ты кішкі свае, павыкручвай... На сябе пакруці, ды паспытай... Каб я круціў, а другі жылы з мяне выкручваў разам з усімі вашымі чарвівымі прарокамі. А падохнеце, а не выдыхаеце, а хваробы, каб вы прычакалі з такой айчынай!

Аж шыбы гудуць тады ад раз'юшаных галасоў.

— Хіба-ж так можна спрачацца?..—стараюцца каторыя Піньку суняць.—Ты-ж яму давядзі, калі думаеш, што ён не правы.

— Я яму й давяду... Так давяду, што больш не захоча...

І калі ў самы разгар уваходзяць спрэчкі, часам чуецца стук у дзверы; яны адчыняюцца і з-за плінтуса дзвярэй вылупляецца знаёмы ўсім твар: шызы нос, падкручаныя вусы і пад імі усмешка—шырокая, аж да вушэй. Вузенькія вочы жмурацца, як у курнявага ката, левая рука на сялядцы—каб не дужа бразгаў.

— Гэта я да вас, пане фэльчар...

Рэб Асроэл паважна ідзе да дзвярэй, матляецца ў руках газета, матляецца сівая барада, і ніякага здзіўлення ў яго, ніякага перапалоху, як у іх вунь, у маладзейшых—куды і спрыт той падзеўся, галасы ўсе астыглі.

За лякарствам няйначай, пане ўраднік?

— Але-ж, адгаднік вы, вялікі адгаднік... З якой гэта я прычыны буду пана фэльчара турбаваць, ды яшчэ а позняй начы. А вы ўсё палітыкай, палітыкай захапляецеся,—міргае на газэту.—Дужа вам, чалавеку старому, у газеты тыя глядзець?

— Дык чаго-б хацелі, пане ўраднік?

— А ведаеце нешта ломіць на жывот ды й грудзі, ведаеце, залажыла крыху... Дай думаю, пайду да фэльчара, спірту якога запытаюся...

— Каб ты ўжо сапраўды жыватом не ўстаў, усе запасы мае павыцягаў,—думае рэб Асроэл і йдзе ў аптэчку па „лякарства“.

Хату апаноўвае нязвыклая цішыня, сёй-той паціху выціскаецца на вуліцу, каб падацца дамоў. Самуіл прапануе Бэці свае паслугі—правесці да хаты, гэткая-ж пара позняя. Ён ідзе ўслед, і ў голасе яго гарачыя просьбы, але тая раптам уцякае і толькі чуваць здалёк яе звонкі голас:

— Хіба заўтра ўжо, Самуіл... я й адна не баюся...

Услед за ўраднікам ціханька выбіраецца Чырвонец. Ураднік стаіць пад ліпай і, падняўшы пляшку да месяца, аглядае крытычным вокам лякарства, а ці хопіць яго хоць на раз, то-ж бяда, манапольні закрылі. Каб не фэльчар, няма ведама жыць як...

Тады нерашуча падыходзіць да яго Чырвонец, нясмела торгае за рукаў.

— Пане ўраднік... А, пане ўраднік... Гэта-ж я па грошы прыходзіў... Грошы каб пазычыць у рэб Асроэла... Гэта-ж так патрэбны мне грошы...

Ураднік хавае пляшку ў кішэню, аглядае бязуважлівым позіркам чалавека.

— Га... Гэта ты, Чырвонец... Па грошы, кажаш... І пазычыў кажаш?... Ну, гэта добра. Ха-арошы чалавек Асроэл, няма чаго казаць...

— Дык я-ж па грошы...

— Ну й добра... Ідзі, голуб, і я от пайду да хаты.

Чырвонец стаіць яшчэ колькі хвілін, нерашуча тупае намесцы і, углядаючыся ў ўраднікаву постаць, якая мітусіцца ўжо далёка на вуліцы, мармыча пад нос:

— Ах, божа, божа, які дрэнны ў мяне характар... Дрэнны характар я маю... Можа ён мяне і не заўважыў у хаце... Наліха падыходзіць было... Ну й характар. Каб-жа мне такі як у супругі маёй... Не характар—камень... Што я кажу—жалеза... Каб-жа мне да такі характар... Каб жа хоць палавіну яго... нікога-б я тады не баяўся на свеце...

Да гэтага мармытання прыслухаўся Пінька Лазакрут. Вышаў з фэльчаравай хаты, стаяў на ганках, думаў аб нечым...

— Сволачы,—у голас думкі тыя прарваліся. І слова тое Чырвонца спалохала, з месца скранула.

— Што гэта ты, Піня?

— Да не пра цябе я... Ты—што... Ты—божая тля... Не аб табе я...

* * *

Як стаяў Банадысь, так і паляцеў потырч пад стол, ухапіўшыся рукамі за лаву. Аж ёкнуў там, распасцёршыся на падлозе, ушыўшы галаву за ножкі стала.

Дужа ўзрушаны быў Хвядос, мітусіўся, засопшыся, па хаце і раз-по-раз, падышоўшы да стала, біў па ім кулаком, і тады брынчэла ў качарэжніку, слаба дзынкалі шыбы ды кідаліся спалоханыя водбліскі лампадкі на стол, на печ, на змрочныя сцены.

— Ці-ж я вінаваты тут?—абзываўся з-пад стала Банадысь.

— Ты пагавары ў мяне... Я цябе навучу, хто вінават, хто не... Колькі то яму гавары, колькі то яго навучай, як на сьвеце жыць,—дык дзе-ж, пытаю, розуму укладзеш ў галаву дурную... Хіба так да людзей ставяцца, надаўбень... Ты на чалавека вока мей, а гавары з ім як з прыяцелем, каб не ўведаў ён, скуль бяда тая ўрэпілася на яго. Чалавек не будзе тады зубы на цябе тачыць, бо ты не ты, не твае то клопаты... Ты бачыш—я. Я—стараста... Мне давер'е ад уласці, і павінен я гэту ўласць паважаць і ўсякае ёй старанне аказваць. Ізноў-жа, і з людзмі павінен я жыць... каб і слухаліся, і паважалі, і баяліся. Па закону каб баяліся. Ты павінен так сваю лінію весці, каб уласць ніякае страты не мела, і да цябе каб людзі лішне не чапіліся. Старасту не прыстала злодзея хапаць за грудзі, бо ён гэты злодзей спаліць потым цябе, з дымам попелам пусціць. А ты соцкага пашлі, ты ўрадніку скажы... Да гэтага яны і прыстаўлены... І ніхто да цябе чапацца не будзе, слова чорнага табе не скажа.

А то на табе, дызертыраў лавіць надумаў ён... Ну, сказаў ўрадніку, гэта добра, яго то справа. Балазе то людзі не бачылі, як ты казаў... Дык ён яшчэ з ім гарцае па полі, па балоце... Рупіць яму дызертыра спаймаць... Вот і спаймаў, каб табе вочы на лоб павылазілі... Дужа цяпер гэткіх коняй прыстараешся, яны-ж табе цяпер у жывую паўтысячу не ўлезуць... Ды 'шчэ, каб коні адны, дык столькі таго і клопату—мяне тым канём з капыла не саб'еш, каня і набыць можна. Не баяўся то воўк сабакі, а звяганіны тае баяўся. Чаго, чаго не начаўпуць цяпер, ды 'шчэ пільнуйся, каб не спалілі... Падсабіў называецца... У-у-у... кручаная галава... Не розум, а галава баранняя.

Сеў на лаву Хвядос, каб аддыхаць крыху, думкі да ладу прывесці. Скрыпнулі дзверы тут, увайшоў Цыбал Іван.

— Дык дзень, хіба, добры вам у хату!..

Хвядос пугу тут палажыў на лаву.

— Няйначай у дарогу куды, ці з дарогі?

— Якая там, суседзе, дарога... Тут з дзяцмі дарогі нямашака.

— І не кажы, браце... Гэта што... У самы цот ты патрапіў, пра дзяцей гэта. Ім толькі папусціся, дык хутка й зямлі наясіся. Трэба, браце, аброць на іх, ды 'шчэ якую, валовую, каб гэта з рук не спушчаць...

І тут заўважыў Банадыся пад сталом. Прыглядзеўся

— Дык гэта, суседзе, вучыў мусіць... Што і не кажы, у мяне каторае і меншае, але-ж і на яго трэба папліску добрую мець. Хоць-бы сабе й Макрыду ўзяць...

Крэкчучы вылазіў з-пад стала Банадысь, пыл абіваў з бакоў, соп злосна. І смешны ён Цыбалу быў, хлопец гэты. Такі-ж вы-

расцень—у бацьку ростам вышаў—і на табе, пад стол лазіць. Каторы ў яго гады ў салдатах, а гэты на пугу практыкуецца, смак той яе ўпадабаў. Не сцерпеў нават і да Банадыся:

— Ваканцыя гэтая ў цябе не дужа каб...

— Якая ваканцыя?—запытаў той, збянтэжаны крыху.

— Ды от кажу: пад стол лазіць ваканцыя, браце, нязручная... гузака, ненарокам кажучы, нагнаць можна... Дый пылу там не абярыся...

Нешта мармытнуў пад нос Банадысь і хуценька змыўся з хаты.

— За што-б та ты яго? Страху, кажу, нагнаў за што?—запытаў Цыбал і на пугу зірнуў.

— Ат... У сям'і, браце, мoжа ўсё трапіцца: і ў лад і не да ладу... Сын бачыш... Урос хлопец у сілу, гульма-гуляючы, а розуму таго як у вераб'я. Ды процівень к таму, ніяк ты яго на простую дарогу не навядзеш, не паставіш да ладу.

— Гэта ты зусім правільна. Іначай яно і быць не можа... Але зноў-жа, да слова кажучы, яно-б жыццё тады было, калі-б усё яно да ладам ішло... Клопату-ж яно тады ніякага табе, чалавеча. Ніякага, можна сказаць, смаку ў жыцці. А як-жа можна чалавеку без клопату. Я от кожнага дня без клопату таго абыйсціся не магу, аб гаспадарцы ўсё дбаю... От я табе пра Гарпіну калісь казаў, пра Ражкову, што па Лявоне засталася. Здалася, суседзе, урэшце... Так такі і падалася. А раней не прыступу, ты яе не чапай і не кратай... Як я, кажа, з дзецмі буду гараваць, гора сваё векаваць з імі. Дужа, кажу,—наясіся ты з той зямлі без чалавека. Найму,—кажа,—сяк-так перакідаюся. Хіба-ж то, перакідацца толькі,—кажу,—а жызні ніякай, бо йдзі ты,—кажу,—напрасіся людзей, ласкі тае даходзь. А з чужое ласкі, кажу, дужа не наясіся, трэба свой паратунак мець. І можна сказаць, падалася баба. Ну я ў фальварку за яе застоіў. Бачыш, Ганка, што за ўпраўляюшчым прыбірала, ладзіцца да аўстрыякі нашага, да Язэпа механіка на жыццё, знайшла такі долю, жаба... гэткага чалавека абкруціла... Ну, дык замест яе Гарпіна мае пайсці за прыбіралку. Дык я там слова, другое закінуў, каб яно ўжо гэта цьвёрда было... Няхай кабеціна, думаю, хлеб кусае з дзецмі, дзе-ж ёй падзецца, думаю... Я-ж такі чалавек жывы, сумленне маю... А зямелька мне да рукі, зусім, можна сказаць, таго паўнадзела з маімі загонамі злучыць—і выйдзе яно не кепска, хоць ты, браце, маёнтак разводзь, колькі тых валок сабраў...

— Дужа табе трэба з бабамі цяпер гэты клопат аб зямлі мець. Гэта-ж згрызоты адны. Цяпер-жа панскае зямлі хоць завалíся. Сам упраўляюшчы анодысь казаў: шукай ахвотнікаў, стараста, на зямлю... Лужкі можна прадаць, ды й ляды, што з папоўскімі мяжуюць, таксама можна, калі хто ахвоту мае. Зямлі цяпер сіла на продаж пашла, абы грошы—купляй толькі.

— Дзівак ты чалавек, пане Хвядос. Дужа мне цікава з панам справу мець. Яму каб грошы, ды гатовыя, от вынь ды палож. Калі-ж і не адразу, дык тут табе, браце, і вэксалі, тут табе

і процанты... тут над табою кожная рата каменем тым цісне... Тут табе, ізноў-жа, і суд, і закон. За-акон, браце... А з процантамі гэта ды вэксалямі не дужа зручна нашаму брату справу мець, няхай яны згараць тыя процанты, ні за што ні правошта капейчыны тыя збываць... З панам, як бачыш, не паласа мне. Гэта калі ў а рэнду там, дык ‘шчэ куды не йшло, адзін набытак, можна сказаць... Таму з часьці таму так—глядзіш, і чыстыя грошы ў кішэні. А каб зямлю ў пана купляць, дык няхай яно лепш згарыць.ь

— Ці табе не ўсёроўна, каму грошы даваць. Ізноў-жа цэлым кавалкам можна набыць, а не дзесяцінамі тымі зямлю шураваць...

— Уга!.. Дзе ты бачыў... Грошы яно, канешне, заўсёды грошы, ты іх у любую дзірку запхні, табе ад гэтага не палягчае. Але мне з Гарпінай у банк не хадзіць з тымі процантамі, вэксалі тыя не пісаць ды на маркі не траціцца. І платы тае: калі захачу—плачу. Не захачу, і так пачакае, не дзе дзенецца, ласкі мае ‘шчэ папросіць... Плаціш ты—і ўсім добра і табе падзяка. А ты кажаш... Падумаць трэба, тады й казаць, бо хто ад свае выгоды ўцякае?

— Яно, канешне, пане Цыбал, словы твае як улітыя, пад іх не падкапаешся, залатыя словы. Хто сабе вораг, той і для другіх пудзілам ходзіць... Аднак, ці не па справе вы зайшлі часам па якой? Бо, думаю, пане Цыбал так сабе, здарма не будзе ног утруджаць.

— Яно, канешне, па справе, і, бачыш, дужа па далікатнай справе. Вельмі ўжо яна далікатная, каб гэта адразу да яе прыступіцца. Як яно, як той казаў, ні ціха, але не мінеш ліха. Яно цябе ўпілнуе. Не на тым, дык на другім і пакаўзнешся. Бачыш аб сватох тых я. Колькі то ў нас гутарак з табою было, каб гэта сваякамі пабрацца. Макрыду, значыцца, за Банадыся аддаць... І, як ты ведаеш, суседзе, не супроць я быў, каб гэта іх акруціць тым часам, няхай бы сваю жытку наладжвалі, ці то пры табе, ці й пры мне хаця—хіба мне хаты свае шкада для зяця. Ізноў-жа, і ты чалавек у сіле, можна сказаць, чалавек у выгодзе. Канешне, і мне не абыходзіць, ёсць з чым і к сабе і да людзей, не ў крыўдзе жыву, чалавеча, як і табе вядома. І от жа на табе, так-жа не па людзку выходзіць у самы такі час, калі толькі кампанію весці.

— А што ў цябе здарылася, чалавеча?

— Каб-жа то здарылася якое... Горш, чалавеча... Макрыда мая, каб ёй сцежкі тыя мацаць, Макрыда-ж мая загрубела...

— Ды што ты вярзеш, чалавеча? Як гэта загрубела?

— Відаць-жа: не ад саладухі... Каб то скажам, пад‘ела там. Бывае-ж так, дні тры там кабета ходзіць... Саладухі пад‘еўшы... Але-ж, відаць, прычына, чалавеча, другая, была мусіць такі сур‘ёзная прычына... Ды не буду маніць перад табою, загрубела такі насапраўды, каб яна чэравам тым на сябе наклала, на зямлі распаўзлася, паскуда тая...

— Навошта ты дзіцё клянеш? Ад Банадыся?

Аж замоўк на якую хвіліну Цыбал. Слова таго ад крыўды не мог вымавіць. На ўласным дзіці, можна сказаць, пасклізнуўся. І крывое, сказаць, а ўпоперак дарогі табе кладзецца.

— Калі ад Банадыся, дык вялікі-то клопат, пане Цыбал. Абкруцім вобмегам адным, і чорт іх ушчуваць будзе, пад вянцом. усе грахі пакрыты. З кім гэта, браце, не здаралася на белым свеце. Дужа гэта, каб галава балела, што яны там выробляюць часам, маладыя нашы. Ім, суседзе, нашы старыя законы не пісаны. Гэта табе, скажам, ці мне, дык і без штаноў даводзілася да самай жаніцьбы святым пузам свіціць, курэй пужаць. Дзе там аб дзеўках было думаць... А ім што абыходзіць у цяперашнія часы, калі каторыя і грамату пачалі пазнаваць, як мой старэйшы сын... Ды яшчэ, скажам, за бацькавай спіной, за бацькавым то клопатам. Дык чаго там бядаваць дужа? Ты гэта, браце, плюнь, дужа там сэрца рваць з дробязі такой. Плюнь, кажу, сяк-так абыраем не вялікая-то справа—праява, калі яны там, скажам, крыху пабязулілі па дурасці, па маладосці...

— Каб-жа то так, як ты кажаш, Хвядосе... Каб-жа яно ад Банадыся, яно і клопату таго на кіпець самы... Дык-жа не ад Банадыся зараза тая мая займела...

— Што ты, чалавеча, кажаш?

— А што ты казаць тут будзеш...

— Як-жа гэта ты дзіцё на ўпілнаваў, на такую, можна сказаць, знявагу пусціў... І ад каго?

— Няйначай як ад парабка Напрэя...

— Уга... Зусім, браце, дрэнь-справа... Не чакаў, суседзе...

— Прызналася ўчора... І каб-жа то з добрым чалавекам якім, яно й жалю-б таго не было... Дык на табе, выстаралася, бацьку ўзрадавала, бач, унукаў на бацьку не хапае, каб на цябе тая немач белая... І хто-б мог думаць каб ён, Напрэй гэты—вока-ж тое сароміўся на дзяўчат кінуць—каб гэта ён ды на такія-ж авантуры пусціўся... Усё ў зямлю глядзеў, да ног сваіх усё прыглядаўся—ні віду з яго, ні слова людзкага ад яго не пачуеш... А тут гэткі-ж спрыт, можна сказаць, займеў. Гэткі-ж ускруцень напаў чалавеку ў галаў...

— Каб-жа то, суседзе, у галаў... Тут, браце, не вялікага розуму справа...

— Яно, канешне, не вялікага... Знявага-ж за тое вялікая. Каб у каго, у каго, а то ў мяне...

— Ат... бяда—яна заўсёды, чалавеча, падпілнуе, як ты яе ні сцеражыся... Але-ж і бяды тае—не сказаў бы, каб задужа... Кінь, кажу, думаць аб ёй, сяк-так асвойтаешся ды ʻшчэ і чалавек які знойдзецца. Мала хіба, каб гэта дзеўкі з дзецьмі гатовымі замуж ішлі... Колькі, шчэ... Там удавец які з дзецьмі, там кавалер які перастарак, там калека які, недалуга... Не дзе дзенецца дачка твая, знойдзе пуця свайго. Ды пры тваёй, сказаць, браце, гаспадарцы і добрага чалавека знайсці не цяжка. Кавал зямлі той, кубел добры—і да цябе тады любы хлопец і з маладзейшых

прыгорнецца. Яно, чалавеча, не ведама, дзе ты знойдзеш, або згубіш. Як яно чалавеку суджана, так яно й выйдзе...

Але дзе гэта, каб тыя ўцехі людзкія ўцешылі. Чалавека слухай, а сваю думку мей. Гэта-ж жартачкі—зямлі кавал, добры кубел. Гэта-ж тых грошай куча... Дужа яны валяюцца па дарозе, здарма от сыплюцца ў рукі. Так яны й даліся табе ў рукі... Гэта жартачкі: калі ад Банадыся—дык сват, не ад Банадыся—не сунь носа... Гэта хіба хто розуму не мае, дык не дабярэ... Вот табе й замочкі тыя бліскучыя, ліхтар з мышай... Падвёў пад манастыр з мышай той, зараза гамзюрыстая...

Сумны быў Цыбал. Ішоў да хаты прыцемкам, мармытаў усё пад нос:

— Гэта-ж жартачкі—кубел...

* * *

Былі вочы ў яго нейкія асаблівыя, непакойныя. То доўга ўзіраліся ў нейкую нябачную другім кропку, і тады здавалася, нібы глядзяць яны паверх цябе, глядзяць некуды ўглыб, і ў позірку тым была шэрая і халодная пустэча—чалавек думаў не аб тым, на што глядзеў. Часам вочы гэтыя мітусіліся, перабягалі з рэчы на рэч, і было тады ў гэтых вачах звычайнае, чалавечае, бо ўзіраліся гэтыя вочы на звыклае, на шэрае, на будзённае. І здавалася, нібы перакачваецца ў вачах гэткая невялічкая гарошынка суму і нікне раптам пад вясёлымі водбліскамі чалавечае цяплыні, шчырасці і прыязні.

Таму былі парыўчатыя рухі, рэзкі голас, напятыя скіўіцы твару колеру шэрай абветранай зямлі—калі гаварыў з людзьмі, калі быў чым-небудзь узрушаны, устрывожаны, І неяк не стасавалася з заняпалымі ямінамі воч, з глейкаватым румянцам на зямлістай цвецені шчок, з гэтым калючым выглядам твару акуратна падперазаны шынель, наглянсаваныя боты і салдацкая шапка-зімоўка на самай макушцы. І зусім здзіўляў невялічкі срэбны крыжык на жоўта-шэрай істужцы, што прытуліўся на грудзях у складках зялёнай гімнасцёркі.

Такі быў Сямён Казёл, ці як працей яго звалі—Сёмка Казёл, які прыехаў з фронта на пабыўку да хаты на месяц. І калі зайшоў ён у хату да Івана Іванавіча, той устаў насустрач, узрушаны і расчулены. Сурова пацалаваліся крыж-на-крыж і ўсё ўглядаліся, як-бы пазнаючы адзін другога, стараючыся ўгледзець, а які ён чалавек, а як на яго гады, і ці дужа тыя плечы да зямлі падаліся.

Іван Іванавіч паспеў кінуць вокам свайму госцю ранейшаму—не турбуйся, маўляў, свае людзі—і да Сёмкі:

— Ды гэта, выходзіць, ты... Вот яно як... А мы тут думалі, што цябе там бабахнулі даўно, што ты там зямлю парыш...

— Каб мяне ды бабахнулі, што ты, чалавеча, я яшчэ й другога магу бабахнуць... А ты, пане Іване, як бачу я, трохі асеў, капылы ў цябе, відаць, рассыхаюцца... Ды што казаць, у нашай

глухмені любога чалавека іржа заесць... не жыццё, дык іржа... Такая ўжо жытка тут немудрашчая ў нас: і небагата людзей, а ўходаць могуць, каторыя гэта спрытнейшыя... Чуў я, што староста ды Цыбал у вялікую сілу ўраслі...

— А што ім там часам дзеецца...

— Да яно будзе дзеяцца, калі ты, пане Іване, рукі звесіў, як бачу... Ды нічога... Не міргай ты гэтаму чалавеку, ведаю я яго, спадарожнікам быў, са станцыі разам ішлі... Сваяк, кажаш? Ну й добра... Мала хіба ў каваля сваякоў на зямлі, і сваякі тыя ды ўсё наскія... Так... А на мяне не глядзі та дужа, бліскучае бачыш, ад бляску гэтага і вочы забалець могуць...—дадаў Казёл, заўважыўшы ўтароплены погляд Івана Іванавіча на срэбны крыжык.—Гэта, браце, дурасць наша салдацкая, шэрая дурасць... Абы не драўляны... А з гэтай бразготкай жыць можна... Мо' яно і зручней нават...—усміхнуўся Казёл. І ўсмешка тая была гаркаватай, як палыновы цвет, і калючай—нібы хацеў Сямён падражніць крыху свайго старога прыяцеля, узрушыць яго, выбіць з прызвычаеных каляін.

Але Іван Іванавіч маўчаў, і разгубленая ўсмешка плавала па рухаваму твару. Толькі рудыя вусы пасмейваліся ў кутку за сталом. Сядзеў той чалавек, дзівяваўся з другіх, пасмейваўся: от-жа дружакі, сышліся і на лад той ніяк не патрапяць. І тады звярнуўся Сёмка да яго:

— Ты-б хоць, чалавеча, імя сваё сказаў, каб ведаць, з кім слова кажаш, з кім дваццаць вёрст прайшоў...

— Багата-ж ты захацеў уведаць... А да рэчы, дужа мне да спадобы было, як ты таго франтавога героя пушыў, чалавека давёў да адчаю з усімі яго ранамі, у боце схаванымі, у капцёрскімі... А завуць мяне... Ну што-ж... заві, калі хочаш, Карнеем... Імя, бачыш, такое харошае ў мяне... А хочаш—вусатым... Тут мяне так і ведаюць: да каваля, кажуць, вусаты нейкі прыехаў, ні то брат, ні то сват, ні то чортаў дзевер... Дык вот і заві так...

— Аднак, гаваркі ты...—кіўнуў Сёмка Казёл і, не зварочваючыся ні да каго, запытаў:

— Ну дык як жа ў вас тут?

— От-жа бачыш...—нібы разгублена ці безуважліва адказаў Іван Іванавіч, і ў адказе яго адчувалася не зусім схаванае расчараванне. У ранейшыя цёплыя і прыяцельскія адносіны—колькі то год дружбакамі былі—праслізнула непрыкметна гэткая-ж звадыяцкая думка: як-жа так, каб ён, Сёмка, ды з крыжыкам... дзе гэта відана... ці яму-ж гэта да твару... І як ён цяпер...

Адказ Івана Іванавіча павіс у паветры, парадзіўшы прыкрае, нуднае маўчанне, калі людзі сядзяць з напятымі думкамі, з нявыказанымі словамі, калі халаднее, стыгне цяплыня гэтых слоў, шчырасць думак, прызнанняў. З гэтае роўнавагі вывелі галасы з вуліцы. Яны нарасталі з кожнай хвілінай і ўжо расплываліся павадкай, павадкай першай, нясмелай, калі прагна ліжа вада

скамянелы лёд, ліжа поверху, нясмела падточвае берагі, узнімае грознымі ґарбылінамі лёд і от-от гатова перакінуцца— гаманлівая, рухавая, грозная—на шырокія поймы, паплавы, балацяніішчы.

Нясмелая павадка, першая. Галасілі бабы на вуліцы.

Людзі ў хаце паглядзелі адзін на другога.

— Што- то знача?

— Хіба ў навіну... Што, што, а гэта ў нас пачуеш штодня...

У хату не ўвайшоў, а ўваліўся Напрэй Казёл, чырвоны, узрушаны.

— А ты, Сёмка, тут... Я так і думаў, дзе-ж яму быць, як не ў Івана Іванавіча... Дык я сюды гэта і драпануў. Бач, са стражнікамі там зачапіўся крыху, штодня насланнё гэтае на нашу галаву, да чаго-ж надакучылі, як смала тая да людзей чэпяцца... Гэта-ж трэба, каб да чалавека лезці, які, можа, ні душой, ні думкамі тут не пры чым... Гэта я пра Трахіма Сапуна, што на смалакурні цяпер... Даліся яны яму; ты да ты падпальваў гумно панскае, ясныя доказы ў нас... Адным словам, хочуць чалавека згрыбчыць... Я, канешне, у разгавор з імі ўкінуўся, кацецеся, кажу, да ліхой матары... Дык дзе там, чуць бараду выратаваў, выскублі-б чэрці, дай ты ім рады...

Прыход Напрэя ажывіў неяк людзей, узрушыў, растапіў ільдзінку адчужанасці, недагаворанасці, недавер'я, якія зарадзіліся ў халодных водбліскаў срэбра пад шэрым Сёмкавым шынелем. Ці да Сёмкавых-жа грудзей тое срэбра...

— Дык хадзем хіба, паглядзім, чаго сядзець у хаце?

І калі выходзілі разам з хаты—Сёмка ды Іван Іванавіч—пракзаў Сёмка:

— Ты гэта кінь... Кінь, кажу... касавурыцца...Не туды думкі гнеш... Не разумееш ты мяне...

Іван Іванавіч прамаўчаў.

Ля Міронавай хаты тоўпіўся народ.. Заклапочаны тупаўураднік, разганяў людзей, мацярыўся на соцкіх, якія марудзілі не з'яўляліся. Ураднік тупаў па двары, выходзіў на вуліцу, і ўвесь яго шызы твар з'яў на сонцы, як нацёртыя медныя бразгалкі на грудзях, як тыя новыя з войстрым кантам пятакі, спрытна трапляўшыя ў ураднікавы кішэні кірмашовымі днямі. І не разабраць было, ці то заклапочанасць, ці вялікая ўрачыстасць панавала на крамяных вурадніцкіх шчоках, на яго шызым валбукаю носе.

— Стараешся, воін?

— Чаго?—кінуў утароплепы ураднік на Сёмкава запытанне. Пра што кажаш, служывы?

— Служба, кажу, дужа ў цябе клапатлівая, чыжолая служба...

— Праходзь, праходзь не задзержавай...

— Да мы што... Мы спачуваем толькі: схудняў задужа ад клопатаў ты, чалавеча, ледзь ледзь ногі пуза трымаюць...

Ураднік памкнуўся быў наперад, рашуча прыўзняўшы адзін вус, намерыўшыся сказаць нешта суровае і грознае—натапырыліся губы, пачырванелі вырачаныя вочы, шызая валбука носа трымцела і падымалася ўсё вышэй і вышэй. Але раптам рэзка павярнуўся ў бок і, не зварачваючыся ні да кога асабіста,—была там у крапіве і лебядзе пустая паветка,—вылаяўся гучна абрываючы словы:

— Чорт-жа носіць каторага... А ну разыходзься...

З сяней выводзілі Трахіма Сапуна. Ля яго завіхаліся два стражнікі ды тупалі без парадку соцкія, шукалі па двары лейцы прыставалі да Мірона.

— Гаспадар, каб на цябе ліха, агрызка вяровачкі не знойдзеш у цябе...

Мірон сядзеў на старым карчы, узіраўся на стоптаныя лапці, на вузлаваціны сатлелых забарсняў, на шурпатыя далоні сваіх рук і думаў аб нечым сваім, аб міронаўскім: аб слабым характары, аб сыне Яўхіме, аб бліскучых ураднікавых ботах...

Думаў і не да ладу адказаў:

— Няма ў мяне... Ня-я-машака, я кажу... Каб гэта вяровачкі... Каб гэта сіло віць, на чалавека сіло...

І апошняе пра сябе, не ў словах, у думках,

Калі вывелі Трахіма на ганак, народ згрудзіўся бліжэй, бабскія галасы загулі, і ў нарастаўшым гуле тым перакачвалася нач нымі спалохамі:

— Бач, счарнеў чалавек як, з твара зусім падупаў...

— Счарнееш, без дай прычыны так-жа чалавека мардуюць. Хто паліў, а каму адказваць...

— А калі-б і паліў—добра зрабіў... Дзе ты на пана ўправу знойдзеш, калі за яго закон, за яго стражнікі, калі за яго цябе жыўцом засудзяць... Калі за ношку травы панскае цябе гатовы ў дамавіну пакласці...

— Маўчы, ты, разявіўся... Зяпала зачыні, дурань, ведаеш, што за такія словы...

Трахім стаяў на ганках, расхрыстаны, у разбарсаных лапцях. Пасмы валасоў папрылiпалі да мокрага ілба, дрыжэлі рукі, і пальцы ніяк не маглі патрапіць, каб заплікнуць гузікі на світцы- Рукавы яе і кожнае крысо былі луб лубам, наглянсаваныя смалою і варам, прапахшыя ў смалакурні дымам. І ў смолі той былі ліпкія ніцяныя гузікі. Да іх ліплі пальцы, ніяк не маглі заплікнуць. І ўсё ў ім у Трахіму, у сутуленай постаці, у абвіслых руках, у заняпалых навераджоных саланаватай рэззю ў вочах-усё ў ім было насцярожаным і балючым слыхам. Трахім глядзеў перад сабою на людзей, на ўраднікаў—шызаю валбукаю—нос, на стражнікавы карабінкі, на жоўты ўследжаны безліччу лапцей снег, глядзеў і нічога не бачыў. Ён чуў толькі, як захліпаецца плачам жонка, ды, учапіўшыся ў яе спадніцу, раўмя-равуць дзеці, заходзіцца самае меншае—пераходзіць плач малога ў натужлівы кашаль

і, адкінуўшыся назад, бялее твар гэты, надзімаюцца сінія жылы на тонкай, як нітка, шыі.

Тады схамянуўшыся да жонкі:

— Сунімі малога, табе кажу, бач зайшоўся...

І да стражнікаў, да людзей:

— Не пайду я... І куды мне ісці... І чаго... Сказаў-жа, што не пайду...

І развёўшы рукі, яшчэ цвярдзей і рашучай:

— Не паліў я... І нічога не ведаю... Дык кажу-ж не пайду, не вядзеце...

— А мы прасіць цябе будзем... Дужа-ж прасіць будзем. Як-жа шапку чырвоную для цябе надзенем.—І стражнік, малы і нязграбны—у ім прызнаў Нупрэй Казёл свайго стараго знаёмага Грымдаля—аж пакланіўся ў пояс Трахіму і, пакланіўшыся, рэзка тузануў яго за рукаў:

— Ідзі, шуядзь, калі вядуць, гонару не разумееш...

Ледзь устоіў на нагах Трахім, не сышоўшы, а ссунуўшыся з ганка. І не ўбачыў, а пачуў, як падскочыў сын Лявон—быў яго голас сухі і ўзрушаны:

— Не йдзі, тат... Я табе кажу... Не слухай сабак гэтых, служак гэтых панскіх не слухай... Не ты паліў, не табе адказваць... Я-ж паліў, чаго да цябе чэпяцца...

І чуў Трахім, як адкінулі стражнікі Лявона, пакаціўся той да самага плоту. І тады пацяг жывасілам Трахіма да варот, да пахіленых шул спарахнелых, на шырокую гаманлівую вуліцу. Бегма кінулася жонка ўслед і ўчапілася рукамі ў стражніка, сашчарэпіўшы рукі, павісла на нагах, сцісла іх, як абцугамі.

І ўбачыў народ, як нагнуўшыся ўдарыў Грымдаль наводліў старую па твары і, каб хутчэй адчапіцца, даў яшчэ раз у грудзі. Войкнула старая, разняла рукі, спыніліся малыя ў нерашучасьці. Гучней загаласілі бабы тады каторыя, гул узняўся ў народзе, загула вуліца галасамі мітуслівымі, пагрозлівымі.

І кожны ўбачыў тады, як падскочыў салдат да стражнікаў, да куцага Грымдаля.

— Сёмка, бач, Казёл...

І адумацца Грымдаль не паспеў, як паляцеў потырч, бразнуўшыся патыліцай аб спарахнелую шулу.

— Гэта табе за жанок нашых... памятаў каб, як мацярэй нашых біць, вош тылавая... іш, гніды, параспускалі рукі на нашага брата...

Другі стражнік кінуўся да Сёмкі, выцягваючы на хаду шаблю, але кінутая нейчай спрытнай рукой цагліна збіла яго з ног, і ён упаў на снег, нязграбна скурчыўшы ногі і схапіўшыся рукамі за голаў. Шапка адляцела ў бок, дзынкнула шабля і ўелася ў ліпкі снег. На чырвоны жужаль браўся гэты снег пад стражнікавай галавой. І тады апаўшую цішыню прарэзаў спалоханы, нібы прыдушаны голас:

— Гэта-ж чалавека забілі...

Ды нехта крыкнуў у трывозе, у адчаі:

— Уцякайма... Ратуймася...

Пераваліўшыся праз плот, бег па гародах Грымдаль. За ім услед, абламаўшы штакеціну, уцякаўураднік.

Яны беглі, не аглядаліся, уцяўшы галовы ў плечы. За гародамі пачынаўся алешкавы параснік. Быў ён рэдкі цяпер зімой, празрысты.

— Усім-бы вам на сухі той лес бегчы, гады...

Адразу і вуліца і двор сталі пустымі. Народ разбегся хто куды, і толькі соцкія клапатліва перагаварваліся адзін з другім.

— Ну й дзялы... Гэта-ж стражніка забілі, няйначай...

— Жывы будзе... У іх галовы жалезныя, у сабак... Чаго, Трахім, стаіш, ідзі ў хату, дзяцей вядзі, а то прастыгнуць. Ды не бойся...

І калі былі ўжо ля Нупрэевай хаты, тады парушыў маўчанне Іван Іванавіч:

— А ўсё-ж вышла трохі нягегла... Хіба-ж гэтым мы справе падсобім... Чорт яго ведае, як яно вышла...

— А вот і вышла... Раз вышла, дык і вышла... Не магу я цярпець больш... Каб кожная погань сваволіла тут. Хоць раз правучыў каторага, каб рукі карацей трымаў... А звод прыдзе на іх, дачакаюцца ірады...

— Та-ак...—прамовіў той, што зваўся Карнеем, і не азваўся больш ніводным словам, пакуль не зайшлі ў Нупрэеву хату. Прагаварылі ўсю ноч. Ужо бралася навідно, ужо вышлі ўсе смалякі на комінку, і пабралася попелам астыглае вугалле, калі разыходзіліся людзі з пракуранай Напрэевай хаты.

Марознае прадранічнае паветра было пругкім, каляным, і кожнае слова, аддаючыся ў ім гулкім рэхам было звонкім, імклівым. І мо' таму, што была бяссонная ноч, гарачыя спрэчкі, шызыя воблакі пракіслага тытунёвага дыму ў хаце,—кожнае слова ляцела паасобку, ляцелі ўрыўкі слоў і набывалі незвычайную ім, такую-ж жывую, хвалюючую і заклікаючую яснасць:

— Гэта урок... Аб ім памятайце... Не ў тым справа, каб стражніку якому рабрыну зламаць... Трэба біць па тых, хто гэтага стражніка пасылае... Біць штодня, штохвілінна... Як біць, казаў вам... Каб вёскамі, валасцямі... Каб кожная справа за нас... Іхным прамахам біць... Кожным прамахам, кожным здарэннем...

— Гэта ведаем... А ты ўсё-ж падавайся цяпер, Карней, падалей ад нас. Нытрыць пачнуць, выпаруць... Каму гэта патрэбна...

— Да я што-ж... Я чалавек падарожны... Сапраўды, не з рукі мне тут цяпер з вамі. Куды-небудзь пасунем...

Разышліся. Убіраўся ў сілу мароз, хліпкі, ліпучы снег дарог рабіўся на ледзяную жарству, і яна крумсцела пад нагамі, будзіла старожкую цішыню ночы, палохала сабак па ціхіх дварах, парушала спакойны ваўчыны крок за хлявамі, за гумнамі. Ён рабіўся шыршым гэты крок, няўцямным, няўпэўненым—і ляцелі праз межы, праз абледзянелыя сумёты, праз запарушаныя інеем алеш-

кавыя кусты сляды ваўчыныя. Уцякалі ад ледзяное тае жарствы пад нагой чалавечаю.

Людзі спалі 'шчэ. Не спаў хіба Хвядос. Усё варочаўся з бока на бок, прыслухаўся, як стогне на лаве чалавек той, стражнік, што з галавой, у рызманы ўкручанай. І думкі ўсё адны і тыя:

— Ну й дзялы... Паспрабуй цяпер выблытацца... Мала не будзе... Дагледзеў такі за парадкам, чорт стары...

Гэта аб сабе, аб старастаўскай сваёй годнасці і павазе.

Ды Цыбал каторага разу выходзіў на двор, правяраў усе закруткі на варотах, на хлявах, прыслухаўся да сабачага брэха і, стаўшы дзе-небудзь за вуглом—за справаю, за патрэбаю,—кракtaў, пазіраючы на сінія, на халодныя зоры, чухаў чэзлую сваю бараду, галавой ківаў:

— Дык-жа няма таго, каб яно ціха ды супакорліва... І людзі-ж, можна сказаць, чалавекі, каб на іх ды ліхая гадзіна... Няма, каб паслушэнства гэтага да вышэйшага, да начальніка, скажам... Шуядзь каторая, і тая носа дзярэ, а ні прыступу...

І прахапіўшыся, калі прыліпалі падэшвы да лёду—не набрацца абутку, каб марна псаваць, ізноў-жа маладзее кроў на марозе, канца веку не ўбачыш—трушком длыпаў да хаты, у хатняе логава, печавое, душнявае.

* *
*

І вось сышліся ўтраіх: бацька, маці, сын.

Ён сядзеў за сталом, грэў рукі аб гарачую шклянку чаю, прыціскаў нагрэтую руку да халодных скроняй, углядаўся ў вышчэрблены сподак—былі выцвілыя незабудкі на сподку, старая шчарбаціна была такой добра знаёмай і памятнай. Колькі год яму, сподку, шчарбаціне? Ад шчарбаціны, ад дымнае шклянкі, ад марознае жарствы доўгай дарогі прыемна нылі ногі, разлівалася млявая цяплынь, хіліла да сну. Гарачы чай апякаў вусны, мо' таму быў маўклівым Васіль Панфілыч. Ні аб чым не хацелася думаць. Хіба й была адна толькі думка, ён адмахваўся ад усяго: ад бацькавых слоў, спагадаў, ад матчыных невыразных ласк, спачуванняў:

— Не, не тое... Не тое...

Айцец Панфіл хадзіў па пакоі, і ад яго важкае хады з кута ў кут угіналіся масніцы, паскрыпвалі рассохлыя ножкі стала. Айцец Панфіл перакідаўся скупымі словамі з сынам і, не чакаючы адказаў, думаў аб сваім, больш блізкім і больш зразумелым:

— Хада ў мяне цвёрдая, не пасклізнуся... Сын вот толькі, як-жа быць з сынам... І ліха-ж трапілася такое, трэба-ж вярнуцца... Усё ладам ідзе: і з народам сяк-так, харашо з благачынным... Ізноў-жа млын, гэткі-ж млын прыстараліся, згаралі... Дык жа трэба, каб на дарозе на той чалавечай купіны ставіць... І хто вінаваты? Сам-жа няйначай...

І ў голас, каб радасць паказаць, каб шчырасць выказаць да сына:

— А я, Вася, жыву... Бачыш, не здаюся... Абодвума рукамі за самую жытку, за корань самы... Грэшным дзелам, млынок збудавалі...

— Які млынок?—пытаў той і думаў усё аб сваім:

— Не, не тое... Не тое...

Была радасць фальшывай, рассыпалася шчырасць. Была яна хліпкая, друзлая, цененькай нітачкай перавязаная.

І ўздыхнуўшы, загаварыў айцец Панфіл, па-звычайнаму, пачалавечаму:

— Эх-жа, сын ты мой, сын... Ці-ж я думаў. Каб-жа не палюдску яно так усё трапілася... Каб-жа так ты падсек мяне... Што думаеш рабіць, падацца куды думаеш?

— А што?

— Як што... Павінен чалавеа сваё месца ў жыцці ведаць...

— Месца? Гэта ты правільна... Ну што-ж... У земстве буду працаваць... Ёсць жа ў вас больніцы земскія? Ну й буду доктарам, хіба-ж яно дрэнна?

— Не ў тым справа... Можа яно як і выгарыць, каб гэта доктарам... Земскім... Але-ж вока калоць будуць... за справы твае, за мінулыя...

— Калоць? А ты не клапаціся... Ты, відаць, аб сваім воку большы клопат маеш, каб яго не калолі... Я-ж вытрымаю...

Айцец Панфіл замоўк, не знайшоўшы патрэбнага адказу. Ён хадзіў з кута ў кут, пагладжваў мяккую бараду, глядзеў, як кідаўся ўласны цень—зусім не ў тахт хадзе—палахліва кідаўся той цень на сцены, на столь, на сутуленую пападдзю, якая, чуючы крокі, уцінала галаў у плечы і тупала ля дзвярэй нерашуча, нясмела:

— Ты-б, Вася, з'еў бы з дарогі... Сказаў-бы, чаго хочаш... Я хутка... Чаго толькі хочаш...

І аблізаныя языком вусны спякаліся ў маўчанні, трымцелі, трасліся сівыя пасмы валасоў, і ўся галава гойдалася паволі ўверх і ўніз, як тая макаўка пераспелая на тонкай і высахшай сцябліне. Прасіла, напрашалася, боязка азіралася на непакойны цень айца Панфіла і замаўкала ў нямой нерашучасці.

— Вышла-б ты, пудзіла, адсюль...—не сказаў, а выціснуў з-пад вуснаў айцец Панфіл. Ён думаў аб бацькаўскай радасці, аб вялікай радасці сустрэчы. Аб ёй думаў і Васіль Панфілыч. І думкі тыя былі нерадыя, шэрыя, прыгбёныя, як радасць тая самая, на капейкі шчарбатыя мераная. Куртатая радасць, халодная, шчарбатая.

Поркалася пападдзя ля кублаў, выбірала масла, каб сына частаваць. І калі намагаліся рукі на свежыя гладышы ды міскі, тады галава—пераспелая макаўка—гойдалася ўніз і ўверх, матляўся агрызак касы—у палец той, у мышыны хвост абрубаны.

І не думкі, а шурпатыя словы ніклі дзесці на вуснах запяклых у маўчанні, у глухой бяздумнай трывозе:

— Лепш потым,.. Потым... Няхай спажывае... Каб потым-жа лепш... Берагчы трэба... Нашто-ж псаваць дарэмна... Родны сын... Зразумее... Для яго клапачуся... Каб-жа лепш яно потым... потым...

Выбірала, каторае ёлкае, жоўтым ногцем саскаблівала скліскія плямы зяленіва, тупала і, трасучы галавой, падносіла да стала, упрашвала:

— А ты еж... Не зважай, што гарэніць... Для цябе прыстаралася... Пасля й лепшага знойдзем, ёсць у мяне, усё ёсць... Потым-жа ўсё...

І здавалася Васілю Панфілычу, нібы апускаецца ён у чорнае прадонне і ўсё ніжэй і ніжэй. Рабілася горача. Не ўстаў, а падскочыў.

— Ну й душна-ж у вас, чаму хворткі ўсе пазаклееены... Так-жа душна і горача...

— А ты не зважай. Горача—харашо... Душна—харашо... Абы ветру не было, дужа ветру баюся я, асабліва-ж калі скразныя... Косці старыя яны прадуваюць... Таму й хворткі заклееены...

Васіль Панфілыч вышаў на ганак. Была ціхая марозная ноч. Светлая, трапяткая. Здаецца дыхала ноч мірыядамі зор—яны пабліскваліразам, нібы ярчэлі на хвіліну, успыхвалі недасяглымі і халоднымі іскрамі. Дзесці блізка на яблыні церушыўся іней— мо' вецер свежы дыхнуў, мо' трэснула ад мароза галінка, мо' падалася кволая, пахіснулася ацяжараная снегам і інеем.

Выцер лоб успацелы, паправіў ускудлачаныя валасы, прайшоўся па двары, па аснежанаму садзе. Ніяк не мог выбавіцца ад думак, ад слоў надакучных:

— Душна ўсё-ж... Душна... Нельга так далей... А што рабіць... Дзе знайсці яе, радасць, на капейкі нямераную...

* *
*

Яшчэ бабы не ўставалі, каб брацца за смалякі, за самапрадкі, як узняўся Трахім, доўга поркаўся ля печы—усё шукаў мытыя святочныя анучы ды лапці, каторыя цалейшыя. Доўга накручваў анучы на тонкія хударлявыя ногі, старанна звязваў новыя забарсні. Рабіў усё не спяшаючыся, без таропу, без кідання—нібы намагаўся нешта зрабіць святошнае, ўрачыстае. З тым-жа ўрачыстым спакоем спаласнуў твар вадой прыгладзіў рудыя валасіны і толькі, калі стаў у кут, пад закураныя абразы, толькі тады парушыў свой спакой, урачыстасць. Маліўся заўсёды торапка, хапаючыся. Неяк ніколі не выстарчала часу на гэта і часам палахліва думаў Трахім: „даруй-жа божа, калі некалі"... І апраўдваўся: „абы ў думках на яго не забыўся, не пакрыўдзіцца... рабіць-жа трэба... дзе ты намолішся тут"...

І цяпер, стаўшы пад абразы, збіўся з пуця крыху, не ведаў, пачаць з чаго, прасіць чаго. І торапка перажагнаўшы лоб, мар-

мытнуў некалькі слоў—былі тут „насушны“ і „даўгі нашы“ і дзіва, радуйся...“ І калі сказаў гэтае „радуйся“, забыўся на словы ўсе, уклінілася думка збоку, не да бога была яна, не да неба.

— Чаму радуйся?

І перажагнуўшыся—ат, бог ведае, аб чым ёк просіць—сеў Трахім за стол, намацаў хлеб, адкроіў лусту і, пасыпаўшы густа соллю, пачаў снеданне. Хлеб быў чэрствы, з калючым асцём аўсяным і высеўкамі. Але смачны быў ён, рабілася салодкай вада ад яго, поўны карэц якой стаяў на стале. Добра гэта, калі хлеб яшчэ ёсць. І з вадой ён добры. А наколькі яго хопіць, гэтага хлеба...

Ды думка тая другая не давала спакою.

— Гэта-ж трэба, толькі год „радуйся“ і „радуйся“...

А чаму радуйся, і каму радуйся... Смешна гэта радуйся... А мо грэх так думаць...—падумаў Трахім і, узяўшы паўбуханкі хлеба, паклаў яе ў чыстую кайстру, некалькі цыбулін знайшоў у мыцельніку, на паліцы, паклаў туды-ж да хлеба, звязваў старанна.

— Солі от хіба шчэ...

Прачнулася на печы жонка, закапушылася. Лявон прыўзняўся на палацях.

— Куды гэта ліха цябе гоніць такой парой, пойдзеш куды, гледзячы ночы ў вочы?

Падумаў трохі і сказаў гэтак проста:

— А куды-ж пайду? У турму пайду... Закону пайду шукаць, каб-жа ён мяне ды ўпарадчыў, да месца дабраў...

Войкнула старая, з печы ссунулася. Загаласіла:

— А божа-ж ты мой, божухна... Каб-жа сваім надумам галаву ў сіло класці, ды ў гатовае... А хто-ж цябе просіць, пытае...

— Уга... Мала пыталіся... Дык хочаш, каб яшчэ раз... Ды хочаш, каб пра стражніка ‘шчэ запыталіся... Калі ўжо цяпер запытаюць, дык Сібіры для мяне будзе мала, хіба свету не бачыў я, вушэй не меў, каб не чуць... Годзе-ж... Даволі... Сам от пайду,.. І скажу, ну паліў... Ну, бярэце... Вяжэце... калі трэба... Беце... Але жытку ў разор не пушчайце... Не чапайце сям‘і... Да людзей, да другіх не лезце, не пры чым яны тут, а ні на волас...

Гаварыў, як сякерай рубіў... Прыглушаны, абрывісты голас рабіўся цвёрдым, і ўжо не гаварыў, а нібы крычаў на каго. Трахім нібы хацеў пераканаць сябе, усіх, у сваёй шчырай праўдзе, у думках сваіх, у намерах.

З палацяй Лявон саскочыў. Ускудлачаны, ахрыплы ён кідаўся да Трахіма, размахваў рукамі, па хаце бегаў.

— Ты, стары, дурыкамі не займайся... Не дужа гэта да розуму, каб папасці і сесці...

— Ты ў мяне разумны задужа...

— Ага... Ну й задужа... Колькі то год ты падлізваў пяты панскія... дык-жа вызваліўся... чалавекам стаў... Няйначай-жа зноў закарцела: „паночку, міласэрны, даруйце, вінен“... Ты-ж не паліў, куды-ж цябе чорт на ражон прэ, гэта не жартачкі...

— Не я паліў, дык ты паліў, галава твая паліваная... Дык мне дужа хочацца, думаеш, каб цябе дурнога ўзялі... Я сяду, мне што, мая жытка адпетая, а твая—толькі-ж закрасавацьшчэ... Ты-ж гэтыя раты карміць будзеш, а не я... А гэта табе і няўпрыцям.

— Дык што-ж з таго... Я паліў... Але я не думаю лезці ў пролубку з тае прычыны... у турму напрашвацца... Хто ведае аб гэтым?

— Бачыш-жа, ведаюць, калі прыяжджалі на арышт.

— Мала што прыяжджалі... Яшчэ прыедуць... Ну, дапытаюцца і адчэпяцца... Хіба-ж ведае хто, хіба ты казаў каму, што я паліў...

— Казаць я не казаў, але-ж ведаюць, калі чэпяцца... Яно-ж не схаваешся... Закон, ён усё знойдзе, ён з-пад зямлі цябе выкапае...

Дзесці глыбока варухнулася думка: „Хто-ж бо там мог давесці, калі нікому ні слова, ні настолечкі, акрамя як на духу хіба...“ І ўжо ногі гатовы былі страціць пругкасць сваю перад дарогай той, перад дальняй. Ужо гатовы быў сесці на лаву, нерашуча рукі скласці, але думка аб разоры, аб сям'і, аб жабрацкай кайстры для дзяцей—калі не пойдзе ён самахоццю закону ў рукі—падагрэла намеры. Стаў, выпрастаўся:

— Дык вот што: пілнуйцеся хаця адно другога, каб лад быў. А я пайду. Ніхто мне не ўказнік тут, не парадчык... Сам ведаю, што рабіць...

— Ну ідзі... ідзі... Ідзі, каб табе сцежкі залажыла... Каб ты долі не бачыў... Слова людскага не чуў, як не чуеш ты мае словы...

— Сціхні ты... хаця... Разгаласілася... Ды й вочы ў цябе... Як-жа на мокрым месцы...—груба абарваў Лявон матку і вышаў на двор, на вуліцу. Хацелася крыкнуць услед—матлялася кайстра белая на шэрані кажушка, усё далей і далей—і не крыкнуў: не пужаць-жа народ, услед-жа не бегчы...

— Што-ж... Няхай зробіць праходку... Няха-а-й... Пазнае ласку...

І шкадаваў старога. Падкачваўся жаль і вострым каменем стаяў у горле, аж сцінала яго, сціналіся грудзі. І з жалем злосць—пякучая, атрутная.

— Што-ж... Няхай праветрае крыху... Гінем от толькі праз гэта... Спрадвеку гінем...

Праходзілі людзі раніцой, бабы ўзбегаліся. Трахімава жонка скрэбла бульбу і ў каторы то раз бабам расказвала:

— А пашоў... Закону даходзіць пашоў...

І гаварыла нібы так, абыякава, безуважліва, нібы справа ішла аб бёрдах, аб сувойчыках, аб трубках зрэбнага палатна. Толькі думку хавала ў сябе, ад другіх!

— Хто-ж да раны твае руку прыкладзе, балячку загоіць...

Людзі паціскалі плячмі, дзівіліся. Быў смех адным, жалкавалі другія.

— То-ж корч стары, надумаўся. Каму яно тое трэба...

Ды клопаты залішнія навалiліся на старасту, калі даведаўся аб Трахімавай справе.

— Гэта-ж трэба... Жыве чалавек, жыве... як і ўсе людзі, жыве чалавек... Ні ты яго асабліва... ці ён табе не замінае... Дык-жа на табе, турбацыя зноў...

Каб хутчэй як, сам збегаў да соцкага. Лаяў на чым свет стаіць, выпраўляў у дарогу, каб Трахіма лавіць, вязаць, да начальства даставіць. Соцкі міргаў соннымі вачыма, ніяк не мог дабраць, што яно й да чаго і што грэшнага тут, калі чалавек закону шукаць пашоў, хоць бы й на сваю галаву закону таго.

І яшчэ больш злаваўся Хвядос!

— Ды ты зразумей; звязаць яго трэба...

— Навошта, калі й так ён дойдзе, раз сам пашоў... Чалавек-жа сумленны...

— Карысці мне з таго сумлення аніякае... Клопат адзін, і хіба-ж можна, каб чалавек да закону ішоў не звязаны... Ты падумай толькі: чалавек ды не звязаны...

І шукаў вяроўку соцкі. Каб ехаць, дагнаць, да начальства даставіць. Шукаў, поркаўся, ды здзіўляўся:

— Сапраўды-ж не звязаны... Гэта-ж трэба, каб чалавек да закону ішоў, ды не звязаны...

*Канец 1-й кнігі.*

С. ШУШКЕВІЧ

## З ВЕРШАЎ „ЗАХАД“

### ПЕРАД ЗАБАСТОЎКАЙ

Мы умеем гневацца, ды як яшчэ ўмеем.
І расплату кожнаму дадзім па чэсці.
Годзе быць прыкутым Праметэем,
Трэба гнеў вякоў як след пранесці.

Не спалохаюць выбоі на дарогах,
Глупства нам дажджы, віхуры, веі.
Разнясём дарэшты воўчы скогат,
Раскрышыць мы ворага умеем.

Нашых слёз ніхто нідзе не ўбачыць,
Хоць парвіся на кавалкі сэрца.
Досыць стогнаў, енкаў, болю, плачу—
З нас ніхто з пакорай не сагнецца!

Пырсне кроў пад куляю гарачай,
Але-ж мільёны не расстрэліць.
Нэнза, холад, голад, недастача
Зломяць перашкоды-цытадэлі.

Узаўецца сцяг над нашым неспакоем,
Чырвань гляне вуліцы у вочы.
Той, хто нашу волю перакроіў,
Сёння бой апошні з намі сточыць.

Заляскочуць дзіка тэлефоны,
Страсянецца твар размяклага адчаю,
Паляціць раз'юшана пагоня,
Рух прыціснуць чорнымі плячамі.

Адзавецца пад нагамі камень,
Вуліцу заслоняць барыкады.
Гэты гнеў, узрошчаны вякамі,
Заляскоча алавяным градам.

Мы ўмеем гневацца, ды як яшчэ умеем!
І расплату кожнаму дадзім па чэсці.
Чуеце, сірэны голас тлее.
Чуеце, завод нясе уздыму весці!

А. РУСАК

## ВЫЙДУ...

Выйду ў поле
Пад дарогу,
Выйду к лесу-гаю:
Там, дзе нівы
Залатыя
Вецер нагінае,

Дзе сягоння
На загонах
Узараны ўзмежкі,—
Хай рассыплюцца
Па полі
Радасці усмешкі.

Выйду ў поле
Пад дуброву
Ды пад сонцам яркім,
Там, ля гаю,
Размахаю
Вёсламі жняярку.

Хай хістае
Вецер нівы,
Хай хістае голле,
Накірую,
Астрыгу я
Каласіста поле.

Хіліць вецер
Ды калоссе,
Хіліць вецер, свішча,
А дзяўчына
Снапы зносіць—
Колецца іржышча.

Выйду ў поле
Пад дарогу,

Выйду к лесу-гаю;
Там, дзе нівы
Залатыя
Вецер нагінае,

Дзе сягоння
На загонах
Узараны ўзмежкі,—
Хай рассыплюцца
Па полі
Радасці усмешкі.

М. ЛАРЧАНКА

# ПРА ТВОРЧУЮ ПЕРАБУДОВУ П. ГЛЕБКІ

1.

Літаратурна-паэтычную дзейнасць Пятро Глебка распачаў у 1925 годзе. За гэты час ён прайшоў творчы шлях з хістаннямі і памылкамі і, стаўшы на шлях совецкай літаратуры, вырас у значную паэтычную адзінку ў беларускай літаратуры.

Аднак наша крытыка на творчасць Глебкі, на той творчы шлях, які ён прайшоў, не звярнула была належнай увагі, не было колькі-небудзь поўнага разгляду яго творчай прадукцыі. Між тым творчасць Глебкі заслугоўвае гэтай увагі і патрабуе шырокага крытычнага разгляда.

Глебка пачаў друкаваць свае першыя вершы ў часопісе „Маладняк" яшчэ ў 1925 годзе. У 1927 годзе вышаў яго першы зборнік лірычных вершаў пад назвай „Шыпшына". У той-жа час ён піша цэлыя нізкі, цыклы вершаў з сінтэтычнай закончанасцю, як, напрыклад: „Матчыны казкі", „Агні сусвету" і „Краса маладосці," якія надрукаваны ў часопісе „Узвышша" за 1927-28 г. г.

Уся гэтая паэтычная прадукцыя характарызуе сабою першы пэрыяд творчага развіцця Глебкі, калі ён знаходзіўся пад моцным уплывам нацдэмакратычнай ідэалёгіі. Амаль усе яго вершы са зборніку „Шыпшына", і асабліва нізка вершаў „Матчыны казкі" і „Агні сусвету", прасякнуты імпрэсіяністычным, нацыяналдэмакратычным рамантызмам, ідэалізмам розных адценняў. Глебка ў тэматыцы сваёй творчасці гэтага часу абсалютна адышоў быў у лона „чыстае прыроды", ахутаўся сваімі асабовымі адчуваннямі і перажываннямі. На гэтай аснове свайго творчага мэтаду, калі паэт імкнуўся аформіць свае адчуванні ў паэтычны вобраз, ён шукаў заўсёды нешта тонкае, прыгожае, каляровае, выбіраў толькі асобныя цікавыя для яго рысы, лавіў толькі яркія моманты імпрэсіі, няўлоўныя мігі, выключныя, непаўторныя з'явы прыроды, сваіх адчуванняў, асэнсоўваў іх і перадаваў нам, то ў статычных пейзажах:

Клён завяў, ды стаіць у раздум'і,
Галаву апусціўшы на дол;
Паляцелі лісты, быццам думы,
Паляцелі зямлі на прыпол;

то ў лірычных, разгорнутых параўнаннях:

Я і сам прыціхаю пад клёнам:
Паляцець залатым-бы лісцём,
Ды упасці далёка з паклонам
Перад новай красой і жыццём!

то ў імпрэсіяністычных зарысоўках:

Гай мой сіні, шумі!.. Шумі!..
Гэты шум мне у сэрца ўліп,
Дык няхай хоць кароткі міг
Зацвіце белай радасцю ліп.

то ў журботна-асенніх рамантычных імпрэсіях:

За вакном чую шэлест васенні,
Значыць падае, падае ліст,
І гайдаюцца, сцелюцца сцені,
Дзіка совы заводзяць свіст.

Вось што цікавіць Глебку, вось яго тэматыка, пэўныя пазнавальна-эмацыянальныя адносіны да рэчаіснасці на першых кроках яго творчага развіцця. У гэты час ён знаходзіўся пад уплывам нацдэмакратызму і выражаў яго ідэалогію ў форме адыходу ў „чыстую“ непасрэдную прыроду і там сузіраў, слухаў шалясценне кляновых лістоў у сіні асенні вечар, розныя шолахі, шалясценне зор і да т. п. імпрэсіяністычныя няўлоўныя мігі, непаўторныя моманты. Больш таго, на працягу ўсёй сваёй першай кнігі „Шыпшына“ і нізак вершаў „Матчыны казкі“ і „Агні сусвету“ паэт эстэтствуе, моліцца якойсці невядомай „незямной красе Беатрычы“ (падобна таму, як Язэп Пушча маліўся Марыям-Мадоннам), нават прапаведвае ў асобных момантах дэкадэнцка-буржуазны лёгунг—мастацтва для мастацтва, песні для песні.

Зацвіце мая радасць Шыпшына,
Вецер пах у палёх разнясе,
Бо ніхто ящчэ з песняй не згінуў,
Ні адзін, хто маліўся красе.

Зразумела, за ўсім гэтым маленнем „чыстай красе“, адыходам ад практычных задач у „чыстае“ мастацтва, ад сацыяльнай практыкі пролетарыяту ў лона непасрэднай прыроды,—хавалася і хаваецца зусім практычная ідэалогія нацыянал-дэмакратызму, якая ў той час амаль поўнасцю брала пад свой уплыў Глебку.

Таму ў яго тагочаснай творчасці адчуваецца надзвычайна моцны ўплыў Багдановіча, Есеніна, Дубоўкі і Пушчы.

Мы не будзем тут падрабязна спыняцца на дэтальным аналізе творчай прадукцыі Глебкі, на першым перыядзе яго развіцця, таму што ён ужо сам даўно асудзіў яе сам зразумеў хібнасць мінулых сваіх творчых установак, адышоў ад іх і сваёй творчасцю, можна сказаць, перамог іх.

І таму для нас асабліва важна спыніцца на канкрэтным аналізе твораў Глебкі, на новым, другім перыядзе яго творчага развіцця, калі ён пачаў вызваляцца і вызваліўся ад чаду нацы-

янал-дэмакратычнай ідэалогіі, стаў і становіцца на пазіцыі пролетарскага светапогляду, на пазіцыі совецкай літаратуры.

Бясспрэчна, гэты новы перыяд характаразуецца вялікім, як колькасным, так і якасным, ростам творчасці Глебкі. У 1930 г. ён выдае новы зборнік сваіх твораў пад назвай „Урачыстыя дні.“ Асабліва плённым стаў талент паэта ў апошнія гады. За 1931-32 г. г. ён выдае аж 3 кніжкі новых твораў. У 1932 годзе выходзяць з друку асобнымі кніжкамі паэмы „Арка над акіянам“, „Арлянка“ і зборнік вершаў і паэм „Хада падзей“.

## II.

Глебка, з прычыны дробна-буржуазнай прыроды свайго светапогляду і асабліва тых розных (гэта галоўнае) буржуазных нацыянал-дэмакратычных уплываў на яго творчасць на першых кроках яе развіцця, будучы членам старога „Узвышша“, прышоў быў у сваёй паэзіі ў нейкі чорны тупік псыхалёгічна-хворай упадніцкай рамантыкі, інакш кажучы—да бязвыходнага творчага крызісу. Творчымі сімптомамі гэта крызіса з'яўляюцца асобныя вышэйадзначаныя цыклі вершаў „Матчыны казкі“ і „Агні сусвета“,

Прыкладам такой псіхалёгічна-хворай фантастычнай рамантыкі можа быць, адзін момант з „Матчыных казак“ калі паэт пагрузіўся ў філозофію космаса, стаіць дзесці адзін і сузірае, як:

У віхры шалёным імчацца плянэты:
лясы шалясцяць у прасцягах раўнін.
Узлёты, падзенні, бязмэтнасць і мэты,
падлеглая вечнасці—бегу гадзін.
Стаю заварожаны музыкай дзіўнай,
любуюся гамамі, хварбай нябёс.
Чыясці душа не выказана ные
у муках страшэнных і цёмных, як лёс.

І далей паэт у стане свайго ідэалістычнага сузіральніцтва гукае:

Каго пыпытацца, каго мне паслухаць,
Чаму прыпынілі плянэты хаду?

Гэта вышэйшы пункт фантастычна-хворай рамантыкі, калі паэт стварaў кашмарныя ілюзіі „страшэннага і цёмнага, як лёс“ свету, за якім не бачыў нічога і нікога. Глебка, апынуўшыся ў творчым тупіку сваёй творчасці, ісці далей такім шляхам ужо не меў магчымасці. Глебка павінен быў знайсці выхад з гэтага ўрызіснага становішча свайго светапогляду і творчага метаду.

І вось, пачынаючы з канца 1928 г. і пачатку 1929 г. ва ўмовах абвострання класавай барацьбы ў нашай краіне, у сувязі з нашымі перамогамі і поспехамі соцыялістычнага будаўніцтва і культурнай рэволюцыі, нацыянал-дэмакратызм актывізуецца і адчынена выступае ў сваёй контррэволюцыйнай дзейнасці супроць палітыкі комуністычнай партыі, супроць дыктатуры пролетарыяту. Комуністычная партыя разбівае контррэволюцый-

ны нацыянал-дэмакратызм. Для дробна-буржуазнай пісьменніцкай інтэлігенцыі, якая знаходзілася пад уплывам нацдэмаўшчыны ідэалогічная атмасфера праяснілася. Як прадстаўнік гэтай дробнабуржуазнай інтэлігенцыі, будучы левым узвышанцам, Глебка, таксама, пачынае з гэтага часу парываць са сваімі старымі нацыянал-дэмакратычнымі творчымі ўстаноўкамі, старым светапоглядам, і пераходзіць на пазіцыю пролетарскага светапогляду.

Такім чынам ужо ў канцы 1928 г. Глебка, пішучы, напрыклад, такія творы, як „На спатканні гадоў“, „Песні жалобы“, „У падарожжы“ і інш., пачынае выходзіць з тупіка сваёй фантастычнай рамантыкі, з-пад уплыву нацдэмакратызму, на сцэну рэальнага жыцця, на сцэну савецкай літаратуры.

Калі Глебка рашуча пачынае адыходзіць ад свайго старога дробна-буржуазнага светапогляду, імпрэсіяністычнага рамантызму і пераходзіць на пазіцыю пролетарскага светапогляду, ён пачынае глядзець на рэчаіснасць як-бы зусім новымі вачыма і, значыцца, пачынае на-новаму бачыць, па-новаму адчуваць, па-новаму асэнсоўваць і, разам з гэтым, па-новаму паказваць у сваёй творчасці нашу рэчаіснасць. Праўда, у пераломны момант пераходу з аднэй творчай пазіцыі на другую наш паэт перажываў і перажывае яшчэ цяжкасці як светапогляднага парадка, так і творчага, што вядуць за сабою розныя хібы, зрывы, памылкі палітычнага і мастацкага характара. Палітычныя памылкі нацдэмаўскага парадка, якія Глебка зрабіў у сваім публіцыстычным артыкуле („Заклік“ №2 за 1933 г.) з'яўляюцца вынікам і паказчыкам таго, што Глебка яшчэ поўнасцю не ачысціўся ў сваім светапоглядзе ад рэштак нацыянал-дэмакратычнага цяжару, што перабудова светапогляду і творчага метаду паэта цяжкі і сур'ёзны працэс. Гэтыя памылкі, як вядома, ужо асуджаны самім Глебкам.

Аднак, не гледзячы на ўсе паасобныя памылкі, зробленыя Глебкам, трэба сказаць, што паколькі ён пачынае глядзець на рэчаіснасць з пункта пролетарскага светапогляда, яго творчы метад, мастацкі паказ прасякнуты ўжо не імпрэсіяністычна-ідэалістычным рамантызмам, а становіцца рэалізмам савецкай сапраўднасці рэалізмам соцыялістычнага будаўніцтва, рэалізмам класавай барацьбы пролетарыята за пабудову соцыялізма ў нашай краіне. Вось якія асноўныя новыя характэрныя рысы ва ўсім другім перыядзе творчага развіцця Глебкі.

III.

У першай фазе другога перыяда характэрным творчым паказчыкам з'яўляецца зборнік вершаў „Урачыстыя дні“ (1930 г.). У творах гэтага зборніку Глебка апявае, імкнецца паказаць, як ён сам гаворыць у прадмове да гэтага зборніка, „дні ўспаміна і жалобы, дні рэволюцый і перамог“. Таму вы не шукайце тут мастацкага паказу штодзённай работы нашай рэволюцыі, нашых

перамог. Глебка выбраў толькі асобныя дні, дні ўрачыстасці, і іх апявае, славіць:

Я слаўлю гэтую урачыстасць,
Я слаўлю выбраныя дні,
Калі ў праменнях залацістых
Над краем вольным і квяцістым
Гараць святочныя агні.

Такім чынам Глебка ва ўсіх сваіх творах, нават гэтага зборніка, пачынае шчыльна падыходзіць да паказу нашай рэволюцыйнай рэчаіснасці. Яго простая, без выкрунтасаў, мерная, без зігзагаў, плаўная, без хваляваньня, спакойная, без напышчанасці, узнятая, без штучнасці рытміка верша пульсуе новай мэлодыяй. У архітэктоніцы Глебкавага вершу ёсць заўсёды нешта шчырае. лёгкае, простае. Усе каноны старой паэтыкі верша (ямб, харэй, анапэст, і г. д.) у яго вершы гэтага часу дышуць сваеасаблівай, паэтычнай свежасцю, мелодычнасцю, прастатой.

Тэматыка твораў, надрукованых у зборніку „Урачыстыя дні“ („Крывавая нядзеля“—верш, прысвячаны гістарычнаму святу 9-е студзеня, „Песні жалобы“—верш, прысвячаны смерці правадыра сусветнага пролетарыяту У. І. Леніна, у вершы „Сон у першамайскую ноч“ паэт малюе барацьбу рэволюцыйных рабочых Захаду за сваё вызваленьне з-пад гнёту капіталізма, у вершы „У падарожжы“ паказваецца ў форме контраста совецкая Беларусь, краіна будаўніцтва соцыялізма, і Заходняя частка Беларусі, якая стогне пад ·уціскам польскага фашызма), гаворыць за тое, што паэт падыходзіць да паказу нашай рэчаіснасці зусім па-новаму, ніж раней; яго цікавяць сапраўдныя гістарычныя падзеі рэволюцыйнай рэчаіснасьці, а не асобныя імпрэсіі абстрактнай рамантыкі. Усе гэтыя творы прасякнуты пафасам рэволюцыйнай барацьбы, паэтычнай эмацыянальнасцю, узнятай песеннай рытмікай верша. Глебка на справе пачынае імкнуцца паказаць нашу сапраўднасць, нашы перамогі, заваёвы, урачыстасці, клясавую барацьбу пролетарыята, праўдзіва, рэальна, так, як гэта ёсць на самай справе ў нашым жыцці. Гэтым ён робіць пачатак станаўлення на рэйкі соцыялістычнага рэалізма. І гэты пачатак пачынае ўжо праяўляцца яшчэ ў паэме „На спатканні гадоў“.

У першай частцы гэтай паэмы, у форме сцэнічнага абразка, прыёмамі дыалага Глебка паказвае нам класавага ворага, нацыянал-дэмакрата і, выкрываючы класава-варожае контррэволюцыйнае нутро гэтага нацдэма, паказвае праўдзівыя факты нашых дасягненняў ва ўсім нацыянальна-культурным будаўніцтве совецкае Беларусі. Далей паэт раскрывае, паказвае ў гэтым творы цэлую галерэю класавых ворагаў: нэпманаў, папоў, шавіністаў, растратчыкаў і да т. п. Але трэба сказаць, што ў гэтым паказе многа схэматычнасці, павярхоўнасці, нетыповасці вобразаў-характараў.

У другой частцы гэтага твору паэт паказвае нам дасягненні соцыялістычнага будаўніцтва, але і тут ён падыходзіць да мастацкага паказа нашай рэчаіснасці па-святочнаму, выбірае толькі ўрачыстыя моманты, асобныя дні, святы, а не ахоплівае, не засвойвае рэчаіснасць ва ўсім яе штодзённым працэсе, не спускаецца яшчэ да будняў нашага будаўніцтва, не паказвае рэчаіснасць ва ўсёй яе глыбокай шматграннасці, а збіваецца больш на павярхоўны паказ. Гэта, магчыма, тлумачыцца тым, што і тут, ужо на новым этапе творчага развіцця засталіся яшчэ перажыткі старых, сузіральніцка-эстэцкіх пазнавальна-эмацыянальных адносін да рэчаіснасці. Нават кампазыцыя паэмы, асобныя мастацкія прыёмы паэтычнага паказа, а таксама і некаторыя другія мастацкія кампаненты гэтага твору гавораць пра схематычнасць і павярхоўнасць творчага метада. Напрыклад, возьмем тую-ж паэму „На спатканні гадоў“. Яна кампазіцыйна складаецца з двух частак: „Перад новым годам“ і „На новы год“. Гэтыя часткі паэмы арганічна, кампазыцыйна між сабою не звязаны. Зусім адсутнічае інтрыга. Сюжэт і фабула прасталінейны. У першай частцы паказваюцца клясавыя ворагі з іх думкамі, намерамі, дзеяннямі, у другой—падаюцца дасягненні (ў форме паэтычных прамоў нашых палітычных дзеячоў) соцыялістычнага будаўніцтва. Трэба сказаць, што ва ўсім гэтым адчуваецца неглыбокі паказ нашай рэчаіснасці, ва ўсім гэтым паказе адчуваецца многа яшчэ непрачутага, непрадуманнага, а адсюль кідаецца ў вочы павярхоўнасць, жыццёвая непаўнакроўнасць мастацкага паказа нашай рэчаіснасці.

Мы азначылі некаторыя асноўныя рысы творчасці Глебкі, калі ён пачынаў адыходзіць ад „беспрадметнай“, прыродаапісальнай лірыкі, ад нацыянал-дэмократычнага рамантызма, ад сузіральніцка-эстэцкіх імпрэсыяністычных асноў сваёй творчасці і пачынаў пераходзіць на пазіцыі пролетарскага светапогляду, а разам з гэтым перабудоўваць свой творчы метад у напрамку соцыялістычнага рэалізма. Практычным мастацкім выражэннем гэтага працэса, як мы бачылі, з'яўляецца зборнік вершаў „Урачыстыя дні“. Яшчэ ў гэтым зборніку Глебка зрабіў рашучы пачатак (і толькі пачатак) сваёй перабудовы. Паглядзім, як гэты пачатак развіваўся далей, прыбліжаўся і прыбліжаецца да соцыялістычнага рэалізма совецкай літаратуры.

IV.

У 1932 г. Глебка выдае новы зборнік сваіх твораў пад назвай „Хада падзей“. Трэба сказаць, што гэты зборнік вершаў у параўнанні са зборнікам „Урачыстыя дні“ з'яўляецца новым паказчыкам у напрамку творчага росту творчасці Глебкі, у напрамку далейшай перабудовы паэта. Тут мы маем прынцыпова новае тое, што паэт неяк па-новаму пачынае падыходзіць да мастацкага паказа рэчаіснасці. Менавіта ён засвойвае, асэнсоўвае ўжо

рэчаіснасць не па-святочнаму, выбірае не знадворныя з'явы, якія кідаюцца ў вочы, а імкнецца асэнсіць, засвоіць працэс гістарычных падзей, падыходзіць да рэчаіснасці не з пункта погляду толькі „ўрачыстых дзён", асобных момантаў, калі толькі адзначаюцца гістарычныя падзеі, а з пункта погляду канкрэтна-гістарычнага руху самых падзей, з пункта погляду соцыялістычнай рэволюцыі.

Адсюль вынікаюць, бязумоўна, некаторыя новыя рысы творчага метаду нашага паэта, рысы новых паэтычна-пазнавальных адносін да нашай рэчаіснасці. Так, напрыклад, Глебка ў сваёй лірычнай прадмове да паэмы „Трывожны сігнал" (1929 г.) разгортвае праграму новых актыўных паэтычных адносін да практыкі соцыялістычнага будаўніцтва, па-новаму засвойвае рэчаіснасць. Ён ужо ад святочнага сузіральніцтва урачыстасцяй пераходзіць дзейна да канкрэтных штодзёных з'яў нашай сучаснасці.

Размах будаўніцтва не звыклы,
напружная праца штодзень,
І трэба
—упарта і сціпла—
прымаць найвялікшы удзел.
І трэба—
Аддана і смела
тварыць рэволюцый пасаг...

І далей, цікава, як тут-жа паэт, супроцьстаўляючы свой новы погляд на рэчаіснасць старому погляду нейкага паэта, які „ломячы белыя рукі" шукае „рамантыкі дзён", „спявае пра каханне", а штодзённыя актуальныя абавязкі „прозаю кліча", паэта, які адарваўся ад нашага жыцця пагразу тумане абстрактнай дробна-буржуазнай рамантыкі, што засланяе яму вочы, не дае магчымасці ўбачыць рамантыкі соцыялістычнага будаўніцтва, рамантыкі рабочага класа. Глебка ўпякае гэтага рэфлексійнага дробна-буржуазнага рамантыка, упадніка і паказвае яму выхад

Туман прычыняе павекі,
Утомай збіваючы з ног—
Шукаеш рамантыкі некай
Навеянай вёсламі сноў.
А ў кожнай пульсацыі сэрца,
У кожным размаху рукі—
Ты бачыў, паэт,
Як імкнецца
Жыццё разламаць берагі.

Глебка, такім чынам, рашуча адмаўляе рамантыку, навеяную „вёсламі сноў" (магчыма тую, у якой ён сам знаходзіўся на першым этапе свайго творчага развіцця), смяецца над гэтым паэтам

і паказвае яму новую рамантыку, рамантыку социялістычнага будаўніцтва. Глебко так заяўляе гэтаму паэту:

> Тваё распраданае сэрца
> Рамантыкай той не гарыць,
> Як мускул ад працы ірвецца,
> Імкнецца комуну стварыць.

Гэта, бязумоўна, пераломны момант у светапоглядзе і творчым метадзе Глебкі. Магчыма, тут адбываецца рашучы пералом яго светапогляду на новыя пролетарскія рэйкі, рашучае адмаўленне дробна-буржуазнай асновы свайго старога светапогляда і творчага метада. Магчыма, у вобразе „нялюбага" паэта-рамантыка Глебка адмаўляе свой стары творчы метад і становіцца на пазыцыю соцыялістычнага рэалізма. Разам з гэтым паглыбляюцца індывідуальныя паэтычныя асаблівасці ў творчасці Глебкі. Ад „святочнага" апісавання ўрачыстасцяй соцыялістычнага будаўніцтва Глебка пераходзіць да рэалізма штодзённай працы, рэалізма будняў нашага будаўніцтва. Пры гэтым, трэба сказаць, што тут у творчасьці Глебкі, як мы гэта толькі што бачылі, арганічна спалучаюцца соцыялістычны рэалізм з рэволюцыйным рамантызмам. Апошні Глебкам паказваецца, як энтузіязм, пафос, героіка рабочага класа, „імкненне комуну стварыць". Вось гэта па сутнасьці стала дамінантным ў творчым метадзе нашага паэта на новым этапе. Творчы дыапазон Глебкі пашыраецца. Разам з гэтым нават у жанравых, кампазыцыйных адносінах мастацкая архітэктоніка ў творчасці Глебкі абнаўляецца, становіцца якасна другой. Паэтычныя сродкі набылі некаторыя зусім новыя рысы. Ад маленькіх, імпрэсіяністычна-лірычных, бессюжэтных вершыкаў, ад сцэнічных абразкоў, літмантажыкаў, лірычнай хронікі, дэкламацыйных вершаваных прамоў—Глебка пераходзіць да паэм, сюжэтна-фабульных твораў. Вазмеце для прыклада такія творы, як „Арка над акіянам", „Арлянка", „Трывожны сыгнал" і інш. Менавіта тут вы ўгледзіце мастацкі нешта новае, адчуеце паэтычную свежасць, бо ў гэтых творах Глебка імкнецца адлюстраваць у сваёй паэзіі совецкую рэчаіснасць, ход гістарычных падзей, класавую барацьбу ад грамадзянскай вайны да нашых дзён. Увесь гэты гістарычны працэс Глебка імкнецца паказаць з пункта погляду пролетарыята. Тэматыка яго творчасці стала новай, рэволюцыйна-канкрэтнай, актуальнай тэматыкай. Паэтычны метад набліжаецца да метада соцыялістычнага рэалізма, што арганічна спалучаецца з рэволюцыйным рамантызмам. У гэтых адносінах характэрным з'яўляецца вышэйадзначаная паэма.

У паэме „Трывожны сыгнал". Глебка паказвае гераізм чэкістаў у рэволюцыйнай барацьбе з бандытызмам на Беларусі ў час грамадзянскай вайны. Менавіта тут яскрава спалучаецца рэалізм з рэволюцыйнай рамантыкай грамадзянскай вайны. Гэтаму адпавядае і лёгка-песенная, імклівая, як гераізм, рытміка вершаў. Адчуваеш, што той самы стары, кананічны чатырохстопны ямб неяк гучыць новай, свежай мелодыяй. Гэта свежая імклівая мело-

дыя, безумоўна, перш за ўсё, навеяна радаснай гераічнай ідэяй перамогі чэкістаў, ідэяй перамогі пролетарскай рэволюцыі, ідэяй мэтаімклівасці, бадзёрасці, рэволюцыйнай прагнасці новых боек, новых больш вялікіх перамог нашай рэволюцыі.

Цягнік імчаўся
далей,
далей,
бліжэй да сонечнай красы,
І расцілаліся па шпалах
чыгунных рэек паясы.
Яны вялі да новых боек
да новых так-жа перамог,
каб сілы нашыя удвоіць,
каб пролетарый перамог.
Вялі на новыя прасцягі,
каб так-жа іх адваяваць
і запаліць над імі зоры
комуны светлай хараства.

Вось гэта тое паэтычна новае, свежае ў творчасці Глебкі ў другой вышэйшай фазе другога перыяда яго творчага развіцця Добрыя імкненні, добры пачатак. Гэта першы крок на творчы шлях, па якім павінен ісці наш паэт. І ў далейшай сваёй творчасці, калі ён імкнецца паказаць непасрэдныя будні, героіку нашых дзён, энтузіязм будаўнікоў бескласавага грамадства, ударніцтва і соцспаборніцтва, то тут ён у асноўным ужо моцна становіцца на гэты шлях. Глебка правільна асэнсоўвае наша змаганне за социялізм, „сакрэт“ перамогі пролетарскай рэволюцыі.

„Вучыла нас змагацца
партыя,
вяла прайсці
шляхі калючыя,
і вышлі мы,
як сталь, упартыя
на бой
пад сцягам рэволюцыі.

Гэта зноў новая дадатная рыса ў творчасці паэта. Яна характарызуе яго такія рэчы, як „Арка над акіянам“, „Арлянка“ і інш творы, напісаныя ў апошнія гады. Ва ўсіх гэтых творах вы ўгледзіце нешта якасна новае, паэтычна свежае, зусім не падобнае на ранейшую яго творчасць. Тут перш за ўсё адчуваецца як імкліва пачынае біцца жывы творчы пульс нашай сучаснасці, як пачынае па-новаму гучэць рытміка яго вершу, як усе паэтычныя кампаненты глебкавага паэтычнага аркестра пачынаюць іграць сімфонію совецкай сапраўднасці, пачынаюць гучэць ва унісон социлястычнага будаўніцтва.

Аднак, трэба сказаць, што паэт недастаткова расце ў глыбіню, у сэнсе належнага мастацкага засваення рэчаіснасці. Магчыма дзякуючы гэтаму ў многіх мясцох Глебкавай паэзіі, як рудымент, застаецца старая крынічная мель, якая часам, як мы гэта будзем бачыць ніжэй, значна дае сябе адчуваць у творчасці Глебкі.

## V

Мы вышэй адзначылі і часткова паказалі, што дамінантаю творчага метада Глебкі ў другі перыяд яго творчага развіцця пачынае станавіцца метад соцыялістычнага рэалізма. Паглядзім цяпер, як і ў чым праяўляецца гэты метад у творчасці паэта.

Вядома, што метад соцыялістычнага рэалізма патрабуе ад кожнага пісьменніка глыбокай, шчырай, большэвіцкай, жыццёвай праўдзівасці ў мастацкім паказе нашай сапраўднасці, ён патрабуе перш за ўсё ад кожнага пісьменніка сказаць усю праўду аб нашым жыцці. Прычым, паказаць гэтую праўду нашай рэчаіснасці не ў застыглым, статычным выглядзе, а, наадварот, дынамічна, у працэсе, зменах, пераходах з аднаго ў другое, патрабуе не лакіроўкі рэчаіснасці, а сапраўднага мастацкага адлюстравання ва ўсёй жыццёвай шматграннасці кожнай з'явы, кожнага новага працэса, паказа барацьбы старога з новым, перамогі новага над старым, перамогі соцыялізма над капіталізмам як у эканоміцы, так і свядомасці людзей.

Калі разглядаць творчасць Глебкі другога перыяду толькі ў гэтым аспекце, то трэба сказаць, што наш паэт імкнецца паказаць і паказвае ў сваіх творах (праўда, не так мастацкі глыбока, як гэта трэба было-б) нашу сапраўднасць праўдзіва з пункта гледжання пролетарыята, з пазіцыі соцыялістычнай рэволюцыі.

У паэме „Арка над акіянам“ гэты бок мастацкага паказа даволі рэл'ефна праяўляецца. Для гэтай паэмы Глебка ўзяў актуальны, пры чым тыповы, рэальны факт совецкай рэчаіснасці. А менавіта: асушка векавога балота і будаўніцтва на гэтым балоце электрастанцыі. Матар'ял паэмы з'яўляецца, як мы бачым, надзвычайна канкрэтным і тыповым. На гэтым матар'яле паэт імкнуўся даць паэтычнае палатно соцыялістычнага будаўніцтва, мастацкі паказаць, як праз класавую барацьбу „цяжкія крокі індустрыі да перамогі нас вядуць“, як асушаюцца непраходныя беларускія балоты і на іх месцы вырастаюць волаты-Асінстаны. На гэтым палітычна-актуальным фоне разгортваецца сюжэт і фабула паэмы, дзейнічаюць персанажы, лёгка, як здаровы чалавек, дышуць усе паэтычныя кампаненты паэмы свежым, ідэйна-насычаным павертам, адбываецца ідэйна-мастацкі паказ нашай сапраўднасці.

Кладучы ў аснову сваёй паэмы „Арка над акіянам“ асноўную ідэю перамогі соцыялістычнага будаўніцтва, Глебка галоўным чынам імкнуўся паказаць і паказвае ў мастацкіх вобразах перш за ўсё класавую барацьбу пролетарыята за соцыялізм, большэвіцкую ўпартасць і энтузіязм рабочага класа ў гэтай барацьбе, пераробку чалавека, перамогу пролетарскай рэволюцыі.

У вобразе Гафрона Глебка паказвае нам вытрыманага комуніста-рабочага, кіраўніка і арганізатара ўсёй работы на пабудове. У вобразе Яцыны паэт выводзіць заядлага і класавага ворага, рэстаратара капіталізма, які замаскаваўся, прымазаўся да совецкай улады і ў гэтай форме, пад фальшыва-нацыянальным сцягам увесь час,

прыехаўшы на будаўніцтва ў якасці памочніка інжынера, шкодзіў, затрымліваў будаўніцтва. У вобразе Яновіча Глебка малюе тыповага старога спецыяліста, які многа чаго не разумее ў нашай рэволюцыі, але ідзе за рэволюцыяй шчыра і аддана, хоча працаваць, аддаць свае веды на карысць соцыялізму. Вось тры галоўныя персанажныя вобразы з'яўляюцца рознымі лініямі, з якіх складаецца сюжэтная канва паэмы. У гэтай роўніцы разгортваецца мастацкі паказ класавай барацьбы на будаўніцтве. Прычым, уся ўвага пры разгортванні мастацкага паказа накіравана ўвесь час выключна на тое, каб раскрыць да канца класавага ворага, сарваць з яго маску і паказаць перамогу соцыялістычнай рэволюцыі.

Гэтая-ж самая рыса асабліва характэрна ў творчасці Глебкі пазнейшага часу. Возьмем, напрыклад, хоць-бы яшчэ яго паэму „Арлянка". Тут Глебка, узяўшы тэму для сваёй паэмы з эпохі грамадзянскай вайны на Беларускі, таксама перш за ўсё падыходзіць да засваення гэтай тэмы з класавай пазіцыі пролетарыята. Разгортваючы дзеянні паэмы на фоне рэволюцыйнай барацьбы Чырвонай арміі і партызанскіх атрадаў за вызваленне Беларусі ад белапалякаў, Глебка, галоўным чынам, канцэнтруе ўвагу на класавым сэнсе гэтага вызвалення. Ён да канца разбівае буржуазных нацыяналістаў у вобразе Рацкага, які таксама пад фальшыванацыяльным сцягам, „хварэючы за краіну сваю Беларусь", хацеў дэзарганізаваць фронт Чырвонай арміі і гэтым аддаць працоўную Беларусь у кіпцюры панскай Польшчы. Даючы гэты вобраз класавага ворага Глебка зрывае варожыя маскі з контррэволюцыйнаых нацыянал-дэмакратаў. Цікава яшчэ адзначыць тое, як Глебка, зрываючы маскі з буржуазных нацыяналістаў, у вобразах камандзіра Розіна і рэволюцыянеркі Касаны правільна развязвае нацыяналную праблему. Тут нацыянальнае падпарадкавана класаваму, праз класавае паказваецца нацыянальнае. Так, напрыклад, калі белапольскі афіцэр робіць допыт у Касаны, гаворычы ёй, што „яна гонар палячкі згубіла, аддала яго для Масквы, а Беларусь прадала мужыкам,—то Касана з палам рэволюцыянеркі адказвае:

Не йшла я змагацца за ўсю Беларусь,
А йшла—
за працоўныя станы,
І гонар палячкі тады зберагу,
Як гонар працоўных дастану.
Вышэй усялякіх хвалёных ідэй—
Айчыны,
братэрства і нацый—
Адзіны ёсць гонар сумленных людзей—
То гонар мазольнае працы.

Паказваючы ў паэме „Арлянка" барацьбу Чырвонай арміі і партызанскіх атрадаў за Совецкую Беларусь у гады грамадзянскай вайны, Глебка канцэнтруе сваю ўвагу, больш за ўсё, на нацыянальнай праблеме, падыходзіць да паказу яе ў мастацкіх вобразах з пролетарскіх пазіцый. І гэтым, трэба сказаць, выпраўляе старыя свае паасобныя памылкі нацыяналістычнага характара,

якія былі зроблены на першым этапе яго творчага развіцця, калі, як паказана ў пачатку, ён знаходзіўся пад уплывам нацыянал-дэмакратычнай ідэаолгіі.

Такім чынам мы бачым, што Глебка ў сваім творчым развіцці становіцца на пазіцыі пролетарскага светапогляду, на новы шлях творчага метада. Гэта асабліва яскрава праяўляецца ў яго новых творах наогул і ў прыватнасці ў адзначаных намі паэмах „Арка над акіянам“ і „Арлянка“. Гэтыя паэмы, як мы бачылі, прасякнуты рэалізмам класавай барацьбы, рэалізмам соцыялістычнага будаўніцтва, рэалізмам перамогі пролетарскай рэволюцыі.

## VI

Фрыдрых Энгельс у сваім лісце да ангельскай пісьменніцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя Маргрэты Гаркнес, прачытаўшы яе апавяданне „Гарадская дзяўчына“, зазначыў на недастатковую рэалістычнасць гэтага апавядання таму, што ў ім рабочы клас быў паказан пасіўным, не тыповым для тых гістарычных акалічнасцяй Англіі.

Зазначаючы на гэтыя недахопы Маргрэты Гаркнес, Энгельс гаварыў: „На мой погляд, рэалізм падразумевае, апрача праўдзівасці дэталяў, вернасць перадачы тыповых характараў у тыповых абставінах“. Вось гэтай вернасці, праўдзівасці перадачы тыповых характараў часта не хапае ў творчасці нашага паэта. У большасці па гэтай лініі творы Глебкі недастаткова з'яўляюцца рэалістычнымі. Калі Глебка паказвае нам, напрыклад, у „Арцы над акіяным“ тыповыя акалічнасці соцыялістычнай рэволюцыі (асушка балота і будаўніцтва на ім электрастанцыі, энтузіязм рабочага класа ў гэтым будаўніцтве і г. д.), то персанажным вобразам, характарам, асобным людзям, якія дзейнічаюць у гэтых акалічнасцях, часта нехапае тыповасці. Такая нетыповасць праяўляецца і ў паэме „Арлянка“ і інш. творах. Больш за ўсё хварэюць на гэты недахоп вобразы Алісы, Фальца з „Аркі над акіянам“ і вобразы Азорыча і Касаны з паэмы „Арлянка“, і ў меншай меры гэта адбіваецца на вобразах Гафрона і Розіна. Больш таго, момант нетыповасці мастацкай індывідуальнасці характараў у творчасці Глебкі праяўляецца не толькі ў персанажных вобразах, а распаўсюджваецца і на другія кампаненты яго творчасці. Вазьмеце, напрыклад, сюжэт і фабулу гэтых паэм. Пры гэтым трэба памятаць, што фабула і сюжэт у мастацкім творы павінны існаваць, як неразрыўнае адз'нства; фабула павінна вынікаць з сюжэта, абумоўлівацца ім і з'яўляцца формай праяўлення апошняга. А ўсё гэта, у сваю чаргу, павінна вынікаць з ідэі твора і абумоўлівацца ёю. У творах Глебкі часта не хапае гэтага арганічнага адзінства. У яго часта мы сустракаем разрыў фабулы і сюжэта; больш за ўсё фабульнасць твора з'яўляецца недастаткова тыпізаванай. Успомніце хаця-б сабе той момант з паэмы „Арка над акіанам“, калі паэма ўжо прыблі-

жаецца да сваёй развязкі. Глебка ні з таго, ні сяго дае таемны вобраз Алісы, якая, будучы жонкай Яновіча, ведаючы, дзе хаваюцца шкоднікі Яцына і Фальц, аддаецца бяспрычыннай псыхалёгічнай трывозе, хварэе і „моліцца доўга за мужа грахі". Яна не гаворыць чамусці Гафрону, дзе хаваюцца лютыя ворагі, праз якіх Яновіч хварэе „снамі вар'ята", у роспачы ўскрыквае, яна толькі востра перажывае ўсё гэта і супакойвае свайго мужа. Тут сапраўды „тайна застаецца тайнай. Гэты фабульны момант з'яўляецца зусім, па-нашаму, нетыповым, адарваным ад сюжэта. Больш таго сам вобраз Алісы таксама з'яўляецца не тыповым. У вобразе Алісы Глебка хацеў нам паказаць перабудову старога чалавека, у свядомасці якога моцна трымаюцца рэлігійныя забабоны. Гэты цяжкі працэс у творы адбываецца неяк раптам; ні з таго-ні з сяго Аліса становіцца новым чалавекам. Вось у чым, мы думаем, заключаецца нетыповасць характару, схематызм і павярхоўнасць мастацкага паказа нашай рэчаіснасці.

Такая лінія, у новым творчым метадзе Глебкі як хіба праяўляецца даволі часта. Калі возьмеце ўсе яго творы, асобныя персанажныя вобразы і другія мастацкія кампаненты, то вы часта сустрэнеце недахопы менавіта па гэтай лініі, па лініі мастацкага тыпажа, па лініі шырокага паэтычнага абагульнення. Нетыповасць часта адчуваецца, як мы сказалі, не толькі на персанажных вобразах, на сюжэце і фабуле, а і на рытме вершаў (дэкламацыйная, нават штучна ўзнятая ў некаторых мясцох зборніка „Хада падзей" і інш., рытміка,) на лексіцы (размовы паасобных персанажаў ў паэме „Арка над акіянам" і інш.)

Асабліва яскрава гэты момант праяўляецца ў творы „Эма". Гэты твор, цалкам прысвячаны паказу перабудовы нашай вёскі на аснове калектывізацыі і перараджэння старога чалавека ў новага. Тут Глебка паказвае працэс калектывізацыі, ці праўдзівей хацеў паказаць у гістарычным аспекце, канцэнтруючы ўвагу на дробна-ўласніцкіх пачуццях селяніна, паказваючы, як гэтыя пачуцці мяняюцца і становяцца новымі, калектыўнымі. Паэтычны паказ разгортваецца на некалькіх малюнках гістарычнага працэсу, пачынаючы з 1921 г. ды ідучы па парадку год за годам у выглядзе хронікі да 1931 году. Сюжэт і фабула паэмы разгортваецца на канкрэтна-рэалным фоне нашай сапраўднасці, у форме проста-лінейнай кампазыцыі. Сюжэтна-фабульным вузлом паэмы з'яўляецца дзяўчынка Эма і ўласная маёмасць селяніна—цялушка з белым лобікам. Дзеянне, прыкладна, разгортваецца так: 1921 год. Зіма. У гаспадарцы беднага селяніна ацялілася карова. Ад холаду гаспадар унёс цялё ў хату. Яго дачка маленькая Эма забаўляецца з гэтаю цялушкаю, любіць яе.

Цялё гадуецца. Прыходзіць вясна, а ў гаспадарцы няма каня. Селянін прадае карову, каб купіць каня, застаецца адна цялушка. Летам Эма ганяе яе на пашу. Прайшло некалькі год, цялушка выгадавалася. Эма падрасла. І раптам—калектывізацыя. Цялушку трэба аддаваць у калгас. На гэтым фабульным фоне адбываецца

калізійна-псіхалёгічная трагедыя дробна-ўласніцкіх пачуццяў селяніна і яго жонкі. Шкода аддаваць у калгас сваю толькі што ўзгадаваную карову. Старыя дробна-ўласніцкія пачуцці гавораць адно, а гістарычная неабходнасць патрабуе другога. Гаспадар хоча адвесці маладую карову ў калгас, а гаспадыня не дае, шкадуе. Кулакі ў гэты час пад бухторваюць гаспадара, каб ён зарэзаў яе на мяса. Селянін рашае рэзаць. Эма не дае і адводзіць карову ў калгасную абору. І тут жа ў калгасе Эма раптам становіцца комсамолкай-ударніцай.

Вось вам сюжэтная канва паэмы. Глебка імкнуўся паказаць тут працэс перароблкі селяніна, дробнага ўласніка ў свядомага калгасніка. Інакш кажучы, ён імкнуўся паказаць барацьбу старога з новым, перамогу новага над старым. Але не ўсё ў гэтым паказе добра. Тут, перш за ўсё, кідаецца ў вочы павярхоўнасць і схематычнасць мастацкага паказа, наша рэчаіснасць паэтам належна не засвоена, мастацкі не прачута, не прадумана. А адсюль усе хібы.

Паэт у сваім падыходзе да засваення працэса калектывізацыі хоча глыбока асэнсаваць і паказаць нам, што такое калектывізацыя, неабходнасць яе і адкуль яна ўзнікае, чым была падрыхтавана. Але тут больш як дзе ён збіваецца на непаэтычны паказ, на схематызм і павярхоўнасць. Вось, напрыклад, як ён паказвае прыход калектывізацыі.

Шмат прамінула год,
Шмат уцякло вады,
Шмат пастарэў малады
стаў дзяцюком малы,
сховам,
гады ішлі.
З імі расла ўгару
творчасць мазольных рук,
з імі напружнасць расла,
вывесці вёску на шлях
светлай калгаснай зары,
каб загулі трактары,
каб заспявалі машыны,
каб над палеткамі згінуў
сум непатрэбнай самоты,
смутак мізерных клапотаў,
каб гадавалася радасць
творчай працоўнай брыгадай.

Усё гэта правільна, але гэта не паэтычны паказ, а сухая дэкламацыйна-наіўная, нават штучная рыторыка. Гэта самы яркі прыклад схематызму і павярхоўнасці ў творчым метадзе паэта. Тут мы наглядаем неглыбокі падыход да калектывізацыі і неглыбокі падыход да засваення нашай рэчаіснасці. І гэтай нуднай рыторычнасцю прасякнуты амаль усе кампаненты твору „Эма“. Кампазіцыя твора просталінейная, часткі паэмы арганічна не звязаны між сабою, сюжэт і фабула часта разрываюцца з ідэяй твора, не вынікаюць з яе, не абумоўліваюцца ёю. У многіх мес-

цах рытміка верша прасякнута рытарычнай штучнасцю. У паэме ўсё неяк адбываецца стыхійна, раптоўна, выпадкова. Дзе, напрыклад, прычына таго, што гаспадар хоча аддаць сваю карову ў калгас, а яго жонка ўпарта супраціўляецца гэтаму? Чаму Эма не дае рэзаць карову і адводзіць яе ў калгас? Гэтыя моманты ў паэме не матываваны. Чаму Эма раптам становіцца свядомай калгасніцай, ударніцай і комсамолкай? Таксама не паказана разгорнута. Прычына гэтага ў тым, што Глебка, як след, не засвоіў гэтай тэмы, не засвоіў усебакова самога жыццёвага працэса калектывізацыі, добра не ведаў самой рэчаіснасці, падышоў да гэтага працэса павярхоўна, знадворна. Глебка імкнецца паказаць рэчаіснасць у плане соцыялістычнага рэалізма, але яго імкненне яшчэ часта разыходзіцца з дзейным, належным паэтычным паказам.

Менавіта адгэтуль вынікаюць тыя хібы—схематызм, павярхоўнасць, недастатковая яшчэ тыповасць характараў,—якія мы адзначылі вышэй, і якія сустракаюцца даволі часта ў творчасці Глебкі на новым этапе яго паэтычнага развіцця, калі ён канчаткова стаў на шлях совецкай літаратуры.

Але як бы там ні было, у творчым развіцці Глебкі, ёсць бясспрэчны мастацкі рост. З дробна-буржуазнага сялянскага паэта, які некаторы час стаяў на няправільным творчым шляху, пад уздзеяннем пролетарскай соцыялістычнай рэволюцыі, пры правільным кіраўніцтве савецкім літаратурным рухам з боку комуністычнай партыі—Глебка становіцца ў першыя шэрагі беларускай совецкай літаратуры.

І. ПЛАШЧЫНСКІ

## ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ.

Чым шырэйшая і каштоўнейшая рэчаіснасць, што паказваецца ў творы, чым ідэёва глыбей, усебакова і праўдзівей, арыгінальней і хвалююча раскрываецца гэта рэчаіснасць, чым больш напружана разгортваецца тэма твора, тым гэты твор будзе станавіць большую соцыяльную і мастацкую якасць, тым будзе з'яўляцца большым грамадзкім чыннікам. Выходзячы з такой устаноўкі, я і спынюся на творы Крапівы „Мядзведзічы", у якім паказваецца вёска аднаўленчага пэрыяда.

„Мядзведзічы", перш за ўсё, твор глыбока рэалістычны і таму пераконвае сваею праўдзівасцю. Асноўным, што ставіць гэты твор на вышэйшую ідэёвую ступень за шмат якія папярэднія творы, з'яўляецца тое, што да рэчаіснасці пісьменнік ставіцца перш за ўсё і толькі, як да рэчаіснасці класавай. Крапіва ўбачыў на вёсцы аднаўленчага пэрыяда не якуюсці суцэльную шэрань, соцыяльна скрозь аднолькавае, твань соцыяльнага закіснення, а ўбачыў абвостраную класавую барацьбу, непрымірымасць класавых супярэчнасцяй. У гэтым асноўная асаблівасць „Мядзведзічаў", і таму вёска паўстае тут у сваім сапраўдным выглядзе, у выразна акрэсленым соцыяльным вобліку. Класавае змаганне пранізвае наскрозь усё жыццё вёскі таго часу: старое змагаецца з новым і ў сям'і і ў грамадзкіх адносінах. Паказ гэтага змагання—галоўным чынам, на фоне земляўпарадкавання,— і з'яўляецца стрыжнем рамана „Мядзведзічы", прычым змаганне паказваецца ў плане непасрэднай сувязі з задачамі неабходнасці соцыялістычнай перабудовы вёскі і паказваецца не праз агульныя выслоўі і фармулёўкі, а праз узаемадачыненні соцыяльных характараў, якія (узаемадачыненні) перарастваюць у асвядомленае імі змаганне, як класавае.

У Крапівы няма людзей наогул, толькі біалагічных істот, соцыяльна аднолькавых паміж сабою. Ступень розніцы паміж людзьмі Крапівы вызначаецца розніцай іх соцыяльнага палажэння, якая абумоўлівае увесь духовы свет чалавека, ягоныя перажыванні, ягоныя паводзіны.

Класавы прынцып, як адзіна-сапраўдны, ляжыць у аснове Крапівовага разумення і аналіза чалавечых паводзін і псіхалогіі. Таму Крапіва і ўбачыў у вёсцы аднаўленчага пэрыяда не сялян наогул, а сяляніна-бедняка, селяніна-серадняка і кулака. Бядняк

і кулак—гэта два социяльныя полюсы, паміж якімі і ў той час не было і не магло быць злучальных ліній. З аднаго боку, актывіст чырвонаармеец Юзік, Сцёпка, Рыгор, Аўдуля, а з другога боку—Жагула, Каржакевіч, Грамабой—асноўныя персанажы рамана, на ўзаемадачыненні якіх і раскрываецца пісьменнікам класавае змаганне. Кулацкай актывізацыі, зацятай варожасці да совецкага лада Крапіва супроцьставіць рост актыўнасці комсамольскай ячэйкі, рост класавай свядомасці бядняцка-серадняцкіх мас вёскі ў кірунку ўключэння іх непасрэдна ў справу соцыялістычнай перабудовы вёскі.

Раней у Крапівовай творчасці кулак вельмі часта толькі высмейваўся, перадаваўся вонкава, часта толькі праз карыкатурны партрэт, праз фізычнае, знадворнае, але не паказваўся ў дзейнасці. Але праз натуралістычны паказ чалавека нельга стварыць глыбокага соцыяльнага характара, бо ва ўсёй сваёй сапраўднасці чалавек паўстае ў класавай практыцы. Менавіта паказ людзей праз непасрэдную іхнюю соцыяльную практыку праходзіць праз увесь раман „Мядзведзічы". Таму і кулак тут паказваецца ў дзейнасці, паўстае ў сваім эксплаататарскім абліччы, хцівым і хітрым, не без здольнасці манеўраваць, падпарадкаваць сваім інтарэсам частку вясковай беднаты і сераднякоў. Пад дудку „асцярожнага" Каржакевіча ідзе дэлегацыя ў соўгас, каб сялянам далі прырэзкі з соўгаснай зямлі. Адводзячы ўвагу сялян на соўгас і правакуючы іх на самавольную касьбу соўгаснай сенажаці, што прывяло да крывавага пабоішча, кулак хоча схавацца ад абрэзкі яго гаспадаркі. Праз ашуканства свайго брата Грамабой забірае сабе яго зямлю і маёмасць. „Пазычаннем пудзікаў" хлеба кулак тут закабальвае вясковую бедноту на „адработ". Кулак змагаецца рознымі сродкамі з усім новым, не спыняецца нават і перад забойствам найбольш стойкіх сваіх супрацоўнікаў, абы толькі ачысціць сабе дарогу. Крок за крокам Крапіва выкрывае манеўры кулака і разам ягоную стараннасць схавацца за „культурную" прышчэпаўскую гаспадарку, каб захаваць сваё класавае існаванне. Кулацкай актывізацыі Крапіва супроцьставіць рост свядомасці бядняцка-серадняцкай вёскі, якая вызваляецца з-пад яго ўплыва. Ва ўсім рамане адчуваецца, як усё старое ідзе да скону, як нарастаюць сілы для вялікай соцыялістычнай перабудовы вёскі.

Толькі ў класавым змаганні расце чалавек Крапівы. Пісьменнік паказвае на працягу ўсяго рамана, як у працэсе гэтага змагання фармуецца светапогляд чалавека, як бядняцка-серадняцкія масы пачынаюць узыходзіць, пад кіраўніцтвам партыі, на шлях адменнага жыцця, становяцца актыўнымі носьбітамі новых пачаткаў. Шэрагі гэтых новых людзей з кожным днём растуць, лініі іх паводзін больш выразна акрэсліваюцца. Класавае змаганне знішчае боязь „суседскасці", чалавек пачынае ўсведамляць свае інтарэсы, як класавыя, розніцу гэтых інтарэсаў, якая старанна затушоўваецца кулацтвам у сваіх уласных класавых мэтах. Праз увесь раман, праз кожную яго частку праходзіць змаганне соцы-

яльна-процілеглых інтарэсаў у вёсцы аднаўленчага пэрыяда. Пісьменік канцэнтруе ўсю сваю ўвагу на гэтым змаганні, як на самым істотным, важным.

„Мядзведзічы“ — жорсткі і беспаваротны прысуд, кінуты ў твар старой дробнаўласніцкай вёсцы. У сваіх дачыненнях да гэтай вёскі, да яе побыта Крапіва вельмі паслядоўны. З усёй сілай сваёй сатыры пісьменнік бічуе і агаляе гэту, шмат кім усхваленую, рэчаіснасць. У прыклад шмат якім нашым маладым пісьменнікам Крапіва не пакідае тут нічога, што магло-б вабіць і захапляць. Двуіснасці ў пісьменніка тут няма, ёсць адмаўленне без азірання назад, без шкадавання і авеяных сантымэнтальнай саладжавасцю лірычных адступленняў. Найлепшым і пераканальным адказам на паэтызацыю вясковага дзяцінства, адказам на ўсхваленне непасрэднасці перажыванняў хлапчука-пастушка (малюнкі чаго ёсць не ў аднаго з нашых пісьменнікаў, у тым ліку і ў маладых)—з‘яўляецца праўдзівы Крапівоў паказ нечалавечай эксплаатацыі кулаком парабка-пастушка, сына бедняка. У „Мядзведзічах“ няма ні ўтульных садочкаў, ні бястурботнасці лісцвяных шэлестаў, ні супакойлівай цішыні, ні бязмэтных вандраванняў прышлага ў вёску інтэлігента, які з ёй не звязан, таму і бяссільны ўбачыць праўду яе жыцця. Неабыякавыя малюнкі, не прыкрая лірыка хлуслівага ўпрыгожвання дробнаўласніцкай вёскі, а пераканальная і цяжкая соцыяльная праўда пра побыт гэтай вёскі гаворыць са старонак „Мядзведзічаў“; і побыт гэты паказваецца пісьменнікам з вялікім соцыяльным абурэннем і наскрозь яго адмаўленнем. „Калатня“, „Засталося ў памяці“ вылучаюцца з усяго рамана сваёй мастацкай сілаю, нават трагедыйнасцю. Пісьменнікава абурэнне тут дасягае выключнай моцы.

Традыцыі, часта нечалавечыя праклёны, вечныя прычэпкі, заалагічная злосць і знявага чалавека, нуда, цемра, панурасць, рэдкае гасцяванне ласкавага слова ў сям‘і, ветлівай усмешкі— вось што асабліва характэрна для гэтага побыта... „Гэта панурасць часцяком узрывалася. І тады людзі не чаялі нагаварыцца адно з другім. Гаварылі ўсе зразу. Крычалі, лемантавалі, скавыталі, скрыгаталі зубамі з бруднай лаянкай, са страшнымі кленічамі. Зычылі адно другому такое, што каб хаця дваццатая доля таго сталася, дык бы ўсіх іх назаўтра павыцягвалі на могілкі. І ўсё гэта за пусцяковіну, за зламаную іголку, за лапаць-недатопак, за тое, што курыца „мусіць“ знеслался ў суседавых каноплях“. Тут над усім пануе неймаверная цяга да ўласнасці, жаданне стаць багацейшым, выбіцца ў „адмысловыя людзі“, узняцца хоць „на сучок ці на два вышэй“. Гэтаму ўсё падпарадкавана: „З кожнага кутка хаты шчэрыць зубы нешта слізкае, прагавітае і агіднае... яно гатова вырваць з зубоў кожнага кусок, сарваць з плеч кожны лахман“. І гэта не выпадак, не прыватнасць, не драбніца. На сям‘і серадняка Верамейчыка пісьменнік паказвае ўсё гэта з выключнай мастацкай сілаю.

Увесь цяжар гэтага звярынага побыта перанёс на сябе сын серадняка Юзік, вобраз якога з'яўляецца ў рамане цэнтральным вобразам увасаблення адмаўлення такога ўклада жыцця. У жыццёва неабходную патрэбу вырастае ў Юзікавай свядомасці жаданне адчуць і ўбачыць сапраўды чалавечыя адносіны, пачуць „звонкае і вясёлае слова“, „пасмяяцца самому і пачуць людскі шчыры, а не з'едлівы, штучны смех“. Да дробнаўласніцкай вёскі Юзік інакш і не ставіцца, як да звярына прагавітай і цёмнай.

Юзік пачынае разумець, што вечным і неадчэпным спадарожнікам старога ўклада вясковага жыцця з'яўляецца ўзбагачэнне лічаных і гібенне большасці, азвярэлая пагоня за павялічэннем уласнасці, не зважаючы на сродкі, праз якія гэта дасягаецца. Перад ім ва ўсёй велічы паўстае пытанне: „Ды няўжо-ж так заўсёды і будуць рваць адзін ў другога з зубоў, таптаць другога ў гразь, каб самому вылезці з балота, стаўшы на спіну суседа. „Штохвілінна і на кожным кроку ўсё больш і больш пачынае неадчэпна яго хваляваць пытанне „дзе выхад“, „дзе дзецца ад усяго гэтага“, што зрабіць, каб пазбавіцца мізернага, нечалавечага жыцця.

Пісьменнік не прымушае свайго ўлюбёнага героя ўцякаць, пакінуць гэта жыццё чалавечай зняважі. Пытанне асабістага жыцця перарастае ў Юзіка ў пытанне шырока грамадскае, у пытанне перабудовы ўсёй вясковай рэчаіснасці. Таму гэты вобраз становіцца вобразам чалавека справы, абагульняючым, тыповым, соцыяльна-дзейным. У пошуках выйсця Юзік хапаецца за ўсякую новую справу, аж пакуль не дайшоў, нарэшце, да пераканання, дзякуючы сакратару райкома партыі, што адзіна сапраўднае выйсце толькі ў калектыўнай форме жыцця. Трэба падкрэсліць, што Крапіва паказвае рост свядомасці працоўнага сялянства без скажэння асноўнай яго лініі, а менавіта ў кірунку наспявання ўмоў, падрыхтоўкі ў працесе класавага змагання да перахода на калектыўныя, соцыялістычныя пачаткі жыцця, пачатак чаго ў „Мядзведзічах“ ужо зроблен арганізацыяй машыннага таварыства. Вось чаму ў Крапівы не будзе выпадковым і нечаканым пачатак калектывізацыі. Вобраз актывіста Юзіка з'яўляецца канкрэтным выражэннем ідэі першай кнігі рамана „Мядзведзічы“.

Развальваецца ў „Мядзведзічах“ стары ўклад жыцця, з яго побытам, разбураецца і павінна быць разбурана ўсё старое праз жорсткае класавае змаганне, парушаюцца, каб адыйсці ў нябыт вякамі выраслаўшыя традыцыі, нараджаюцца новыя людзі, з'яўляюцца першыя парасткі новай культуры, сяляне пачынаюць адыходзіць ад рэлігіі з яе забабонамі, вызваляецца ад гэтага і працоўная жанчына, узыходзячы на шлях грамадскай справы, актывізуецца комсамольская ячэйка, расце актыў. Замест дробнаўласніцкага старога, творыцца, пад кіраўніцтвам партыі, зусім адменнае новае масамі працоўнага сялянства. Праз абвастрэнне класавага змагання сяляне Крапівы даходзяць да сцверджання неабходнасці барацьбы на справе з кулацтвам. Першая кніга

рамана канчаецца падачай заяў у партыю бядuntнячкі Аўдолі і скалечанага кулакамі бедняка Рыгора, што мае ў рамане сэнс абагуленага значэння.

Вось якой паказвае Крапіва вёску аднаўленчага перыяда, што дадатна вылучае „Мядзведзічы“ сярод ранейшых твораў самога Крапівы і сярод твораў іншых пісьменнікаў, у якіх паказвалася вёска гэтага часу. „Мядзведзічы“ характарызуюць пісьменніка Крапіву не як назіральніка грамадскага працэса, а як непасрэднага, актыўнага барацьбіта за соцыялістычнае грамадства.

Крапіва прышоў у літаратуру з выразнымі хістаннямі паміж старой і новай вёскай. Пісьменнікавы ідэалы не выходзілі за межы ідэалаў серадняцкага сялянства, і крытыка ўсяго адмоўнага насіла ў значнай ступені ліберальны характар, тон серадняцкай „памяркоўнасці“. У гэты час у Крапівы не паўставала пытанне карэннай перабудовы самога ўклада вясковага жыцця. Найчасцей гутарка ішла пра выходнае з гэтага ўклада, пра пэўныя абумоўленыя ім пабытовыя з'явы, але не пра аснову яго, што стала ідэёвай дамінантай рамана „Мядзведзічы“. Раней бытавізм часта выпукляўся на першы план, ва ўрон ідэёвай завостранасці твора. У „Мядзведзічах“ побыт старой вёскі пастаўлен у неадлучную сувязь з яе дробнаўласніцкай соцыяльнай прыродай. І таму тут адмаўленне гэтага побыта перарастае ў вялікую прынцыповую справу, у адмаўленне самога жыцця, якое нараджае яго. Крапіва тут пазбавіўся ад бытавізма, ад занадтага выпуклення розных пабытовых дробязяй, што засланяла раней соцыяльную практыку чалавека, было эмпірычным поўзаннем па рэчаіснасці і перашкаджала разгледзець пісьменніку соцыяльны сэнс з'явы. Не барацьбіт, а спрыяльны назіральнік новага—вось што характарызавала асноўны тон значнай часткі ранейшых твораў Крапівы. Крапіва больш высмейваў адмоўнае жыццё, чым бічаваў і беспаваротна адмаўляў. У „Мядзведзічах“ сатыра прасякнута соцыяльным прысудам, носіць акрэслены палітычны характар. Дужасць гэтае сатыры падкрэсліваецца тым, што яна датыкаецца з'яў не павярхоўна, а бярэ самую іх сэрцавіну, іх соцыяльны сэнс, а не толькі як пабытовую адмоўнасць, скрыўленне.

Вось чаму „Мядзведзічы“ карысны і патрэбны твор, які аднак мае шэраг важнейшых недахопаў. Найбольш дадатнае ў „Мядзведзічах“ стасуецца галоўным чынам да праўдзівасці, рэалістычнасці паказа рэчаіснасці.

Пісьменнік добра ведае вёску, узяў з яе жыцця асабліва характэрнае, тыпічнае. У гэтым сэнсе „Мядзведзічы“—твор каларытны. У вобраза людзей няма нічога надуманага, штучнага, рысы іх схоплены пісьменнікам жывымі, вобразы індывідуалізаваны і таму не зліваюцца паміж сабою. Крапіва ўмее схапіць характэрную ўнутраную рысу чалавека, каб, выпукліўшы яе, надаць сапраўдную індывідуалізацыю таму ці іншаму вобразу. У „Мядзведзічах“ ёсць шмат асабліва сочна, каларытна пададзе-

ных жанравых малюнкаў, ці то ў плане гумарыстычным, ці ў сатырычным. І аднак-жа, не зважаючы на ўсё гэта, „Мядзведзічам“, як раману, можна было-б шмат чаго пажадаць і якраз у плане напружанасці, драматычнасці паказа рэчаіснасці.

„Мядзведзічы“—першы буйны празаічны твор пісьменніка, у якім так адчуваецца Крапіва, як майстра малога жанра. Пра гэта з усёй выразнасцю сведчыць і кампазыцыйны і сюжэтны бок рамана. Кампазыцыя, разгортванне сюжэта—найбольш слабыя бакі „Мядзведзічаў“ як рамана. Раздзелы „Мядзведзічаў“ наўрад ці можна назваць раздзеламі рамана. Гэта хутчэй вельмі часта зусім закончаныя навелы, у якіх падаецца які-небудзь эпізод. Развіццё агульнай дзеі невыстарчальна падкрэсліваецца, і з ім падчас, бадай нічым не звязаны гэтыя раздзелы-навелы. Пісьменнік часта збочвае ад свае асноўнае тэмы і падае тую ці іншую жанравую зарысоўку, часамі другараднага парадка, закранае тэмы, арганічна не звязаныя з асноўнай, што робіць яшчэ больш павольным, і без таго павольнае, развіццё дзеі, „Мядзведзічы“ ў пэўным сэнсе з'яўляюцца нізкаю навел, у якіх паказваюцца розныя бакі аднае і тае-ж рэчаіснасці. У „Мядзведзічах“ часамі награмаджаюцца дробязі, пабочнае і другараднае. І ў кампазіцыйным і ў сюжэтным плане пісьменнік зусім невыстарчальна выпуклiў арганізавальную функцыю вобразаў персанажа.

Надзвычайна марудна развіваецца дзея ў рамане. Прынцыпова правільна падыходзячы да рэчаіснасці як да класавай, а да людзей як да носьбітаў розных класавых інтарэсаў, Крапіва не здолеў стварыць социяльна-напружанага сюжэтнага твора, кандэнсаванага ў дзеі сюжэта. І таму „Мядзведзічы“—раман без кульмінацыйнага сюжэтнага пункта, без сапраўднай вялікай хвалюючай інтрыгі. Драматызацыі дзеі, трагедыйнасці, напружанасці ўзаемадачыненняў і палажэнняў, эмацыянальна-ўзнятага жыцця вобразаў-персанажаў—якраз і не хапае „Мядзведзічам“. Крапіва даў рэалістычны малюнак, але малюнак, які не вызначаецца складанасцю ліній і фарб; наадварот, лініі простыя, фарбы без арыгінальных злучэнняў, без вялікай і так патрэбнай мастацкай фантазіі. Ва ўсім гэтым і хаваецца адзін з асноўных недахопаў „Мядзведзічаў“, які далёка не вычэрпваецца толькі зніжэннем чытацкай зацікаўленасці да рамана, а зніжае яго мастацкую якасць і ёсць паказальнік слабасці Крапівы як раманіста.

Крапіва—раманіст пакуль што яшчэ слабейшы за Крапіву-майстра малога жанра, якім пісьменнік больш і адчуваецца ў сваім першым рамане. Перад Крапівою вялікая творчая работа, каб перамагчы яшчэ ўсё-ж новы для яго літаратурны жанр. Трэба спадзявацца, што другая кніга рамана, прысвячаная арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў, будзе крокам наперад у параўнанні з першай, будзе больш багатая цікавымі падзеямі, сюжэтнай напружанасцю дзеі, эмацыянальна-хвалюючай узнятасцю, канфліктнасцю вобразаў, кампазыцыйнай арганічнай зітаванасцю.

---

Е. ГАЛЬПЕРЫНА

# АНДРЭ ЖЫД І КОМУНІЗМ.

I.

Значэнне перахода Андрэ Жыда, буйнейшага прадстаўніка Француcкай буржуазнай літаратуры на бок пролетарскай рэволюцыі, вялізарнае. Гэта— падзея ў агульным працэсе палявення значнай часткі францускай інтэлегенцыі, які мы наглядаем у апошні час. Два вялікія социяльныя працэсы ляжаць у аснове гэтага палявення. Па-першае, да комунізма сцягваецца цэлы рад дробнабуржуазных пісьменнікаў, адлюстроўваючы гэтым зрухі цэлых грамадскіх пластоў, заваяванні пролетарыятам шырачэзных мас дробнай буржуазіі, прамежных пластоў, якія вымываюцца крызасам і вызваляюцца ад уплыва буржуазіі. Другі працэс—гэта адрыў ад капіталістычнай сістэмы яе лепшых перадавых мысліцеляў і мастакоў.

Дваістыя з'явы адбываюцца сярод ідэолагаў буржуазіі ў эпоху рашаючай барацьбы капіталізма і социялізма. З аднаго боку, буржуазія кансалідуе ўсе свае сілы, згуртоўвае ўсіх сваіх ідэолагаў на абарону сістэмы, якая рушыцца. Яшчэ Маркс падкрэсліваў, што „расшчапленне класа можа даходзіць нават да пэўнага супроцьстаўлення адзін аднаму і варожасціа бодвух паказаных частак (ідэолагаў і іншых яго прадстаўнікоў), але варожасць гэта знікае сама сабою пры ўсякай практычнай калізіі, што пагражае існаванню класа". Яскравейшы прыклад гэтага даў Голсуорсі, таксама адзін з буйнейшых пісьменнікаў XX стагоддзя, буржуазнае ліберальнічанне якога раней даходзіла да вельмі глыбокай крытыкі свайго класа і яго ўласніцкай прыроды. Калі-ж наступіла гэтая „практычная калізія" і на ўвесь рост паўстала перспектыва нямінучай і не так ужо далёкай гібелі гэтага класа, Голсуорсі адчуў сябе сынам капіталістычнай сістэмы, заганнасць якой ён сам агаляў раней, і стаў на яе абарону.

Прыклад Андрэ Жыда паказвае адваротнае, паказвае, што асобныя найбольш зоркія і сумленныя прадстаўнікі буржуазіі знаходзяць у сабе сілу і паслядоўнасць парваць са сваім класам і яго культурай, распад якое яны адчуваюць з асаблівай вастратой. Іх пераход на бок пролетарскай рэволюцыі не адлюстроўвае зрухаў цэлых социяльных пластоў, але ён адлюстроўвае велізарную сілу, рэальную і маральную перамогу новага социялістычнага света, новай социялістычнай культуры, якую не могуць не прызнаць нават пэўныя пласты буржуазіі.

Але чаму-ж менавіта Андрэ Жыд стаў здольны на гэты ідэалагічны скачок? Жыд, гэты рафінаваны эстэт, які ніколі не меў ніякіх адносін ні да якіх соцыяльных праблем, ні да якіх палітычных падзей,—і раптам... пераход да комунізма.

На гэтых непаразуменнях узмоцнена грае цяпер французская буржуазная крытыка. Калі яе найбольш бульварна-рэакцыйныя прадстаўнікі абліваюць гразёю і Жыда і комунізм, то ўтончана-культурная частка буржуазных крытыкаў стараецца даказаць не сумяшчальнасць паняццяў „Жыд“ і „комунізм“, захаваць буйнейшага пісьменніка для буржуазнай культуры.

У гэтым сэнсе вельмі тыповыя думкі Рамона Фернандэца[1]), зусім культурнага і зусім буржуазнага аўтара вялікай і сур'ёзнай манаграфіі аб Жыдзе. Выходны пункт гэтага крытыка—захапленне мінулым адзінокім і скептычным Жыдам і яго „незалежнасцю“. Гэта ацэнка перахода Жыда з пазыцый ранейшага „жыдзізма“, з пазіцый скептычнага індывідуаліста, для якога адзіна важнае-захаваць сваю „асаблівасьць“.

Першы тэзіс Фернандэца—неразрыўнасць Жыда і Заходняй культуры. Жыд ёсць адваротны бок заходняга буржуазнага грамадства, і яго пратэст не магчымы без таго, супроць чаго ён пратэстуе, Другі тэзіс—неарганічнасць і незаконамернасць „ператварэння“ Жыда ў комунізм. Як суб'ектывіст і скептык, Фернандэц не імкнецца абмяркоўваць сапраўднасць комунізма. Пытанне пераносіцца ў напрамку таго, „ці ёсць гармонія, унутраная суадпаведнась паміж гэтым чалавекам і яго дактрынай“. „Калі комунізм здраджвае арыгінальнасьці Жыда, то Жыд не мае рацыі, што далучаецца да яго, хоцьбы Масква і ўладала ісцінай“. У эволюцыі пісьменніка Фернандэц не бачыць нічога, што-б казала аб яго сапраўдным набліжэнні да комунізма. Адгэтуль і вывад, што Жыд сваім пераходам шмат робіць для справы комунізма (з чым мы зусім згодны), але сам ад гэтага свайго ўчынка зусім нічога не вкйграе, а, наадварот, траціць, як выражаецца гэты крытык, свой „унутраны самарух“. „Я шкадую, што Жыд так скончыў свой шлях, такі гібкі, утончаны і ўпэўнены які ён мог працягваць толькі застаючыся адзін“. Прадпасылка ўсіх гэтых разважанняў ва ўпэўненасці, што Жыд, будучы ў межах буржуазнай культуры, адчуваў сябе вельмі добра, мог свабодна развіваць сваю асобу і творчасць і быў зусім задаволены сабою і сваім становішчам. Адгэтуль— адрыў яго ад капіталізма не апраўданы, ніяк не выцякае з усяго яго шляху і шкодны паколькі комунізм толькі забівае яго „я“.

Гэта дзікая ацэнка Жыда скажае ўсё аблічча пісьменніка і ўвесь яго шлях. Падобныя сцверджанні ў розных варыянтах тыпічны для большасці буржуаных крытыкаў Жыда. Тым больш неабходна іх выкрываць. Але палемізаваць з імі можа толькі

[1]) Артыкул „Нататкі аб эвалюцыі Жыда“ у „Нувэль Рэвю Франсэз“, ліпень 1933 г.

паказаўшы на аналізе эвалюцыі Жыда яго глыбачэзныя супярэчрасці ў буржуазным грамадстве, немажлівасць разгортвання ў межах гэтага грамадства асобы і творчасці пісьменніка, глыбокую неабходнасць дзеля гэтага адрыва яго ад буржуазнай культуры, ясна прыкметныя зрухі ў творчасці Жыда ў пасляваенны перыяд, нарэшце, паказаўшы, што пераход Жыда на бок комунізма ўпяршыню дае сапраўдны выхад з невырашальных для яго раней супярэчнасцяй.

Увесь шлях А. Жыда—гэта разгорнутае сцверджанне думкі Маркса аб немажлівасці існавання сапраўднага мастацтва ў капіталістычным грамадстве, у грамадстве, дзе „талент сканцэнтраваны ў нямногіх людзях і задушан у масе: у грамадстве, дзе „духоўная і матэрыяльная дзейнасць, асалода і праца, вытворчасць і спажыванне выпадаюць на долю розных асоб“, у грамадстве, дзе чалавечая індывідуальнасць, уціснутая ў рамкі капіталістычнага падзела працы, дарэмна спрабуе разарваць іх. Маркс лічыў, што для сапраўднага высокага росквіту мастацтва патрэбна грамадства, якое забяспечвае „нармальнае“, усебаковае развіццё асобы, што слаба намецілася ў антычнай дэмакратыі і можа быць ажыццёўлена толькі ў будучым. Гэта думка ніколькі не абвяргаецца існаваннем буйных мастакоў у эпоху капіталізма і нават імперыалізма. Але творчасці „натуральнай“ свабоднай, створанай у гарманічным адзінстве з усім грамадствам, мы знайсці ў іх не можам. Так у эпоху імперыялізма, калі ўсе капіталістычныя супярэчнасці ажыццяўляюцца ў самай напружанай форме, імёны буйнейшых пісьменнікаў буржуазіі выклікаюць вобраз творчасці пакутлівай і хваравітай. Джойс альбо Пруст—геніяльныя „вырадкі“, пачварныя ў сваёй аднабаковасці. Найбольшая геніяльнасць і зоркасць у гэтую эпоху вызначаецца ў буржуазнага пісьменніка ў тым, што творчасць становіцца фокусам, які ўбірае ў сябе ўсе супярэчнасці эпохі. Голсуорсі, Жыд на мінулым этапе вялікія таму, што адлюстравалі з велізарнай сілай немажлівасць жыць і тварыць пры капіталізме. Геній буржуазіі праяўляецца ў гэту эпоху не ў шчаслівай гарманічнасці сваёй творчасці, але ў глыбіні і вастраце, з якой ён адлюстроўваючы гінучае грамадства, паказвае, як задыхаецца ў ім вялікая індывідуальнасць.

Творчая гісторыя Жыда, магчыма, з найбольшай напружанасцю паказвае гэты трагічны парадокс эпохі—геніяльнасць у паказе немажлівасці творчасці. Увесь яго шлях абвяргае ідылічны малюнак лёгкага шляху Жыда ў буржуазным грамадстве, створаны крытыкамі буржуазіі. Уся яго творчасць, наадварот, паказвае, як буйны чалавек і мастак б'ецца ў марных пошуках свайго поўнага і ўсебаковага развіцця, у спробах разарваць аковы буржуазнай культуры, у прагнасці да актыўнасці „сумленнай і пазбаўленай уласнай выгаднасці“, якая (актыўнасць) немагчыма ў межах буржуазіі. Увесь шлях Жыда да перахода на бок рэвалюцыі—бясконцыя кіданні ў розных формах буржуазнай

культуры, якая душыла яго, у пошуках „выйсця". Гэтае замкнутае кола кіданні было разарвана толькі апошнім крызісам, які расчыніў перад ім перспектыву сапраўднага выйсця. Вось чаму Р. Фернандэц і да яго падобныя буржуазныя ідэалогі гвалтуюць ісціну, спрабуючы сцвярджаць, што пераход на бок рэвалюцыі нічога не дае Жыду.

У дадзеным артыкуле мы паспрабуем даказаць гэта на канкрэтных фактах яго творчага развіцця, пачынаючы з самых яго вытокаў.

II.

Вытокі творчасці Жыда вядуць у асяроддзе забяспечанае, сытае, палітычна інертнае, у коснае асяроддзе сярэдняга французскага рант'ерства. Мацнейшая ўлада традыцый вісіць над ім. Аўтабіяграфія „Калі не памірае зерня" раскрывае перад намі гэты буржуазны свет, замкнуты, цесны. Хрысціянскі, пратэстанцкі маралізм, ханжаскае пурытанства асяроддзя, з якога вышаў Жыд, надавалі яму адбітак асобнай затхласці. У „сшытках" і „вершах Андрэ Вальтэра" паўстае воблік юнага Андрэ Жыда пачатку 90-х гадоў, воблік юнака, які пакорна схіляецца пад уціскам традыцыйнай хрысціянскай маралі, які катуе цела ў знак адмаўлення ад сваёй асобы, юнака, поўнага біблейскага пафасу і пакорнасці. „Мне заўсёды падабалася слухацца, падначальвацца правілам,—уступаць". Пазней Жыд часта падкрэсліваў, што гэтае пурытанскае асяроддзе налажыла непазбыўны адбітак на яго псіхіку. Сапраўды цяжка ўявіць буржуазнае асяроддзе, у якім прыдушэнне асобы прымала-б больш суровыя прыгнётныя і безрадасныя формы. І, магчыма таму, Жыд, прадукт гэтага асяроддзя, змог асабліва ярка выразіць пратэст супроць прыгнёту асобы ўсім буршуазным грамадствам у цэлым. Нуда і замкнутая балотнасць акружэння адводзілі ўвагу ў нутро, у свет псіхікі. Адгэтуль узнікла блізасць юнака Жыда да асяроддзя сімбалістаў. Ён становіцца вучнем Малларма, у гурток якога прыцягвалі яго „спакой і амаль рэлігійная атмасфера гэтага месца". Ранні „Трактат аб Нарцысе" яшчэ поўнасцю гучыць застойным спакоем сімбалізма. Вобраз паэта з'яўляецца тады Жыду ў абліччы Нарцыса, схіленага над паверхняй свету ў пошуках платонаўскага рая, згубленых ідэальных форм.

Увесь гэты пасіўны і сузіральны свет „тонкіх" перажыванняў, містыкі і хрысціянскай пакоры вельмі скора пачынаюць душыць Жыда. Паэт пачынае ўсведамляць, што ён „быў абавязан выратаваннем свайго цела толькі нявыгойнай атруце сваёй душы". Паступова нарастае стан „а д д а л е н н я" ад навакольнага. Замест пакоры, прабуджаецца прагнасць да свабоднага, поўнага развіцця свайго „я". Тады пачынае гучэць тэма „Усходу", якая становіцца лейтматывам усёй творчасці Жыда. Немажліва дыхаць у спёртым паветры салонаў і гурткоў. Па-

трэбна вырвацца на волю, на паветра, аддацца сваім жаданням. Навакольнае асяроддзе ўсведамляецца ва ўсім яго убостве.

Гэты „стан аддалення“, як яго назваў пасля Жыд, знайшоў ярчэйшае выражэнне у „Палюд“ („Балоты“), што паказвае на разрыў Жыда з сімбалізмам. З гэтага часу пісьменнік знаходзіць уласную праблематыку. „Палюд“—кніга надзвычай складаная і душная. Гротэскная грымаса гэтай гіранічнай рэчы нічога не шкадуе, ні сімбалічнага затхлага акружэння (балота), ні самога аўтара. Герой „Балотаў“ піша кнігу аб чалавеку, які ўсім задаволены. Ён спрабуе прарваць душны і „кніжны свет людзей“, якія не думаюць, не дзейнічаюць, не адчуваюць гэты свет ценяў. Ён спрабуе перадаць навакольным свае адчуванні непакою, сваю прагнасць да „адыходу“. Але што можа зрабіць слова? Жыд траціць веру ў іх сілу. Герой піша „Палюд“, ці значыць гэта, што ён што-небудзь р о б і ц ь. Агіднасць Жыда да кніжнасці і бяздзейнасці даходзіць да таго, што Жыд пачынае пагарджаць сваёй уласнай творчасцю. Ці можна с л о в а м і перамагчы слоўную пасіўнасць усяго гэтага сімбалічнага асяроддзя? Гротэскная складанасць „Палюд“ прыкрывае жахлівы скепсіс—немажліва жыць у пустоце, няма чым перамагчы яе, невядома, куды бегчы, бессэнсоўна творчасць. Ясна адно—бегчы кудысці за межы гэтай культуры неабходна.

Ужо ў „Палюд“ велізарнае імкненне прабіцца да нейкага жывога і дзейнага жыцця ўпяршыню афармляецца як тэорыя „чыстага незацікаўленага дзеяння“, ідэя, якая адыгрывае вялізарную ролю ва ўсёй творчасці Жыда.

У гэтай ідэі выразілася велізарная перасычанасць лепшых буйнейшых людзей буржуазнай культуры бяздзейнасцю, на якую асуджае іх паразітарнае перараджэнне іхняга асяроддзя. Гэтыя верхавінкі інтэлектуальнай культуры (прынамсі лепшыя з іх), на долю якіх прыпадае чыста духоўная дзейнасць, аддаленая ад усякай матэрыяльнай працы, з аднаго боку, фэтышызуюць свядомасць, з другога боку, часам пачынаюць ненавідзець сваю абмежаванасць і аднабаковасць, перастаюць успрыймаць духоўную дзейнасць, як сапраўдную дзейнасць. І сапраўды вытворства духоўных каштоўнасцяй у гэтым асяроддзі прымае характар такога „самазгоднага занятку“, становіцца такім спажывецка-асалодным“, што яно як-бы губляе апошнія рысы д з е я н н я. Актыўнасць, якую пісьменнікі тыпа Жыда бачылі ў буржуазным акружэнні (а яны былі замкнуты ў ім), гэта актыўнасць карыслівая, пабудаваная на выгадзе і на хлусні. Да „актыўнасці“ правай, агрэсіўнай і рэакцыйнай часткі буржуазіі Жыд далучыцца не мог і не жадаў. Між іншым нязвычайная вузкасць, на якую асуджала гэтая культура, гэтая пачварная аднабаковасць развіцця, параджала ў ім хваравітае пачуццё прыдушэння асобы. Жыд дасканала разумеў, што па-за дзейнасцю, па-за актыўнасцю няма выяўлення свайго „я“.

У радзе яго рэчаў праходзіць думка аб тысячах форм жыцця, якія можна было-б ахапіць, жывучы больш поўнацэнна. Але „з тысяч форм жыцця кожнаму дадзена пазнаць толькі адну“. Ці можа Жыд супакоіцца на ёй? Не! Уся яго творчасць—гэта незадаволеная прагнасць астатніх 999 непазнаных яе форм. Жыда катуюць „прадчуванні некранутых багаццяў, якія закапалі, схавалі, задушылі умоўнасці, культура, „мараль“. Асоба, скалечаная спецыялізацыяй, паразітызмам, умоўнымі традыцыямі адміраючай культуры б'ецца ў прагнасці свайго выяўлення. Так узнікае культ „чыстага свабоднага дзеяння“. Гэта „бескарыслівае „дзеянне не павінна быць матывавана нічым вонкавым, ніякай выгадай, ніякай карысцю. Адзіная яго ўнутраная матывоўка і апраўданасць—свабодная і бязмэтавае праяўленне свайго „я“. Гэта актыўнасць зусім бессэнсоўная, бесплённая і самагодная.

У гэтай ідэі Жыд не адзіны. Можна знайсці самых разнастайных літаратурных сваякоў яго „свабоднага дзеяння“. Забойства Раскольнікава і самагубства Кірылава ў Дастаеўскага маюць той жа сэнс „свабоднага акта“ для доказа сілы сваёй асобы, як і матывы звышчалавека Ніцшэ. У літаратуры ёсць свае варыянты такіх матываў ад філозофскіх надрываў Дастаеўскага да паўбульварных звышлюдзей Пшыбышэўскага. З французскіх сучаснікаў Жыда Жюль Ромэн неаднаразова выкарыстоўваў нават самую формулу „бескарыслівага дзеяння, пачынаючы з яго „прыяцеляў“ і канчаючы „Людзмі добрай волі“. Зусім зразумела, у розных адценнях гэтая ідэя набывае і розны соцыяльны сэнс, заўсёды застаючыся бясконца выродлівай у сваім буржуазным эгоцэнтрызме. Жыд спрабаваў супроцьпаставіць сябе гэтай ідэі—буржуазнай карыслівай культуры і паразытарнай пасыўнасці. Але сам ён тады яшчэ цалкам заставаўся ў межах буржуазіі і асэнсаваць не мог ніякіх шляхоў сапраўднага выяўлення свайго „я“. Толькі на глебе глыбокага скепсіса і адчаю магла вырасці гэтая пачварная канцэпцыя „самагоднага самавыяўлення“.

Першым крокам на шляху рэалізацыі свайго „я“ было для Жыда ўцяканне з путаў культуры ў прыроду, да зямлі і земных радасцяй. „Сокі зямлі“, кніга вандравання па Афрыцы, ператвараецца ва ўрачысты гімн земным пладам, земным адчуванням, земным асалодам. Культуры супроцьпастаўлена тут жыццё, кнізе—сапраўднасць. Жыд прагне „вымыць свае вочы ад гразі кніг“. Надзвычайна абвастраецца адчуванне бягучага моманту. Надзвычайна вострая прагнасць увабраць у сябе ўсё жыццё, усе адчуванні і радасці земныя, паспрабаваць усіх пладоў. Гэтая кніга павінна прабудзіць „жаданне выйсці ўсёроўна адкуль—з твайго горада, з сям'і, пакою, думкі“. Кніга вандраванняў ператвараецца ў разгул усіх пачуццёвых адчуванняў, у гімн плоці і жаданням. Нарысы вандраванняў перарываюцца патэтычнымі гімнамі асобным пачуццям, пладам, гарадам... Прагнасць „усё ўвабраць“ выклікае нейкі бясконцы паток адчу-

ванняў. Пачуццёвы пейзаж поўдня становіцца сімбалічным, які азначае росквіт пачуццёвага жыцця асобы. Бакі псіхікі, што прыдушаліся раней пурытанскім аскетызмам, вырваліся наверх. „Сокі зямлі"—адзіная суцэльная, поўная ўрачыстасці рэч Жыда. На мгненне ім авалодала ілюзія жыццёвай паўнаты і поўнацэннасці.

Але што-ж уяўляе сабою, уласна, гэтая набытая пісьменнікам актыўнасць, жыцце і паўната? Ці ёсць тут сапраўднае выяўленне свайго „я" ў актыўным дзеянні? Не, гэта не менш пасыўнае, хоць і прагнае ўбіранне ў сябе адчуванняў. Чалавек—губка, вось вобраз герояў „Сокаў зямлі". Як гэта далёка ад ідэала „сумленнай актыўнасці". Ідэёвы вынік гэтай рэчы—досыць звычайны „ніцшэанскі" індывідуалізм у пагоні за асалодаю, хоць і знайшоўшы незвычайна яркае і палкае выражэнне. „Бескарыслівае дзеянне" ў яго самай нявіннай форме вылілася ў чыстае ўпітванне адчуванняў.

Ці разумеў Жыд, што тут няма і цені адыхода ад буржуазнай культуры? Так. Ілюзіі жыццёвай паўнаты хапіла не надоўга. Праз два гады, у 1899 г., з'яўляецца „дрэнна прыкованы Праметэй", гротэскны фарс, які з гострай гіроніяй высмейвае і тэорыю чыстага дзеяння і самога Жыда, што супакоіўся быў на „амаральнай асалодзе". Жыд даў тут свой гротэскны аўтапартрэт у асобе Праметэя, дрэнна прыкаванага Зеўсам-банкірам, і які спусціўся на парыжскія бульвары. Ён дабраахвотна дае пажыраць сябе свайму Арлу, сімбалу сумлення і маралі, якога ён ненавідзіць і любіць. Але што рабіць Праметэю з яго сумленнем на парыжскіх вуліцах! Кульмінацыя гратэска-жудасны шарж Жыда на сваю творчасць у сцэне прамовы Праметэя да парыжскага натоўпу. Праметэй угаварвае яго любіць свайго Арла, г. зн. сумленне і мараль, а Арол робіць піруэты, каб развесяліць шаноўную публіку, абыякавую да пакут Жыда-Праметэя. Арлу (сумленню) няма месца ў царстве Зеўса-банкіра. „І адны казалі—яго патрэбна забіць. І другія казалі—яго патрэбна прадаць, дзеля чаго-ж існуюць рэдакцыі газет. „Праметэй засмажвае і з'ядае свайго Арла і становіцца сытым, ружовым і самазадаволенным, інакш кажучы арганічна ўростае ў Парыж Зеўса-банкіра. Праметэй—сыты і ружовы, якая ганьба! Але-ж увесь гэты шарж—толькі гротэскнае выяўленне шляху Жыда ад хрысціянскай маралі да амаральнай паўнаты адчуванняў. Значыць, паўната гэта аказалася хлуснёй, урастаннем у яшчэ горшае асяроддзе. Так, гэтак думае Жыд, закляйміўшы вобразам растлусцеўшага Праметэя свой ніцшэанскі амаралізм. Але тады дзе-ж выйсце? І Жыд пачынае ідэалізаваць той жа самы хрысціянскі маралізм, той-жа самы затхлы свет адрачэння і маралі, ад якога ён спрабаваў уцякаць. Патрэбна любіць свайго „арла"—такая мараль фарса аб Праметэі. Тэорыя выяўлення свайго „я" на шляху амаралізма пацярпела фіяска.

Матывы Праметэя атрымалі больш шырокае сюжэтнае разгортванне ў аповесці „Іммараліст“. Замест умоўна-алегарычных вобразаў фарса тут Жыд спрабуе даць нейкае рэальнае асяроддзе. Ствараецца яркі вобраз іммараліста Мішэля, які скінуў з сябе путы традыцыйнай культуры і маралі, які адышоў з душнага света кніг у свет адчуванняў і жаданняў.Нездарма гэты гісторык-вучоны „зацвярдзеўшай і засохшай латынскай культуры супроцьстаўляе разгул страсцей барбараў-готаў. Як заўсёды ў Жыда поўдзень і паўднёвы пейзаж, пранізаны сонцам і пачуццёвасцю, акружаюць шуканні іммараліста. Гэтыя шуканні—шлях уніз, да асалоды маны, разбэшчаных адчуванняў, крадзяжу. Нарэшце шлях развіцця асобы Мішэля ляжыць праз смерць яго жонкі. Ажыццяўляецца дактрына амаралізма—шчасце моцнага праз знішчэнне слабога.Такім чынам развіццё асобы вядзе да злачынства, „бескарыслівае дзеянне“—да забойства. Іммаралізм стаў тупіком. Вынік Мішэля і аўтара—бязвыходнасць. „Дайце сэнс майму існаванню. Я цярплю ад гэтай свабоды без прыстасавання“. Мішэль пачынае сабою рад рэальных маладых герояў Жыда, якія не ведаюць, куды прыстасаваць лішак сіл і актыўнасці. Ужо знойдзенае, здавалася-б, выйсце выявілася неабгрунтаваным. „Іммараліст“—гэта крах ідэі аб „самагодным“ выяўленні асобы ў форме буржуазнага амаралізма.

Ідэйнае паражэнне Мішэля—гэтага французскага Раскольнікава—не азначае, аднак, што Жыд грунтоўна вярнуўся да света хрысціянскай пакоры. Толькі аповесць „Вузкія дзверы“ дае закончаны апофеоз поўнага і беспрасветнага адмаўлення ад сваёй асобы, апофеоз містыкі і экстаза духоўнага самазнішчэння; гэта мацнейшы рэцыдыў пурытанскага аскетызма Жыда. Што-ж цягне пісьменніка назад да гэтага света? Расчараваўшыся ў „бескарыслівым дзеянні“, Жыд імкнецца да свайго ідэала „чыстаты, сумленнасці і празрыстасці“ і шукае яго ў маралі і пакоры.

Але ў большасці рэчаў Жыда гэта перамога пакоры псіхалагічна і творча неўстойлівая. Падобна Дастаеўскаму, даваенныя творы Жыда прасякнуты невырашальнай дваістасцю. Уцякаючы ад духаты буржуазнага маралізма ў свет пачуццёвасці і не знайшоўшы задавальнення, варочаючыся назад мастак блукаў па сутнасці ў мнімых крайнасцях. Ніякага „адыхода“ не было. Падобна нейкаму трагічнаму маятніку, Жыд хістаўся паміж двума формамі тэй-жа хлусьлівай і душачай буржуазнай культуры. Ідэал Жыда—спалучэнне ўнутранай сумленнасці, чыстаты і бескарыслівасці з выяўленнем свайго „я“, з актыўнай дзейнасцю ніяк не мог быць ажыццёўлены ў межах буржуазнага мышлення (а ў гэтых межах заставаўся тады Жыд). Адчуваючы глыбокую заганнасць абодвух сваіх „выйсцяў“, альбо, праўдзівей кажучы тупікоў, ён не мог спыніцца ні на адным з іх, як на апошнім рашэнні. Але не мог тады і разарваць з абодвума формамі

буржуазнай культуры, як ён зрабіў гэта ў апошнія часы. Адсюль бясконцая „заганная супярэчлівасць усяе папярэдняй яго творчасці“.

Цэнтральная праблема творчасці Жыда—немажлівасць выяўлення творчай асобы пры капіталізме—не магла быць раскрыта ім рэальна. Жыд не мог тады рэальна паказаць, як буржуазная культура душыць індывідуальнасць, як калечыць яе структура буржуазнага грамадства, хоць і адчуваў гэта з велізарнай вастратой. Таму супярэчнасці асобы пры капіталізме прымаюць у яго рэчах містыфікаваную форму барацьбы псіхалагічных катэгорый, формы супроцьстаўлення маралі і амаралізма, чыстаты і жаданняў, як усеагульных і вечных бакоў чалавечае душы.

У такой форме разгортваюцца псіхалагічныя супярэчнасці Жыда ў цэлым радзе яго рэчаў. Так, напрыклад, у умоўнай і абстрактна-сімбалічнай форме яны паўстаюць у яго драмах. У драме „Саул“ у біблейскіх вобразах цара Саула, якога мучаць дэманы жаданняў, і юнага Давіда Жыд сутыкае абодва псіхалагічныя канцы сваіх супярэчнасцяй—прагнасць аддацца інстынктам і прагнасць маральнай чыстаты. Супярэчнасць іх не вырашальна для Жыда. І хоць ён і спрабуе даказаць ідэйную перамогу „сумленнага“ Давіда, але творча гэта не пераканальна. На першым плане—пакуты Саула, яго спакусамі ўсхвалёваны аўтар і чытач.

Таксама невырашальна гэтая барацьба псіхікі ў „Цару Кандоле“. Гэта яшчэ адзін міфалагічны вобраз іммараліста, які аддае дзеля вострага адчування, дзеля асалоды рызыкі сваю жонку—сімбал унутранай чыстаты і гармоніі. Жыд адчувае ў гэтай рызыцы, у гэтым свабодным дзеянні велічэзную ўнутраную няпраўду і прыводзіць да пагібелі Кандола. Але ён не можа не жыць такімі спакусамі поўнага жыцця. У наступных творах гэтыя бясконцыя кіданні аднаўляюцца ў новых варыянтах, але з тым-жа велізарным і пакутным напружаннем.

Больш таго, не ўмеючы вырашыць супярэчнасцяй сваёй псіхікі, Жыд пачынае іх культываваць, увекавечваць. Яскравы прыклад—„Прытча пра ягобл уднага сына“ (1907 г.). У форму евангельскай прытчы апранаецца тут усё тая-ж гісторыя маральных шуканняў Жыда. Яго вобраз паўстае ў трагічным абліччы блуднага сына буржуазнай хрысціянскай культуры, які спрабаваў збегчы з „Снен Дома“ і добраахвотна вярнуўся, адмаўляючыся ад сваіх пошукаў свабоды. Блудны сын добраахвотна варочаецца ў рабства хрысціянства, бо свабода выявілася ілюзіяй, тым-жа служэннем і „яшчэ горшым панам“. На гэтым маленькім шэдэўры Жыда ляжыць пячатка трагічнай асуджанасці; у момант звароту блуднага сына яго малодшы брат, такі-ж палоннік умоўна маральнай культуры, у сваю чаргу адыходзіць з дома ў прагнасці выяўлення свайго „я“. Такім чынам барацьба супярэчнасцяй вечная, гэта вечны фатальны кругаварот „адыходу“ і добраахвотнага звароту. Калі абодва бакі супярэчнасцяй—тупікі, а адыйсці ад іх няма куды, то Жыд

лічыць за лепшае культываваць гэту дваістасць. Велізарны перыяд яго творчасці прасякнут культам складанасці, супярэчлівасці, ідэалізацыяй таго, што ён называў нейтралізмам.

Ужо ў прадмове да „Іммаралісга“ Жыд імкнецца тэарэтычна абгрунтаваць нейтральнасць пісьменніка. „Аўтар імкнуўся толькі паставіць праблему, спасылаючыся на тое, што многія вялікія розумы ўхіліліся ад вывадаў“. У кнізе аб Дастаеўскім ён бясконца захапляецца супярэчлівай складанасцю Дастаеўскага і абураецца на манеру зводзіць пісьменніка да аднаго якога-небудзь тэзіса, калі лепшае ў ім—яго складанасць. У заўсёдашняй палеміцы Жыда з Баррэсам і публіцыстамі агрэсіўнага нацыяналізма велізарнае месца займала абурэнне Жыда на іх прымітыўнасць, лазунговасць, аднабаковасць. Ён высоўвае прынцып нейтральнасці пісьменніка ў адносінах да сваіх самых супярэчлівых адна другой ідэй.

Але культ нейтралізма ўзнік проста таму, што Жыд не ведаў, дзе выйсце. Гэты нейтралізм, як гаворыць сам Жыд, ёсць у значнай ступені нерашучасць.

Культ складанасці быў для Жыда такім-жа тупіком і самападманам, як і іншыя яго „выйсці“. Пагарда да простых дарог, ясных адказаў і простых рашэнняў, увекавечванне свайго псіхалагічнага лабірынта—усё гэта не давала ніякага адчування трываласці. Пры гэтым няўхільны—унутраная спустошанасць, скепсіс, раз'ядаючая гіронія. Часамі Жыд проста „адмаўляецца браць у сур'ёз свет, які яго душыць“.

Так нараджаецца своеасаблівы жанр яго даваеннай творчасці-„соці“, гіранічныя гротэскі, блюзнерскія фарсы. У пакутнай грымасе здзекваецца ў іх Жыд з маралі і амаралізма, з немажлівасці іх прымірэння, з бессэнсоўнасці света і з сваёй уласнае складанасці. Асаблівасць яго „соці“—своеасаблівае спалучэнне гіранічнай усмешкі і балючага лірызма.

Прынцып усіх „соці“ Жыда—давядзенне да абсурда ўсіх самых выпакутаваных ім і ўлюбёных яго ідэй. „Палюд“ пачынае гэту серыю хваравітых грымас, якая прадоўжана ў „дрэнна прыкованым Праметэі“ і скончана ў „Падзямеллях Ватыкана“. Асноўныя жанры Жыда—псіхалагічная аповесць, умоўная драма і соці як бы дапаўняюць адзін аднога. Па-першае, мастак шляхам псіхалагічнага аналіза раскрывае асуджанасць і безвыходнасць сваіх пошукаў „выйсця“. У соці ён разбівае быццам бы знойдзеныя выйсці гіроніяй.

Асабліва шырока разгорнута аўтапародыя ў „Падзямеллях Ватыкана“. У гротэскных персанажах гэтага соці ў шаржаванай складанасці ўсіх гэтых сюжэтных ліній і авантурных інтрыг высмеяны ўсе страсці Жыда. У асобе пісьменніка Жульюса дэ Барнауль Жыд дае свой гіранічны аўтапартрэт, гіронію над уласнай нерашучасцю, над „слоўнасцю“ сваіх спроб адыхода, над „слоўнасцю“ сваіх тэорый чыстага дзеяння. Юнак Лафкадыо—

гэта новы блудны сын, які не ведае, на што ўжыць свае сілы. Яшчэ раз Жыд разгортвае ідэю чыстага дзеяння, прыводзіць яе да абсурда ў нематываваным забойстве, якое робіць Лафкадыо толькі ў мэтах рэалізацыі нейкіх бакоў свайго „я“. Авантурнасць усіх яго прыгод носіць яўна парадыйны характар. Але лінія Лафкадыо ў сваю чаргу парадыравана фігурамі Протаса і шайкі машэннікаў. „Ідэйны“ злы учынак Лафкадыо, гэтую пародыю на Раскольнікава, Жыд гротэскна зніжае да дробнага машэнніцтва Протаса. За фігурай іммараліста выростаюць цені рабаўнікоў. Жульюс, што гаворыць аб бескарыслівым дзеянні,—абыватэль. Лафкадыо, які ажыццяўляе яго—злачынца. Як і Раскольнікаў, Лафкадыо адмаўляецца ад свайго „злачынства“, гэта значыць ад свайго іммаралізма. Але ў адрозненне ад Дастаеўскага „Падзямелле“ канчаецпа двухсэнсоўным пытаннем, гіранічным „ці выдасць ён сябе?“ Увесь вобраз Лафкадыо ўносіць у кнігу лінію вострага лірызма, які больш згушчаецпа і даходзіць да хвалюючага напружання ў фінале: адчынена вакно даносіцца шум горада, паўстаюць спакусы жыцця. Што зробіць Лафкадыо, ці выдасць ён сябе? Лірызм раптоўна зрываецца ў лёгкай гіранічнай усмешцы, у двухсэнсоўнасці, якой канчаюцца „Падзямеллі“—прыём, які вельмі нагадвае гайнаўскую канцоўку. Усё расплываецпа ў скептычнай гіроніі, якая нічога не вырашае. Уся рэч атрымлівае адбітак велізарнай спустошанасці.

У соці Жыда сканцэнтравана надзвычайная хваравітасць усяе яго творчасці. Скалечаная асоба і яе пакутная субаражна напружаная псіхіка знаходзіць тут зусім адпаведнае хваравітае выяўленне. Гэта геніяльныя і бясконца выродлівыя творы. Апавядаюць, што ў старадаўнім Кітаі саджалі маленькіх дзяцей у вазы асаблівых форм, у якіх яны і раслі. Так стваралі спецыяльных вырадкаў. Аб іх успамінаеш, чытаючы соці Жыда. Калі-небудзь, у эпоху росквіта гарманічнай творчасці, аб якой пісаў Маркс, гэтыя соці будуць яскравейшым гістарычным дакументам аб выродлівасці капіталістычнай культуры, у якой так калечыліся геніі буржуазіі.

Культ складанасці, пытальныя інтанацыі, якімі канчаліся творы, бо Жыду не было чым іх скончыць, азначалі глыбачэзныя сувязі Жыда з буржуазным грамадствам. Патрэбна было адыйсці ад абодвух форм буржуазнай культуры. Жыд прыняў абедзве гэтыя формы пад відам нейтралізма. Культ складанасці вырастаў на глебе вельмі вострых адчуванняў грамадскіх супярэчнасцяй. Але разам з тым ён быў і формай сацыяльнага самападмана. Жыд закалыхваў сябе сваёй „высокай, складанасцю, за якою хавалася спустошанасць. Такім-жа закалыхваннем з'яўляўся і яго эстэтызм. Найбольшая трагедыя Жыда таго перыяда была магчыма не гэтулькі ў яго супярэчнасцях, колькі ў тым, што ён эстэтызаваў іх, любаваўся сваімі пакутамі, гуляў з імі. Псіхалагічнае бяздонне Дастаеўскага набывала пад яго рукою парыжскую часта двухсэнсоўную прыгожасць. Пакуты падаваліся

ў фразе такой аддаленай, адчаканенай, музычнай. Кожнае слова набывае такую самагодную каштоўнасць і хараство. Вядомы „класіцызм“ Жыда—гэтая да канца фармальная закончанасць, вычурнасць і адточанасць, у якую апраналіся самыя напружаныя пакуты Жыда,—ці не паказваў гэты класіцызм, які ўстойлівыя карэнні звязвалі тады Жыда з усёю эстэцкаю буржуазнаю культураю. Бунт Жыда, блуднага сына буржуазіі, вылучаў яго і тады на фоне рэакцыйнага застою эстэтызма. Але Жыд быў замкнуты ў „вежы слановай касці“. І яго бунтарскі енк аб жыццёвай паўнаце, адбіваючыся ў сценах вежы, набываў супакойваючую мілагучнасць. Такі ён не быў небяспечны. І буржуазная крытыка падняла Жыда на шчыт, як прызнанага метра эстэтызма.

III.

Месца Жыда ў буржуазнай літаратуры даваеннага перыяда было сваясаблівым.

Творчасць Жыда, якая ішла карэннямі ў паразіцкія пласты французскага рант'ерства, адлюстроўвала той адыход ад супярэчнасцяй эпохі, які ў культурных галінах быў выражэннем паразітарнага загнівання. Усе даваенныя рэчы ляжалі зусім у баку ад палітычных бур эпохі. Францыя перажывала „грамадзянскую вайну“ ў гады справы Дрэйфуса, ішла ліхаманкавая падрыхтоўка да вайны, нарастаў рабочы рух, нарэшце, выбухла сусветная вайна—усё гэта непасрэдна не адбілася на творах Жыда. Адна псіхалагічная праблема жыла, развівалася, вар'іравалася ў іх.

На працягу ўсяго свайго шляху Жыд надзвычайна рэзка супроцьстаяў усім ідэолагам буржуазнай агрэсіі, хвалі каталіцкай і нацыналістычнай рэакцыі, якая ахоплівала буржуазную Фрацыю. Праз усю публіцыстыку Жыда праходзіць яго нянавісць да Баррэса—гэтай сімбалічнай фігуры французскага нацыяналізма. Яго шавіністычныя тэорыі „грунтавізму“ яшчэ да вайны сустракалі рэзкі пратэст Жыда. Бясспрэчна, што ў той час гэты пратэст выходзіў не з пазіцый сапраўднага інтэрнацыяналізма, але адлюстроўваў сувязі Жыда з космапалітычным бокам буржуазнай культуры. Ці-ж Ніцшэ і Дастаеўскі не былі бліжэй Жыду, як французы тыпа Баррэса? Другая лінія, па якой Жыд мацнейшым чынам адштурхоўваўся ад гэтых ідэолагаў шавінізма—гэта іх прымітыўная рэакцыйная тэндэнцыйнасць і публіцыстычнасць. Стоячы на пазіцыях культа нейтральнасці і складанасці Жыд натуральна з агіднасцю адварачваўся ад грубейшай лазунговасці гэтых публіцыстаў.

Бясспрэчна, што ў гэтых супярэчнасцях Жыда і нацыяналістаў ёсць момант адрознення паразітарнага эстэтызма і агрэсыўнай ідэалогіі, як розных бакоў ідэалогіі буржуазнага загнівання. Але ці была гэтая ўзаемная варожасць толькі варожасцю палітыкаў нацыяналізма і апалітычнага эстэта? Ці можна да гэтага звесці справу? Менавіта так і стараецца выставіць гэтыя ўзаемаадносіны буржуазная крытыка. Жыд—скептык і эстэт і толькі, вось вобраз, які старанна ствараецца буржуазнай крытыкай.

Між тым у крытыцы Жыдам ідэалогаў агрэсіі можна яскрава адрозніць і зусім другія матывы: Барэссаўскі „грунтавізм“ ненавісны яму не толькі з пункта гледжання любові да касмапалітычнай культуры, але і таму, што Барэссаўская тэорыя неабходнасці „ўростання ў родную глебу“ вельмі рэзка супроцьстаяла асноўнаму матыву творчасці Жыда—імкненню да „адыходу“ матыву „выйсця“ за межы буржуазнай культуры. Нельга прайсці і міма таго, што пры ўсім сваім імкненні да дзеяння, да актыўнасці, Жыд ніколі нават не ставіў пытання аб мажлівасцях пайсці разам з ідэолагамі нацыяналістычнай актыўнасці, нагэтулькі ясна яму была „карыслівая“ і нядобрасумленная сутнасць яе, г. зн. інакш кажучы, яе сувязь з пануючай культурай.

Да таго-ж паміж лагерам нацыяналізма і лагерам эстэтаў наогул няма вельмі глыбокіх супярэчнасцяй. Гэта дзве формы загнівання аднэй і тэй-жа буржуазнай культуры, дзве формы апалагетыкі імперыялізма, якія спрабуюць рознымі шляхамі „гарманізаваць“ капіталістычнае грамадства, „знішчыць“ яго супярэчнасці. Менавіта па гэтай лініі ляжала своеасаблівасць месца Жыда ў буржуазнай культуры ўжо ў даваенныя часы, не толькі адлучаючы яго ад агрэсыўнага лагера, але і вылучаючы яго сярод буржуазнага эстэтызма, з якім ён у той час усё-ж застаецца цесна звязаным. Жыд не мог схаваць супярэчнасцяй капіталізма, наадварот, дысгармонію яго ён выражаў з велізарнай вастратой, няхай сабе і ў самых адлюстраваных формах. У гэтым ужо тады заключалася асаблівасць становішча Жыда ў культуры яго класа. У гэтым плане Жыд ужо і тады быў, скарыстоўваючы моднае слова французскай крытыкі, „нонканфармістам“, г. зн. адшчапенцам ад галоўных ліній развіцця буржуазнай культуры. Але ўсе абставіны даваеннага часу ў Францыі з адноснай маруднасцю развіцця французскага імперыялізма, паразітызмам і застойнасцю, з тэй адноснай устойлівасцю капіталізма, якая адрознівае даваенны перыяд імперыялізма ў параўнанні з пасляваенным—усе гэтыя абставіны не давалі ніякіх прадпасылак для канчатковага адрыва Жыда ад буржуазіі, які мог ажыццёвіцца толькі ў апошнія гады.

Нязвычайная замкнутасць даваеннай творчасці Жыда налажыла своеасаблівую пячатку на яго стыль. Яго рэчы як бы зусім аддалены ад жывой рэчаіснасці. Вастрата, з якой выражаюцца супярэчнасці псіхікі, ідзе за кошт паўнаты і глыбіні адлюстравання рэчаіснасці. Створаныя ім вобразы жывуць у беспаветраным, абстрагавана сімбалічным умоўным асяроддзі. Вельмі тыповы выступленні Жыда супроць рэалістычнага тэатра (1904 г.), яго жаль аб умоўнай драме, якая, „выводзячы вобраз за выяўляемую эпоху і абстрагуючы яго, пакідала ў ім толькі агульнае і чалавечае“. Універсалізуючы супярэчнасці сваёй псіхікі, Жыд звычайна зварочваўся да міфалагічных біблейскіх вобразаў, прытчаў. Умоўнасць яго соці, накшталт „Праметэя“ велізарная. Тут быццам рвуцца апошнія ніткі, якія звязваюць вобразы твора

з жывою, усім даступнаю рэчаіснасцю. Такія яго драмы, соці, трактаты. Толькі некаторыя аповесці—„Иммаралист“, „Вузкія дзверы“, „Изабелла“ спрабуюць выйсці з умоўнага асяроддзя, даюць больш разгорнутыя аб‘ектыўныя вобразы, але вузкасць і замкнутасць стылю гэтым не парушаецца, паколькі ўсе яны не выходзяць за межы розных бакоў характара Жыда, і псіхалагічныя супярэчнасні зусім прыдушваюць выяўленне таго рэальнага асяроддзя, на глебе якога яны выростаюць.

У „Падзямеллях Ватыкана“ упершыню з‘яўляюцца гротэскнымі кітайскімі ценямі рознастайныя персанажы, упершыню з‘яўляюцца намёкі на нейкія палітычныя сітуацыі, якія звязаны ў даным выпадку з каталіцызмам, з‘яўляецца нейкі намёк на жывое аб‘ектыўнае асяроддзе, хоць яна тут жа выраджаецца ў гратэску і ўмоўнасці самога жанра сацi.

Эстэтызм і замкнутасць Жыда былі яго творчымі аковамі, бо ўмоўная абстрактнасць яго вобразаў вяла да бясконцых варыяцый адных і тых-жа матываў. У чым-жа тады велізарная мастацкая сіла рэчаў Жыда нават у гэты перыяд? У чым велізарнае мастацкае значэнне скалечанай грымасы „Праметэя“, хоць як быццам шырыня ахопа і адлюстравання рэчаіснасці даведзены тут да мінімума? Буржуазная крытыка хацела адказаць у велізарнай эстэцкай культуры, утончанасці, закончанасці, гэта значыць у тым, што зблiжае Жыда з усім буржуазным эстэтызмам. Мы-ж гаворым—у тым, што аддзяляе ад іх Жыда. У тым, што Жыд здолеў падняць велізарную істотную праблему эпохі—праблему прыдушэння асобы капіталізмам і немажлівасці яе ўсебаковага развіцця. Ужо тое, што Жыд здолеў зрабіць гэту праблему воссю сваёй творчасці, раскрыўшы яе з велізарнай лірычнай напружанасцю—паднімала яго рэчы на больш мастацкую вышыню. Велізарная літаратурная культура Жыда адыграла тут, зразумела, сваю палітычную ролю, але не ў ёй патрэбна шукаць карэннi мастацкасці Жыда. Наадварот, тое, што супярэчнасці асобы і капіталістычнай сістэмы Жыд змог адлюстраваць толькі ў абстрактнай і містыфікаванай форме, тое, што ён не змог адлюстраваць іх у шырокай і рэальнай карціне ўзаемаадносін асобы і сістэмы—усё гэта зніжала мастацкія дасягненні Жыда, прыводзіла яго да бясконцых паўтарэнняў, рабіла яго творчасць душнай, альбо нават зніжала часамі вялікі ідэйны змест да эстэтычнай гульні.

Толькі пасля вайны, з вялікай маруднасцю ў творчасць Жыда пачынае прасякаць паветра жывога жыцця, і пісменнік выбіраецца да больш шырокага ахопа рэчаіснасці.

## IV.

Яшчэ ў 1914 г. у „Успамінах аб судзе прысяжных“ у Жыда з‘яўляецца вобраз буржуазнага суда і капіталістычнага грамадства ў цэлым, насычаны велізарным соцыяльным абурэннем. Навакольная цывілізацыя ўяўляецца яму ў вобразе лодкі ў час

караблекрушэння, калі частка людзей, якая ратуецца, ўладаўшы лодкай, тапарамі адсякае пальцы астатніх, што топяцца і сутаражна хапаюцца за яе барты. Вось такая функцыя буржуазнага суда, такое ўсё буржуазнае грамадства. Упершыню ў Жыда яскрава мільгае думка, што яму „страшна і агідна сядзець у лодцы і адчуваць сябе ў бяспецы". Гэты вобраз грамадства, аснаваны на бязлітаснасці і злоўжываннях, праследваў пісьменніка, бо ён ужо значна пазней настойліва паўтараецца ў „Фальшываманетчыках".

Тэма „сумленнасці", „сапраўднасці", „празрыстасці", якія супроцьстаўляліся раней Жыдам яго імаралізму, пасля вайны набывае ў яго творчасці больш шырокі характар. Цяпер яна супроцьстаўляецца ўсяму свету, як свету фальшы і дысгармоніі. Развіццё гэтай тэмы добрасумленнасці і ўяўляе сабою псіхалагічны бок эвалюцыі Жыда ад капіталізма да комунізма.

„Пастаральная сімфонія" ўзнікае ў 1919 г., у час мацнейшага нарастання рэволюцыйных боек пасляваенных гадоў, мацнейшага абвастрэння ўсіх палітычных абставін. На фоне ўмоўных горных снежных вяршынь, сімбалу чыстаты і сапраўднасці, разыгрваецца дзеянне гэтай аповесці аб ідылічным каханні пастыра да сляпой дзяўчынкі. Пастаральнасць гэтай сімфоніі ілюзорная, хоча сказаць гэтай рэччу Жыд. Свет здаецца ідыліяй, гармоніяй, пакуль дзяўчынка сляпая. А калі яна пачынае бачыць, гэта разрывае ілюзію, прыводзіць да яе крушэння, да самагубства. Ідэальная для Жыда чыстая гармонія света прынцыпова прызнаецца немажлівай у „Пастаральнай сімфоніі". Як кажа адзін з персанажаў „Фальшываманетчыкаў": „свет знаходзіцца ва ўладзе дысонанса". Гэтая аповесць адлюстравала адчуванні Жыдам велізарнага соцыяльнага напружання пасляваенных гадоў, ізноў такі абагульняючы яго як разарванасць і дысгармонічнасць усяго света наогул. Адчуванне духаты бясконца згушчаецца. Патрэбна было толькі спусціцца з горных вышынь „Сімфоніі" і паказаць дысгарманічную фальш капіталістычнага света ў рэальных вобразах буржуазнага грамадства.

Гэта і робіць Жыд у „Фальшываманетчыках", яго першым „рамане", значным творы, дзе разгортваюцца ўсе асноўныя тэмы яго творчасці.

Гніенне буржуазнай культуры клейміць тут Жыд вобразам фальшывай манеты, ілюзорная каштоўнасць якой вялікая толькі да таго часу, пакуль не выкрыюць яе хлуслівую сутнасць. Калі спачатку Жыд хацеў фальшываманетчыкамі азначыць буржуазных літаратараў, дык потым вобраз гэты разрастаецца і ахоплівае фальш усяго буржуазнага асяроддзя цалкам. У выдатным вобразе графа дэ-Пасавана паўстае тып буржуазнага літаратара, які ўвасабляе для Жыда хлуслівасць усяе сістэмы. Знадворная шумлівасць, цынізм і бясконцая нахабнасць—такія якасці гэтага літаратурнага фальшываманетчыка, якія прыкрываюць пустату і выраджэнне. Ніякай гразёю не грэбуюць гэтыя прадстаўнікі

фальшывай культуры, каб утрымацца на паверхні, каб, ужываючы тэрмін Жыда, „застацца ў лодцы“. У гэтых іх эстэтаў, снобаў, патрыотаў, шавіністаў нічога няма, акрамя пары крадзеных думак.

Прагнасць „сапраўднасці“ набывае асаблівую напружанасць у гэтай кнізе і складае яе лірычнае напаўненне. Калі-б хто-небудзь запытаў мяне, якую добрачыннасць я лічу самай прыгожай, я, не хістаючыся, адказаў бы: сумленнасць...“, „я хацеў-бы ўсё жыццё пры кожным удары даваць гук чысты, сумленны і сапраўдны“. Новае ў гэтым рамане тое, што тэма сумленнасці звязваецца з лёсам цэлага пакалення буржуазнай моладзі. Які-ж лёс гэтых юнакоў, гэтых малодшых братоў Лафкадыо сярод культуры фальшываманетчыкаў? Яшчэ раз развівае Жыд сваю асноўную тэму разгортвання і выяўлення асобы, пашыраючы яе да праблем цэлага пакалення. „Я адчуваю ў сабе вялікія нескарыстаныя сілы,—кажа адзін з гэтых юнакоў Бернар.—Мне хацелася-б прыстасаваць іх да справы. Я зайздрошчу... не, праўдзівей я нікому не зайздрошчу, але буйства заключаных ва мне сіл прыгнятае мяне... Яны падобны да пары, якая можа альбо выбухнуць са свістам (паэзія), альбо прывесці да руху поршні і вагары, альбо нарэшце разнесці машыну“. Гэтыя нескарыстаныя сілы вандруюць, выраджаючыся ў выродлівыя ўчынкі. У адным (Арман) яны ідуць у хваравіты цынізм і спустошнасць, даводзячы яго да пагібелі. Другі (Оліўе) уваскрошвае ідэю „чыстага дзеяння“ у спробе самагубства „ад энтузіязма“, ад простага лішка жыццёвых сіл, якіх няма дзе ўжыць. Жыд хоча паказаць цэлай серыяй хваравітых скрыўленых дзяцей і юнакоў—бесперспектыўнасць гэтага пакалення. Гэтая энэргія маладога пакалення, не будучы накіраванай на сапраўдную дзейнасць, штурхае гэтых дзяцей і юнакоў у бок злачынстваў, прымушае іх зрошчвацца з культурай фальшываманетчыкаў. „Раман“ Жыда глыбока маралістычны. Выводзячы свае маладыя персанажы зноў на дарогу „сапраўднасці“, выкрываючы перад імі пустату фальшываманетчыкаў, Жыд імкнецца выратаваць моладзь ад разлагаючай атруты гэтай культуры. У гады, калі буржуазная моладзь імкнулася пад сцягі агрэсіўнага шавінізма, Жыд прымушае свайго Бернара адвярнуцца ад тэй актыўнасці, якую прапануюць яму нацыяналісты і патрыоты.

Але адлюстраваўшы з велізарнай яскравасцю бесперспектыўнасць гэтага буржуазнага пакалення, Жыд не змог паказаць яму тыя „вагары“, якія магла-б прывесці ў рух яго энергія, не мог паказаць яму ніякага выйсця. „Фальшываманетчыкі—выражэнне вялікай ідэйнай бездапаможнасці. Жыд стварае „дадатны“ вобраз пісьменніка Эдуарда, супроцьпастаўленага фальшываманетчыкам, у якасці ідэолага „сумленнасці і сапраўднасці“. Але гэты настаўнік моладзі нічога не можа прапанаваць ім, акрамя культа „складанасці“, гэты „Праметэй“ у нерашучасці гатоў бачыць выйсце. Маладому пакаленню прапануецца неакрэсленая „сумленнасць“, неакрэсленае „быць самім сабою“. Жыд і сам адчувае беспадстаўнасць гэтага падкрэсленага аўтабіяграфічнага

вобраза і ўлівае ў яго некалькі кропель гіроніі. Эдуард—гэта культ усіх мажлівасцяй, якія існуюць для чалавека, менавіта таму, што выбраць неабходнае ён не ўмее. Увесь мінулы нейтралізм Жыда ў гэтым вобразе адноўлен з яшчэ большай разгорнутасцю.

Адгэтуль, з гэтай нерашучасці і складанасці выраствае своеасаблівасць кампазіцыі гэтай рэчы. Гэтая гісторыя падзей рэчаіснасці, паказаная праз гісторыю напісання самога рамана „Фальшываманетчыкі" іх персанажам Эдуардам. Атрымліваецца складанейшая канструкцыя „кнігі ў кнізе", заўсёдашняя змена рэальнага і „кніжнага плана". Гэта велізарная кампазіцыйная складанасць выцякае не з фармалістычнага штукарства. Гэтая кампазіцыя, сінтэзуючы кампазіцыйныя асаблівасці цэлага шэрага ранейшых твораў Жыда („Палюд" „Праметэй", „Падзямелле") глыбачэйшым чынам звязана з усім ідэйным светам Жыда.

Сапраўдным сюжэтам „Фальшываманетчыкаў" Жыд лічыць супярэчнасці „рэальнага света і нашага ўяўлення аб ім. Сустракаючы супраціўленне з боку фактаў, мы пераносім сваю ідэальную канструкцыю ў мары, надзеі, у будучыню"... Жыд падкрэслена супроцьстаўляе тут сябе рэалістам, якія „накіроўваюцца ад фактаў, прыстасоўваюць свае ідэі да фактаў". Працэс напісання кнігі выцісквае з асноўнай сюжэтнай лініі рэальныя супярэчнасці маладога пакалення і „фальшываманетчыкаў". Больш за ўсё Жыда цікавіць супярэчнасць паміж тым, што бачыць пісменнік у рэчаіснасці і тым, што ён думае з яе зрабіць. Ясна, што да гэтай складанейшай і заблытанай кампазіцыі прыводзіць Жыда няведанне сапраўдных шляхоў перапрацоўкі рэчаіснасці і нават нейкая боязь гэтых шляхоў. Адсюль глыбокая рамантычнасць гэтае кампазіцыі, якая падкрэслівае ідэалістычную форму ўздзеяння на рэчаіснасць. Адсюль цікавасць да вобраза пісменніка, які канструюе розныя мажлівасці для сваіх персанажаў, і да самога працэса гэтага канструявання. Таму Жыд так упарта агаляе працэс, якім яго Эдуард і ён сам як-бы прымерваюць розныя шляхі для сваіх герояў. Жыд як-бы сам канстатуе сваю бездапаможнасць у рэальным жыцці, культывуючы такую ілюзорную форму яе перапрацоўкі, як працэс пабудовы любых мажлівых шляхоў для персанажаў па волі аўтара. Нідзе так ярка, як у гэтай кнізе, не выяўляецца сувязь ідэйнай бездапаможнасці нейтралізма Жыда з немагчымай заблытанасцю структуры яго рэчаў.

Гэты раман як быццам пашырае ахоп рэчаіснасці, якую адлюстроўвае Жыд, да пакалення моладзі, да асяроддзя фальшываманетчыкаў. Але заўсёдашняя змена рэальнага і „кніжнага" планаў змяншае вагу гэтай рэчаіснасці, якая ёсць у творы. Жыд яшчэ ўзмацняе „кніжны" план, выпускаючы адначасова з раманам „Фальшываманетчыкі" „Дзённік фальшываманетчыкаў", сваю запісную кніжку, якая аднаўляе працэс стварэння гэтага рамана Жыдам. Унясенне элементаў рэалістычнага адлюстравання света

ў сваю творчасць Жыд перажывае хваравіта. „Мяне непакоіць пачуццё,—піша ён—што жыццё (маё жыццё) аддзяляецца тут ад майго твора, мой твор адыходзіць ад майго жыцця...“ У першы раз вышаўшы на паветра рэчаіснасці са свайго умоўнага света, Жыд адчуў сябе ў ім непрывычна і ўзмоцнена настройвае кампазіцыйныя паверхі больш прывычнага для яго псіхалагічнага света.

„Фальшываманетчыкі“—кніга велізарнай цікавасці. Яна паказвае, што ў пасляваенных абставінах націск соцыяльных супярэчнасцяй на такога замкнутага ў сабе пісменніка, як Жыд, так вялікі, што прымушае яго хоць часткова разарваць вузкасць адлюстраванага ім света, перайсці ад умоўных і абстрактных вобразаў да элементаў рэалістычнага паказа грамадства. Соцыяльнае значэнне гэтай кнігі вельмі вялікая—бязвыходнасць пакалення моладзі, якая застаецца на буржуазных шляхах, як і загніванне ўсёй буржуазнай культуры—робяць „Фальшываманетчыкаў“ значнай літаратурнай з'явай усяго пасляваеннага перыяда.

Разам з тым, кніга гэта глыбока павучальная. Яна паказвае што, застаючыся ў межах буржуазіі, вялікі мастак асуджае сябе на велізарную бездапаможнасць. Раман абрываецца і няскончанасць гэта невыпадковая. Нельга даць скончаны малюнак лёсу пакалення, не ведаючы, што сказаць гэтаму пакаленню. Але гэтая кніга—не толькі ідэйны, але і творчы тупік. На прыкладзе „Фальшываманетчыкаў“ асабліва ясная хлуслівасць буржуазнай крытыкі, якая ўзмоцненна крычыць аб тым, што быццам многа творча траціць Жыд, адыходзячы ад капіталістычнай культуры. Гэты раман выключна ярка агаляе, як твор вялікага соцыяльнага значэння, які мог бы вырасці ў велізарны малюнак распада капіталістычнай культуры—як гэты твор творча скажаецца „нерашучасцю“ Жыда, распадаецца, становіцца бясформеным, як вобразы расплываюцца ў агульнай заблытанасці яго структуры, як у дадзеным выпадку ідэйная бездапаможнасць звязана з творчымі праваламі, якія стаяць у крыклівай супярэчнасці з маштабамі таленту Жыда.

Бездапаможны нейтралізм Жыда, яскравейшым выражэннем якога былі „фальшываманетчыкі“, упершыню разрываецца ў „Конга“ і „Звароце з возера“ „Чад“, дзенніках вандроўніцтва па Французскай Афрыцы 1927-28 г. г. Сутыкнуўшыся з „ідыліямі“, якія пануюць у французскіх афрыканскіх калоніях, Жыд упершыню ўсвядоміў рэчы, якія для яго не існавалі раней і не былі даступны. Ён ужо не можа далей закрываць вочы. Упершыню Андрэ Жыд з вышынь утончаных супярэчнасцяй псіхікі спусціўся ўніз да супярэчнасцяй каланіяльнай эксплаатацыі, якая навяла на яго жах усёю сваёю рэальнасцю. Гэтыя кнігі ствараюць уражанне нечаканага падзення заслоны, нечаканага прасвятлення вачэй.

Жыд паехаў у Конга, як ён гэта сам кажа, з мэтай пазабаўляцца і панаглядаць. Соцыяльны кашмар калоній урываецца ў „Дзённікі“ ўжо у час вандравання. Пачатак дзённікаў з іх „натхненымі і шчаслівымі тубыльцамі“ і сонцам поўдня гаворыць аб рэчах блізкіх Жыду яшчэ з „Сокаў зямлі“. Але паступова ў поле зроку пісменніка ўваходзяць рэчы, якія выціскаюць пачуццёвыя пейзажы на другі план. Жыд бачыць Афрыку фізычнага выраджэння тубыльцаў, пад ярмом нечалавечай эксплаатацыі, Афрыку, якую агнём і мячом знішчае „утончаная“ французская цывілізацыя, бачыць жудасныя вынікі карных атрадаў-„Я не мог прадбачыць, што гэтыя пакутныя соцыяльныя пытанні аб нашых узаемаадносінах з тубыльцамі... займуць мяне нагэтулькі што стануць галоўнай мэтай майго вандравання, і што я знайду ў вывучэнні іх галоўны сэнс майго прабывання ў гэтай краіне“. Жыд сумленна заносіць у дзеннік тое, што ён бачыць. „Конго“ яшчэ адзін яскравы прыклад таго, як праз сумленнае і праўдзівае адлюстраванне жудасных сацыяльных фактаў пісьменнік прыходзіць да неабходнасці перагляду свайго светапогляда.

Жыд прынцыпова адракаепца ад сваёй мінулай „надсоцыяльнай“ пазіцыі. Сумленнасць разрывае яго нейтралізм. „Немажліва спаць. М ы... н е м а е м п р а в а ў х і л я ц ц а а д г э т а й а д к а з н а с ц і. З гэтага часу ў мяне ўсялілася велізарнае абурэнне. Я ведаю рэчы, у якіх не змог прыняць удзела па сваёй волі. Які дэман штурхнуў мяне ў Афрыку?.. Я б ы ў с п а к о й н ы. Ц я п е р я в е д а ю. Я п а в і н е н г а в а р ы ц ь... Магчыма да гэтага часу я блукаў паміж палотнамі маны. Я хачу прайсці за кулісы, па той бок дэкарацыі, ведаць, нарэшце, што хаваецца за імі, як бы жудасна гэта ні было“.

Вельмі бездапаможна, але настойліва Жыд спрабуе знайсці вінаватых гэтых карных экспедыцый, руку, якая прыводзіць у рух увесь гэты жудасны мэханізм рабаўніцтва калоній. Вінаваты—акцыянерная кампанія. „Усё гэта для ўзбагачэння некалькіх акцыянераў.
Што-ж яны зрабілі для краіны? Нічога. Яны яе эксплаатавалі, выдушылі, выціснулі, як апельсін“. Для аўтара „Пастаральнай сімфоніі“ такія абвінавачванні французскіх трэстаў—вялікі крок наперад, але ўсё-ж такі Жыд бездапаможна перакладвае віну з французскага імперыялізма ў цэлым на асобных „дрэнных“ капіталістаў. Прапануючы ўладаю дзяржавы (буржуазнай) абмяжаваць уладу трэстаў, прапануючы культываванне каланіяльнай палітыкі, ён стаіць толькі на пазіцыі ліберальных рэформ. Прычына гэтай абмежаванасці заключаецца не толькі ў велізарнай палітычнай бездапаможнасці Жыда, які ўпершыню стыкнуўся тады з палітычнымі праблемамі, але і ў тым, што ў тыя гады адноснай стабілізацыі французскага капіталізма сувязі Жыда з буржуазным светам яшчэ не парушаны канчаткова. Жыд між іншым і сам адчувае наіўнасць сваіх вывадаў і пужаецца „жудаснай блытаніны праблем, вырашыць якія мне не дадзена“.

Дзённікі Конга ўзятыя ізалявана, не выходзяць за межы рэфарматарскага лібералізма, і абмяжаванасць іх з пункта гледжання паслядоўнага рэвалюцыйнага выкрыцця каланіяльнай палітыкі—відавочна. Але значэнне іх у эвалюцыі Жыда велізарнае. Пісменнік упершыню выходзіць на паветра сацыяльных праблем. Ён упершыню канстатуе правал, крах пазіцый нейтралізма. Гэта сведчанне палітычнай актывізацыі Жыда, якая пачынаецца яшчэ за некалькі год да яго канчатковага перахода да рэвалюцыі.

Адсюль разрываецца і звычайная для мінулага Жыда эстэцкая замкнутасць стыля. Упершыню ў Жыда ўзнікае жаданне гаварыць для большай аўдыторыі. „Да гэтых пор я гаварыў, не клапоцячыся аб тым, каб мяне слухалі"... Далей ідзе фраза, немагчымая для мінулага Жыда: „Я зайздрошчу журналістам, голас якіх даносіцца зараж-жа." Для Жыда ўзнікае пытанне аб актыўным уздзейнічанні сваёй творчасці на сацыяльную рэчаіснасць. Матывы дзеяння, вызваляючыся ад містыфікаванай формы „свабоднага дзеяння" пачынаюць ператварацца ў рэальную сацыяльна карысную актыўнасць.

Усё гэта істотна змяняе стылёвы воблік „Конга". Самагоднае апісанне альбо псіхалагічны пейзаж усё больш выціскаюцца фактычным матар'ялам, які ілюструе эксплаатацыю тубыльцаў. Імкненне да „сумленнага" пазнання да аўладання нязвыклымі праблемамі прыводзіць Жыда да такой незвычайнай для яго дакументацыі. Адгэтуль увядзенне дакументаў аж да разлікаў зарплаты, няпрыемна здзівіўшых буржуазную крытыку. Дзіўна толькі, як гэта крытыкі, падобныя Р. Фернандэцу, не ўбачылі ніякай эвалюцыі ўлева ад гротэскаў „Праметэя" да праблем зарплаты ў „Конга".

Фактаграфія Конга грае сваясаблівую ролю ў эвалюцыі стыля Жыда. Яна прагрэсіўная, паколькі яна рэзка ломіць замкнутасць яго псіхалагізма, паколькі яна адлюстроўвае актывізацыю Жыда і прасякненне сацыяльнай і палітычнай праблематыкі ў яго творчасць.

Узнікае пытанне, чаму такі значны паварот улева адбываецца з Жыдам у гады адноснай стабілізацыі капіталізма, больш устойлівай у Францыі, ніж у іншых краінах? Але ёю якраз тлумачыцца абмежаванасць паварота пісменніка. Акрамя гэтага, немажліва вельмі непасрэдна звязваць эвалюцыю Жыда з эканамічным і нават палітычным становішчам аднэй Францыі. На пазіцыю людзей падобнага маштаба ўплывае не толькі непасрэднае іх абкружэнне. Уся атмасфера культурнага выраджэння, якою прасякнута буржуазная Францыя, растучая фашызацыя правай часткі буржуазнай інтэлігенцыі—усё гэта нямінуча павінна было штурхаць Жыда ўлева. Але больш таго, усе сусветныя абставіны і асноўнае—велізарны рост СССР на фоне культурнага распада света „Фальшываманетчыкаў" прымушалі Жыда ўдакладняць свае пазіцыі.

Перад Жыдам адчыніліся зусім новыя перспектывы, якія рэзка разрываюць рамкі яго мінулай творчасці. Гэтае развіццё яго апошніх гадоў, якое звязана ў Жыда з узмацненнем яго сімпатый да СССР, у гады францускага эканамічнага крызіса прыводзіць яго ў шэрагі рэвалюцыйнага літаратурнага фронта. Гэтыя зрухі атрымалі яскравейшае адлюстраванне ў „Дзённіках“ за 1930-1932 г. г.—у дакуменце выключнага псіхалагічнага і палітычнага значэння.

Нельга не бачыць, што паварот да новага светапогляда стаў мажлівым для Жыда толькі дзякуючы велізарнаму уплыву СССР на заходнюю інтэлігенцыю, дзякуючы таму, што пісьменнік усвядоміў гістарычную ролю нашае рэволюцыі. Адчуванне буржуазнай культуры як фальшы і дысгармоніі ўсяго света магло вырасці у беспрасветны скептычны песімізм. Але СССР самым фактам свайго існавання і роста практычна даказвае мажлівасць новай культуры. У галовах падобных Жыду, у якіх востра адчуваецца „смерць аднаго света“, СССР прабуджае ідэю бясконцага руху чалавецтва наперад, ідэю культуры больш высокай, чым капіталістычная, і дэю прагрэса. Жыд безупынна варочаецца ў „Дзённіках“ да гэтага паняцця прагрэса. Ён адыходзіць ад перспектывы вечнага культурнага распада, рэзка палемізуючы з абаронцамі ідэі кругаварота гісторыі, паказваючы, як гэтая тэорыя прымушае людзей „не верыць у СССР“. У „Дзённіках“ паўстае воблік пісьменніка, павернутага к будучаму, мільгае думка аб будучых стагоддзях, калі сучасная культура будзе здавацца дагістарычнай. Аб Баррэсе, які культывуе традыцыі мінулага, „яго сум і цішыню“, Жыд пагарджальна піша: „Ідэя мажлівага прагрэса чалавецтва нават не закранае яго думкі. На гэтых старонках я лепш разумею, як гэтая ідэя аўлададала мною“. У змроку сучаснай культуры СССР здаецца яму палоскай зары на кругавідзе. „Я разумею,—піша Жыд у лісце,—радасць тых, хто працуе на карысць прагрэса.“ Адчуванне велізарнага гістарычнага зруху, які выводзіць чалавецтва на новыя шляхі, становіцца воссю „Дзённікаў“, як і ўсіх апошніх выказванняў Жыда.

Жыд павернуты тварам да будучыні. Таму ён так лёгка выражае такое балючае пытанне для буржуазнай інтэлігенцыі Захада, якая адрываецца ад капіталізма,—пытанне аб ролі і месцы асобы пры соцыялізме. „Мы вельмі высока ставім чалавечнасць,—гаворыцца ў адным з лістоў Жыда,—чалавек не цікавы, не важны, не варты павагі сам па сабе; тое, што заве чалавецтва да прагрэса—гэта не разглядваць сябе, свой камфорт, свой задаволены спакой,—як вынік, як канец, але як сродак, праз які можа ажыццёвіцца нешта, што перавышае іх. „Таму нашы цяжкасці не толькі не адштурхоўваюць Жыда, не ўсяляюць у яго страх за лёс „Індывідуума“ у пераходны перыяд, але, наадварот, гераізм, з якім яны перамагаюцца, толькі падкрэслівае ў вачах Жыда гістарычную ролю СССР.

Калі раней праблемай пісьменніка было выяўленне сваёй індывідуальнай асобы, то цяпер ён мысліць развіццём чалавецтва. Разрываецца абмежаванасць індывідуалістычнага эстэцтва, „вежы“ Жыда. „Нічога няма сумней, ніж не па сваёй віне належаць да абранай верхавінкі і не сутыкацца з велізарнай большасцю чалавецтва“. Своеасаблівае псіхалагічнае тлумачэнне знаходзіць Жыд свайму мінуламу індывідуалізму: „Як не адчуваць сябе індывідуалістам сярод умоўнасцяй буржуазнага грамадства“. І, наадварот, усяляк падкрэслівае Жыд „велізарнае шчасце адчуваць свае поўнае адзінства з другім, адзінства думкі, пачуццяў, адчуванняў, дзеянняў, але пры ўмове, што гэтыя іншыя не машэннікі“. Усё гэта прыцягвае Жыда да СССР. Ён не баіцца страты індывідуальнасці ў СССР. „Правільна зразуметы комунізм павінен цаніць якасці асобы, выкарыстаўшы ўсе яе бакі,“— палемізуе Жыд з абаронцамі буржуазнага індывідуалізма. Буржуазным крытыкам, якія крычаць аб страце арыгінальнасці пісьменніка пры пераходзе на бок рэволюцыі, Жыд адказвае: „Вы гаворыце, што совецкі рэжым зневажае чалавека, замінае яму... але аб якім чалавеку гаворыце вы?“.. Гутарка ідзе аб тым, каб змяніць чалавека, перарабіць уласніка. Гэтыя выдатныя думкі Жыда выкрываюць сучасны буржуазны гуманізм, які пад выглядам абароны чалавечай індывідуальнасці мабілізуе інтэлігенцыю, каб падтрымаць фашызм. У процівагу ім Жыд выразна зразумеў, што максімальная рэалізацыя, выяўленне асобы цяпер ляжыць праз практычны удзел у пабудове соцыялізма.

Крушэнне нейтралізма, якое намецілася ў „Конга“ развіваецца ў „Дзённіках“. Жыд рашуча запісвае: „абыякавасць, цярплівасць немажлівы, калі імі карыстаецца вораг“. На працягу дзённікаў 1929-32 г. г. палітычныя пытанні пачынаюць усё настойлівей адціскаць пытанні літаратуры. Сімптаматычна ацэнка Баррэса, якую Жыд дае ў 1931 г. Калі раней пісьменніка раздражняў у Баррэсе публіцыст, дык цяпер для Жыда стаў агідным „цукерачны“ эстэцызм Баррэса, ён лічыць за лепшае—барацьбіта хоць бы і другога боку.

Нейтралізм, эстэцтва становіцца для Жыда горшай заганай. „Всеобщая изысканность кругом“—скардзіцца ён, хвалячы кнігі Р. Мартын дю Гара за іх „здаровую прастату“. Мы назіраем, як мяняюцца літаратурныя густы пісьменніка. „Ужо не музыка фразы працягвае мяне, а яе дакладнасць і ўпэўненасць“.

Адмаўленне ад пазіцый нейтралізма ёсць перамаганне скепсіса, які раней раз'ядаў творчасць Жыда. Пісьменнік усхвалёваны новым пачуццём мэтанакіраванасці, тым, што ён называе верай. „СССР дае зноў адчуванне ўстойлівасці і накіраванасці.“.. „Гэта становішча адданасці, дзе пачуццё, думка уся істота падначальваецца і накіравана, я зноў ведаю яго...“ Буржуазныя крытыкі спрабуюць сцвярджаць, на аснове гэтага, што „зварот Жыда ў комунізм“ ёсць нешта іншае, як яго „міну-

лая хрысціянская вера". Сам Жыд рэзка разбівае гэтыя бязглуздыя думкі, яскрава паказваючы, што сувязь царквы з капіталізмам, нацыяналізмам, арміяй такая вялікая, што вызваленне ад іх цягне за сабою і смерць рэлігіі. І гэта тычыцца не толькі каталіцкай царквы, як гэта хочуць паказаць, але і рэлігіі, як гэтакай. „Дзённікі" рэзка падкрэсліваюць неабходнасць атэізма.

Падобна Эдыпу яго апошняй драмы, Жыд „ірве ўсе вяроўкі, якія звязваюць яго з мінулым, адмаўляецца ад свайго дабра, ад сваёй славы, ад сябе". Толькі цяпер сапраўды ажыццяўляецца той „адыход", аб якім гавораць усе рэчы Жыда. Апошнія гады крызіса ў Францыі ствараюць глебу для рашучага пераходa Жыда на бок пралетарскай рэвалюцыі. Апошні час паказвае нам зусім новы, хвалюючы воблік пісьменніка—Жыда, які выступае на антыфашысцкіх мітынгах, Жыда, які падтрымлівае разам з усё большай групай паляевушай інтэлігенцыі работу асацыяцыі рэвалюцыйных пісьменнікаў Францыі, Жыда, які вядзе барацьбу за абарону СССР.

Актыўная дзейнасць, практычны удзел у барацьбе за соцыялізм упершыню знімае, вырашае мінулыя супярэчнасьці Жыда, яго кіданні паміж пошукамі „актыўнасці" і „сумленнасці". Упершыню знойдзена іх адзінства. Свет СССР, свет рэвалюцыйнай практыкі спалучае ў сабе і „сапраўднасць" у процівагу культуры „фальшывыманетчыкаў" і актыўнасць разгортвання энергіі і сіл асобы. Але гэтыя сілы накіроўваюцца не на выродлівыя злоўжыванні, не на самагодны геданізм, не на бессэнсоўнае „чыстае дзеянне", а на арганізаваную работу па стварэнню новага грамадства. У вышэй цытаваным артыкуле Р. Фернандэц заедліва заўважае: „Комунізм вельмі лёгка мог паказацца Жыду гарманічным сінтэзам яго рысаў, якія ён стаміўся лічыць супярэчлівымі. „Але комунізм зусім не ёсць адзінства мінулых рысаў Жыда, ён ёсць адзінства тых рысаў, да якіх імкнуўся Жыд, але якіх ён не мог знайсці ў межах буржуазіі. Вось чаму, хоць буржуазная крытыка і крыўдзіцца, нельга не прызнаць, што комунізм— ёсць выйсце для Жыда.

Вырашэнне супярэчнасцяй Жыда адчыняе перад ім і зусім новыя творчыя перспектывы. Нарэшце знойдзена прыстасаванне тых сіл, якія кіпелі ў яго героях, не знаходзячы выйсця. Упершыню знойдзена завяршэнне шляхоў Мішэля, Лафкадыо, Оліўе, і ўсёй моладзі „Фальшываманетчыкаў". Гэты раман толькі цяпер упершыню, можа быць скончан. Няўхільна аздараўленне творчасці Жыда, знішчэнне яго мінулай скептычнай спустошанасці. Нездарма піша Жыд, што самаахвярнасць і энтузіязм моладзі СССР „варочаюць густ да жыцця".

Пераход Жыда на бок рэвалюцыі глыбока заканамерны ў эпоху велізарнейшых гістарычных зрухаў. Ён глыбока арганічна завяршае яго творчы шлях шлях гэтага „Праметэя, дрэнна прыкаванага "буржуазіяй.

# ХРОНІКА

## ПА РЭСПУБЛІКАХ САЮЗА

### ПАДРЫХТОЎКА ДА З'ЕЗДА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

15 жніўня на шматлюдным паседжанні Усесаюзнага Аргкамітэта Саюза Совецкіх пісьменнікаў, на якім прысутнічалі прадстаўнікі аргкамітэтаў Украіны, Беларусі, Азербайджана, Арменіі, Грузіі, А. М. Горкі і шэраг пісьменнікаў, тав. Стэцкі, Заг. Культпропа ЦК УсеКП(б), адчыняючы паседжанне, заявіў, што ЦК УсеКП(б) даручыў яму паставіць на абмеркаванне пытанне пра з'езд пісьменнікаў.

З'езд совецкіх пісьменнікаў павінен быць на ўзроўні таго вялікага значэння совецкай мастацкай літаратуры, якое яна набыла. Цікавасць да совецкай літаратуры за межамі расце. Там чакаюць інфармацый аб працы совецкіх пісьменнікаў, аб выхаде новых кніг, просяць дасылаць новыя выданні. Гэта зусім натуральна: працэс соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР прыцягвае ўвагу ўсяго света.

З другога боку, тая работа, якую прарабіў Аргкамітэт, склікаючы канферэнцыі чытачоў, а таксама партыйныя і прафсаюзныя сходы, даклады асобных літаратараў паказалі выключную цікавасць самых шырокіх мас працоўных да пытанняў літаратуры.

Праграма работы з'езда павінна быць дзеля гэтага значна пашырана. На з'ездзе павінна быць поўнасцю адлюстравана развіццё ўсяе совецкае літаратуры, парадак дня з'езда павінен даць малюнак таго, што робіцца ў літаратурах саюзных рэспублік.

Патрэбна папоўніць павестку дня з'езда дакладам пра сучасны стан сусветнай літаратуры.

Для таго, каб падрыхтавацца да гэтай пашыранай праграмы з'езда, трэба з'езд адтэрмінаваць.

Тав. М. Горкі завастрыў увагу на значэнні першага пісьменніцкага з'езда. Ён сказаў, што з'езд выкліча велічэзны рэзананс за граніцай, і ад нас залежыць зрабіць гэты рэзананс яшчэ большым. На Захадзе ўвесь час павялічваецца колькасць людзей, якія ўважліва ставяцца да нашага росту. Адных фашызм разлагае і знішчае. Тыя, якія застаюцца, ускладаюць свае надзеі на нас Гэтаму працэсу трэба аддаць сур'ёзную ўвагу.

Надзвычай вялікая ўвага павінна быць нададзена літаратурам саюзных рэспублік. У тым, што гэтага не было да гэтага часу, вінаваты мы, літаратары цэнтра. Мы не ставімся ўважліва да літаратур брацкіх народаў. На гэтым вучастку трэба таксама правесці значную работу.

Поруч з гэтым у адным з дакладаў на з'ездзе трэба сказаць аб рабоце з пачынаючымі пісьменнікамі.

У заключэнне Аляксей Максімавіч сказаў, што неабходна выдавецтвам РСФСР выдаваць кнігі пісьменнікаў нацыянальных рэспублік, а таксама арганізаваць пры Аргкамітэце пераклады на рускую мову твораў пісьменнікаў іншых нацыянальнасцяй СССР.

Пісьменнікі, якія прысутнічалі на паседжанні, аднагалосна ўхвалілі прапанову аб пашырэнні праграмы працы з'езда. Усе былі згодны, што для таго, каб праграма, высунутая тав. Стэцкім і Горкім, была сапраўды рэальная, трэба больш вялікая і паглыбленая падрыхтоўка, ніж тая, якая да гэтага часу праводзілася.

У выніку гэтага была прынята наступная пастанова:

„Савецкая літаратура, на аснове пастановы ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 года, дасягнула значных поспехаў: з'явіліся новыя буйныя творы, узмоцнілася роля літаратуры ў будаўніцтве соцыялістычнага жыцця, у літаратуру ўвайшлі новыя шматлікія кадры маладых пісьменнікаў з фабрык, заводаў, шахт і калгасаў. Разам з ростам культуры, нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу, расце і мацнее літаратура ўсіх народаў Савецкага саюза.

Маладая савецкая літаратура, з'яўляючыся зброяй будаўніцтва соцыялізма, ужо стала па свайму ідэёва-мастацкаму ўзроўню, самаю значнаю літаратураю сучаснасці.

Разам з тым моцна ўзрасла цікавасць і павысіліся запатрабаванні да мастацкай літаратуры шырокіх мас рабочага класа і калгаснага сялянства.

Першы ўсесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў набывае з прычыны гэтых умоў вялізнае значэнне.

Аргкамітэт Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР лічыць неабходным дзеля гэтага пашырыць праграму працы з'езда і для лепшай яго падрыхтоўкі як у РСФСР, так і ў іншых саюзных рэспубліках перанесці I Усесаюзны з'езд ССПБ на май 1934 года.

Аргкамітэт зацвярджае наступную павестку працы з'езда:

1. Савецкая літаратура і яе задачы—М. Горкі.

2. Сучасны стан сусветнай літаратуры і роль ў ёй савецкай літаратуры.

3. Даклады аб мастацкай літаратуры Украіны, Беларусі, Грузіі, Азербайджана, Арменіі, Узбекістана, Туркменістана, Таджыкістана, Татарыі.

4. Задачы савецкай драматургіі.

5. Совецкая паэзія.
6. Аб рабоце з маладымі пісьменнікамі.
7. Статут саюза совецкіх пісьменнікаў.

Аргкамітэтам Саюзных рэспублік даручаецца вылучыць дакладчыкаў па 3-му пункту павесткі з'езда.

Аргкамітэт прапануе ўсім літаратурным арганізацыям працягваць работу па падрыхтоўцы з'езда, у асаблівасці па збліжэнні і абмене творчым вопытам паміж літаратурамі народаў СССР, вывучэнні чытацкіх інтарэсаў і дапамозе творчасці маладых пісьменнікаў."

Пасля прыняцця рэзалюцыі была зачытана заява тав. Гронскага аб вызваленні яго ад работы ў аргкамітэце. Просьба была задаволена. Старшынёю Усесаюзнага Аргкамітэта ССП аднагалосна выбіраецца Максім Горкі. Адначасна для вядзення аперацыйнай работы выбіраецца сакратарыят у складзе т. т.: П. Юдзіна, В. Стаўскага, А. Фадзеева, І. Мікітэнкі, Н. Тіханава, В. Кірпоціна і Всевалада Іванова.

На пасе́джанні Аргкамітэта 7 верасня абмяркоўваліся канкрэтныя мерапрыемствы па падрыхтоўцы да з'езда. Тав. Горкі зачытаў пастанову сакратарыята. У парадку падрыхтоўкі да з'езда для вывучэння стана літаратуры брацкіх рэспублік і народаў СССР сакратарыят ухваліў стварыць некалькі спецыяльных груп з пісьменнікаў і крытыкаў, паставіўшы на чале кожнай адказнага кіраўніка. Гэтым групам даручаецца: „збіранне і вывучэнне ўсяго літаратурнага матар'яла, які характарызуе творчасць пісьменнікаў і стан літаратурнай арганізацыі кожнай рэспублікі, края і вобласці", выезды на перыферыю і рэгулярная таварыская перапіска, арганізацыя перакладаў на рускую мову і наадварот, шырокае асвятленне ў друку творчасці пісьменнікаў усіх літарганізацый СССР.

Кіраўнікамі гэтых груп зацверджаны наступныя таварышы: Стэцкі—Украінская літаратура, Кірпоцін—Беларусь, Паўленка—Грузія, Бязыменскі—Арменія, Авербах—Азербейджан, Кіршон—Татарыя, Ермілаў—Узбекістан, Лахуці—Таджыкістан, Всевалад Іваноў—Туркменістан.

Групу па вывучэнні літаратур аўтаномных рэспублік і абласцей РСФСР узначальвае А. Серафімовіч, па вобласцях і краях РСФСР—Ф. Панфёраў.

На тым-жа паседжанні сакратарыят арганізаваў некалькі брыгад па падрыхтоўцы дакладаў для з'езда. Па распрацоўцы пытанняў соцыялістычнага рэалізма кіраўніком вызначан тав. Юдзін, па драматургіі—Кірпоцін, па паэзіі—Фадзееў і Тіханаў, па рабоце з маладым аўтарам—Стаўскі і Юдзін, па яўрэйскай літаратуры—Фадзееў і Афінагенаў, па дзіцячай літаратуры—Рабічаў і па чужаземнай літаратуры— Бела Ілеш.

Групы прыступілі да работы.

## РЭПЕРТУАР ДЗЯРЖАУНЫХ ТЭАТРАЎ БССР

16 верасня ў Наркамасветы адбылася гутарка загадчыка галоўмастацтва тав. Дунца з совецкімі пісьменнікам па пытанню напісання п'ес на Ўсебеларускі драматургічны конкурс. Тав. Дунец пазнаёміў пісьменнікаў з рэпертуарам дзяржаўных тэатраў БССР, які намечан на зімовы сезон 1933-34 г. г.

Першы Беларускі дзяржаўны тэатр працуе цяпер над пастаноўкаю двух класічных п'ес: „Недарасль"—Фон-Візіна (пераклад Крапівы) і „Жакерыя"—Проспера Мерыме (пераклад Чарота). Прынята да пастаноўкі п'еса драматурга Шашалевіча „Сімфонія гневу", і намечаны да пастаноўкі яшчэ дзве п'есы: „Трыбунал"—Ржашэўскага і новая п'еса Афінагенава „Ложь". Апрача таго, тэатр мае ўмовы з К. Чорным і А. Александровічам, паводле якіх гэтыя пісьменнікі павінны здаць тэатру свае новыя п'есы.

БДТ2 рыхтуе да пастаноўкі п'есу Каверына „Укрощение мистера Робинзона", намеціў ставіць п'есу „Ўзнятая цаліна" (паводле рамана Шолахава тае-ж назвы), п'есу Якуба Коласа „Вайна да пабеднага канца". Тэатр меў гутарку з тав. Чорным, які паабяцаў даць яму новую п'есу.

БДТ3 не даслаў яшчэ поўнага спіса п'ес,намечаных да пастаноўкі. Вядома толькі, што тэатр працуе над п'есай Кіршона „Суд" і ўключыў у рэпертуар п'есу Ільінскага „Уласнасць".

Яўрэйскі дзяржаўны тэатр БССР будзе ставіць новыя п'есы Кушнірова і Бергельсона і Рэзніка.

Рускі дзяржаўны тэатр БССР будзе ставіць у гэтым сезоне п'есу Горкага „Василий Достигаеў и другие", „Матросы з Катарро" Вольфа, „Снег" Пагодзіна і адну з п'ес беларускіх драматургаў.

Тэатр оперы і балета мае на мэце паказаць у гэтым годзе тры новых оперы: „Севільскі цырульнік", „Князь Ігар" і Пікавая дама".

Пералічыўшы гэты рэпертуар, тав. Дунец зазначыў, што тэатры мала маюць арыгінальных п'ес. Таксама не паступіла яшчэ ніводнай п'есы і на конкурс. Гэта пагражае, што конкурс можа сарвацца.

Пісьменнікі зрабілі справаздачы, як у іх ідзе работа па напісанні п'ес. Выявілася, што над п'есамі працуюць Кузьма Чорны, Крапіва, Александровіч, Ільінскі, Сташэўскі, Гурскі і іншыя.

Каб забяспечыць сваячасовую здачу п'ес на конкурс, тав. Дунец паабяцаў ад імя Наркамасьветы даць пісьменнікам належную дапамогу ў іх рабоце.

## МАРЦІН АНДЭРСЕН НЕКСЕ Ў СССР

Буйнейшы рэволюцыйны пісьменнік Марцін Андэрсен Нексе наведаў нядаўна Совецкі саюз. Тав. Нексе агледзеў выстаўку „15 год РСЧА", наведаў Беламорска-Балтыйскі канал і іншыя пабудовы. 13 верасня тав. Нексе прысутнічаў на чыстцы піс-

меннікаў-комуністаў і выступіў у спрэчках аб Бела-Ілешы. Выяжджаючы з Масквы, тав. Нексе пакінуў ліст у „Літературную газету“ у якім піша:

„Да самых цікавых гадзін, праведзеных мною у совецкай Расіі, адносяцца тыя, якія я правёў з маімі тутэйшымі калегамі. У Даніі і наогул у Заходняй Эўропе я адчуваю сябе, за рэдкімі выключэннямі, адзінокім сярод сваіх калег. Тут-жа мне здаецца, што я знаходжуся сярод братоў. І гэтыя браты нагэтулькі далікатныя, што думаюць, што могуць у мяне нечаму навучыцца, у той час, як мае калегі ў Заходняй Эўропе глядзяць на мяне са сваёй эстэтычнай вышыні, і на той факт, што пролетарыят ахвотна мяне чытае, глядзяць больш як на доказ ягонай некультурнасці.

Не! Што тычыцца мяне, дык я лічу, што ў маіх тутэйшых калег і таварышоў я магу навучыцца значна больш, як яны ў мяне. Калі я захаваў сваё пролетарскае серца чыстым,—а я думаю, што мне гэта ўдалося,—дык я павінен быць за гэта ўдзячным найвышэйшаму і найпрыгажэйшаму факту, які толькі бачыў калі-небудзь свет—існаванню совецкай Расіі!. І кожная гутарка з тутэйшымі калегамі і таварышамі, якія знаходзяць мяне залішне індывідуальным, дзейнічае на мяне, як ачышчэнне.

Я дзякую за мілы, радушны прыём і застаюся з таварыскім прывітаннем адданы вам—Марцін Ардэрсен Нексе.“

## ВЫДАВЕЦТВА САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ УКРАІНЫ.

Некалькі месяцаў таму назад Выдавецтва „Рух“ было ліквідавана.

На базе зліквідаванага выдавецтва „Рух“ утвараецца выдавецтва Саюза совецкіх пісьменнікаў Украіны „Совецкая літаратура“.

Новастворанае выдавецтва распачало складанне тэматычна-вытворчага плана на 1934 год.

Выдавецтва ўжо здало і рыхтуе да друку шэраг новых твораў. У рабоце знаходзяцца такія кнігі: Юры Смоліч—„48 гадзін“ (новы раман), Леанід Первамайскі—„Мая вясёлая маладосць“ (зборнік паэзіі), Васіль Вражлывый „Справа сэрца“ (новы раман), Сяргей Пылыпенка „Акулы“ (зборнік баек), Раман Прымер—„Эквівалент“ (п‘еса), Андрэй Паніў—„Без меж“ (зборнік паэзіі) і шэраг іншых кніг. У афармленні гэтых кніг узялі ўдзел лепшыя мастакі.

У серыі перакладаў сусветнай літаратуры выходзяць з друку: Дэні Дзідро—Творы, том І; здадзен да друку том ІІ. Афармленне выдання і гравюры Івана Падалкі.

Апрача таго, выдавецтва рыхтуе тры спецыяльныя выданні: альманах, што будзе складацца з новых яшчэ нідзе недрукаваных твораў і служыць мастацкім рапартам пісьменнікаў найлепшымі ўзорамі сваёй работы з'езда; зборнік крытычных матар'ялаў і зборнік мастацкіх матар'ялаў пра чырвонае казацтва.

## СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫ РАХУНАК

Нядаўна скончылася чыстка ячэйкі КП(б)Б Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі. Чыстка ўскрыла шэраг сур'ёзных недахопаў як у працы асобных сектароў выдавецтва, так і ў ДзВБ у цэлым. Асабліва дрэнна пастаўлена работа ў сектары літаратуры і мастацтва.

Пісьменнікі Менска, крытыкуючы работу выдавецтва і сваю работу, прад'явілі ДзВБ наступны соцыялістычны рахунак.

Соцыялістычны рахунак

„Вялізарнейшы размах соцыялістычнага будаўніцтва карэнным чынам змяніў эканамічную і культурна-палітычную геаграфію Беларусі.—

Беларусь—краіна эканамічна і культурна адсталая ў мінулым, краіна балот, цемры і жабрацтва—пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК, на чале з правадыром сусьветнага пролетарыятатав. Сталіны і пры дапамозе рабочага класа брацкіх совецкіх рэспублік, ператварылася ў краіну калгасаў, фабрык, заводаў, у краіну суцэльнай пісьменнасці.

Гэтых поспехаў дабілася партыя і рабочы клас, дзякуючы бязлітаснай барацьбе на два фронты з правым і „левым" апартунізмам, у барацьбе з нацыянал-дэмакратызмам, з вялікадзяржаўным шавінізмам, з буржуазна-кулацкімі нацыяналістычнымі тэндэнцыямі, у барацьбе за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізму.

На аснове поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва, правільнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі совецкая літаратура БССР дабілася велізарных дасягненняў.

Гістарычная пастанова ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. паставіла літаратурную арганізацыю БССР на цвёрдыя ногі. Асноўныя пісьменніцкія кадры сталі на плацформу совецкай улады і соцыялістычнага будаўніцтва. Творчы актыў совецкай літаратуры БССР адказаў на пастанову ЦК УсеКП(б) новым творчым уздымам. Аб гэтым творчым уздыме пісьменнікаў яскрава сведчыць іх работа над новымі буйнымі творамі, уключэнне пісменнікаў ва ўсебеларускі конкурс па напісанню п'ес і г. д.

Аднак наша совецкая літаратура ўсяго Совецкага Саюзу, і ў прыватнасці БССР, адстае яшчэ і на сёнешні дзень ад рэволюцый рэчаіснасці і ад запатрабаванняў працоўнага чытача.

Тая тэматыка, якая ў нас ёсць, не адлюстроўвае ўсіх бакоў нашай рэчаіснасці, не заўсёды правільна асмыслівае яе складаную шматграннасць.

Перад пісьменнікамі пастаўлена задача паказаць грандыёзныя зрухі і велізарнейшае будаўніцтва ў нашай краіне, паказаць працэс соцыялістычнай пераробкі працоўных, дапамагчы гэтаму працэсу ў выкарчоўванні пережыткаў капіталізма з псіхікі людзей і ў ператварэнні іх у свядомых будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

За гэтыя высоты рэчаіснасці, якіх павінна дасягнуць наша літаратура, мы будзем змагацца і даб'емся гэтых высот, вядучы рашучую непрымірымую барацьбу з рэшткамі групаўшчыны, барацьбу з тымі, хто будзе перашкаджаць ідэёва-мастацкаму развіццю літаратуры.

Мы самым рашучым чынам будзем весці барацьбу з рэшткамі недабітага яшчэ ахвосця нацыянал-дэмакратызма, якое ў сваіх контрэволюцыйных інтэрвенцыяніцкіх мэтах, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сцягам, дзейнічае ціхай сапай, каб сарваць наша соцыялістычнае будаўніцтва.

ДзВБ у барацьбе на ідэалагічным фронце мае надзвычай важнае значэнне.

Поспехі ў гэтай барацьбе будуць залежаць ад таго, наколькі мы класава будзем пільныя, наколькі мы па-баявому, па-большэвіцку будзем змагацца за ажыццяўленне задач, пастаўленых перад намі партыяй.

Бяручы на сябе вялізарнейшы абавязак паказаць у сваіх творах увесь пафас соцыялістычнага будаўніцтва, паказаць працэс соцыялістычнай пераробкі людзей, мы патрабуем ад Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі:

1. Разгарнуць канкрэтную барацьбу за высокую якасць прадукцыі, паставіўшы сабе задачай цвёрда праводзіць у рэдакцыйна-выдавецкай рабоце дырэктывы, дадзеныя тав. Сталіным у гістарычным лісце ў рэдакцыю часопісі „Пролетарская рэволэцыя"— павысіць класавую пільнасць, змагацца з усімі праявамі апартунізма, прымірэнцтвам, гнілым лібералізмам у адносінах да ідэалагічнага браку. Усямерна выяўляць малейшыя спробы працягвання нацыянал-дэмакратычных ідэй, кулацка-буржуазных нацыяналістычных тэндэнцый.

2. Да канца верасня м-ца г. г. перагледзець усе рукапісы, якія ёсць у выдавецтве (як арыгінальныя, так і перакладныя) с пункта гледжання іх ідэёвай і мастацкай якасці. Прыцягнуць да гэтай работы пісьменніцкія сілы.

3. Бяручы на сябе абавязак сваячасовага прадстаўлення рукапісаў, вызначаных дагаварамі, і адказнасць за выкананне якасных і колькасных паказчыкаў выдавецкіх планаў, мы патрабуем ад ДзВБ ліквідаваць практыку маруднага прасоўвання рукапісаў, ад рэдактара да друку і асобных фактаў замаражвання ідэёва мастацка каштоўных твораў.

Устанавіць цвёрдыя тэрміны праходжання і афармлення рукапісаў.

4 Павысіць персанальную адказнасць рэдакцыйна-выдавецкіх працаўнікоў як за ідэалёгічны брак, так і за брак якаснага афармлення прадукцыі.

Устанавіць якасныя паказчыкі для паліграфіі і для выдавецтва (дабраякасныя арыгіналы, малюнкі, афармленне, папера).

5. Улічваючы важнасць задачы зніжэння сабекошта мастацкай кнігі, ДзВБ перагледзіць калькуліраванне кніжнай прадукцыі.

6. Увесці ў практыку работы ДзВБ сістэматычна склікаць разам з гаркомам пісьменнікаў вытворчыя нарады пісьменнікаў рэдактароў па пытаннях, звязаных з выпускам мастацкай літаратуры.

7. Павесці масавую і творчую работу з пісьменнікамі шляхам пасылкі ў творчыя камандыроўкі, скліканых нарад пісьменнікаў па асобных творчых пытаннях, арганізацыі творчых вечароў, сустрэч.

Арганізаваць сталую кансультацыю для маладых пачынаючых пісьменнікаў пры сектары ЛІМ.

8. Звярнуць увагу на драматургічную літаратуру, асабліва для вясковых і клубных тэатраў, стварыць спрыяючыя умовы для творчасці драматургаў, арганізаваць разам з Аргкамітэтам і Гаркомам пісьменнікаў абгаварэнне і крытыку драматургічных твораў.

9. Арганізаваць выпуск таннай кнігі тыражом у 25 тысяч экземпляраў лепшых па сваёй ідэёвай і мастацкайя касці твораў.

10. У мэтах хутчэйшага прасоўвання мастацкай літаратуры для працоўнага чытача мы патрабуем ад ДзВБ:

а) хутчэйшага выканання пастановы ЦК аб арганізацыі кіёскаў у палітаддзелах МТС і соўгасаў.

б) арганізацыі масавай работы сярод чытачоў;

в) укамплектаваць кнігагандлюючую сетку падрыхтанымі кадрамі, якія ведаюць літаратуру і здольны яе прасоўваць да працоўнага чытача;

г) сваячасова праз рэкламу, рэцэнзіі даводзіць да ведама працоўных мас аб выхадзе кнігі з друку.

11. Паставіўшы сабе задачу поўнага ахопа пісьменнікаў палітвучобай у марксісцка-ленінскіх гуртках, разгортвання літаратурна-масавай і культурна-палітычнай работы сярод пісьменнікаў, мы патрабуем ад ДЗВБ асыгнавання сродкаў на правядзенне ўсёй гэтай работы.

12. Упарадачыць пытанне выплаты ганарара.

*По даручэнню агульнага сходу пісьменнікаў г. Менска: Янка Купала, Кузьма Чорны, Крапіва, Кульбак, Аксельрод, Броўка, Харык.*

# ЗА МЕЖАМІ

## ТУРЭЦКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК І МАСТАЦТВА

Урад Турцыі ўхваліў з наступнага года ўзяцца за арганізацыю нацыянальнай акадэміі навук і мастацтва ў сталіцы рэспублікі Анкары.

Міністэрства асветы збірае цяпер матар'ялы па справе арганізацыі існуючых у розных цэнтрах акадэмій.

У Анкары запланавана збудаваць вялікі будынак, у якім будуць размешчаны інстытуты і лабараторыі акадэміі, дзяржаўная бібліятэка, нацыянальны археалагічны музей, зала для публічных навуковых дакладаў і канферэнцый. У пачатку турэцкая акадэмія будзе праводзіць даследчую работу пераважна ў галіне гуманітарных навук і гісторыі літаратуры і мовы.

## ЗБОРНІК СЕРБСКІХ ЛЕГЕНД

Отто Баблер, вядомы сербскі этнограф, выпусціў у свет том сербскіх легенд (srbski legendy). Гэты том змяшчае надзвычайна цікавы, каштоўны матар'ял, большая частка якога публікуецца ўпершыню. Па сваіх матывах легенды зборніка падзяляюцца на легенды рэлігійныя, байкі пра жывёл і сярэдневяковыя легенды. З'яўленне зборніка—каштоўны ўклад у этнаграфічную літаратуру славянскіх народаў.

## АНТАЛОГІЯ ПРОЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Выдавецкі аддзел Саюза пролетарскіх пісьменнікаў Японіі выпусціў нядаўна „Анталогію пролетаркай літаратуры". Анталогія змяшчае апавяданні і п'есы 44 членаў Саюза. Цікаввейшымі творамі з'яўляюцца творы: Хаджыма Суі—„Бавоўна", Іошыо Кімура—„Супроць шторма", Курашыма—„Кардон", Ф. Кітагава—„Рэйкі"

„Бавоўна" Х. Суі малюе тып рэволюцыянера-селяніна. Дзея разгортваецца на фоне соцыяльных змен—ад напоўфеўдальнага сяла да сягонешняй жорсткай класавай барацьбы ў сувязі з крызісам. Аўтар падходзіць да вырашэння і паказа соцыяльных праблем з пазіцый дыялектычнага матэр'ялізма.

У „Супроць шторма" І. Кімуры яскрава малюецца жыццё і падпольная праца японскага комуніста.

„Кардон" Курошымы—ґэта апавяданні з жыцця манчжурскіх кантрабандыстаў. Аўтар ставіць праблему канфлікта паміж Японіяй і СССР у сувязі з пераходам рыбацкіх паселішч на бок Совецкага Саюза.

„Анталогія Пролетарскай літаратўры" цалкам з'яўляецца яркім паказальнікам значнага якаснага роста пісьменнікаў ад станка і з вёскі.

## ЗАЯВА БУРЖУАЗНАГА МАСТАЦТВАЗНАЎЦЫ.

Прафесар Філіп Мек-Мегон, дэкан факультэта мастацтвазнаўства Н'ю-Ёрскага універсітэта заявіў, што эўрапейскія дзяржавы маглі-б сплаціць свае даўгі Паўночна-Амерыканскім Злучаным Штатам рэчамі мастацтва.

„Большая частка мастацкіх шэдэўраў,—заявіў Мек-Мегон,—карціны, скульптура, каштоўныя кнігі—дасталіся эўрапейскім дзяржавам у выніку заваёў і канфіскацый. Таму дзяржавы-даўжнікі не павінны быць у пратэнзіі, калі мы захочам, каб даўгі былі сплачаны скарбамі мастацтва, якія прыдбалі яны непрыстойнымі спосабамі.

## МАСТАКІ І КРЫЗІС.

Рэакцыйная французская літаратурная газета „Ле Нувэль літэрэр“ прапанавала прадстаўнікам трох буйнейшых парыжскіх мастацкіх выставак выказацца на тэму пра мастака і крызіс.

Франсіс Журдэн (старшыня асенняга салона) заявіў, што „з сумам, калі не з безнадзейнасцю адказваю я на пастаўленыя вамі пытанні. Ужо тры гады, як нашы салоны церпяць ад крызіса і асабліва жорсткім быў для нас апошні год. Лік наведвальнікаў вельмі зменшыўся, продаж карцін знізіўся на 50 проц. Мастакі прымушаны больш танна прадаваць сваю працу, як у папярэднія гады; аднак, не гледзячы на гэта, пакупцоў вельмі мала. Урад прыходзіць на дапамогу буйным фінансавым кампаніям і дае ім мільёны, але для мастакоў ён не знайшоў і ста тысяч, патрэбных, каб пакрыць дэфіцыты мастацкіх таварыстваў і гэтым не дапусціць крушэння“.

Андрэ Дошэ (старшыня „Нацыянальнага таварыства прыгожага мастацтва“) адказаў: „З вясны крызіс становіцца ўсё больш і больш пагубным; з кожным днём усё павялічваецца лік мастакоў, якія знаходзяцца ў надзвычай дрэнным матэр'яльным становішчы. У гэтым годзе было прададзена карцін усяго на 42.000 франкаў, тым часам, як у мінулым годзе было прададзена на 350.000 франкаў. Як змяніць такое становішча рэчаў? Баюся, што гэта немагчыма, бо зло караніцца ў хваробе, ад якой пакутуе ўвесь свет“.

Аман-Жан (віцэстаршыня салона Цюльеры) адзначае не толькі агульны эканамічны крызіс, але і „маральны“ крызіс. Выйсце ён бачыць у змяншэнні „вытворцаў мастацтва“.

Не менш востра адчуваецца крызіс і ў літаратуры. Італьянская часопісь „Іль Саджаторэ“ змяшчае агляд сучаснай французскай літаратуры і крытыкі. Артыкул носіць назву „Крызіс французскай культуры“. У гэтым артыкуле пішуць:

„У цяперашні час у наяўнасці амаль поўны заняпад у двух найбольш значных галінах французскай літаратуры: у белетрыстыцы і крытыцы. Амаль ува ўсіх пісьменнікаў і крытыкаў наглядаецца тэндэнцыя да агульнага зніжэння інтэлектуальнага ўзроўня,

да агульнай нівеліроўкі яго. Ствараецца ўражанне, што ўся французская культура ахоплена паралічам. Непасрэдна пасля сканчэння вайны былі моманты большага ажыўлення літаратурнай дзейнасці, потым яна застыла на тым, што ўжо было ёю дасягнута, і ўзялася нястомна даследваць і каментаваць гэтыя дасягненні. Нарэшце яна дайшла да той стадыі перасычанасці, якая з'яўляецца яскраваю адзнакаю ўтомленасці і заняпада.

Літаратурная крытыка Францыі не ідзе далей звычайных псыхалагічных і соцыялагічных схэм. Правадыром яе, як і раней, застаецца Сент-Бэ. Яна не ўносіць нічога новага ў агульны фонд эўрапейскага літаратурнага мышлення".

## РЭВОЛЮЦЫЙНАЯ ЛІТАРАТУРА РАСЦЕ.

Джон Дос-Пасос надаслаў у міжнародную арганізацыю рэволюцыйных пісьменнікаў сваю новую п'есу „Вышыні шчасця". П'еса адлюстроўван крызіс амерыканскага капіталізма. Цяпер Дос-Пасос піша апошнюю частку трылогіі, у якую ўваходзіць „42 паралель" і „1919".

Лэнгстон Х'юс (вядомы негрыцянскі паэт і раманіст) знаходзіцца цяпер у СССР і толькі што скончыў працу над зборнікам „Вітанне, рэволюцыя", куды ўвайшлі яго рэволюцыйныя вершы апошняга пэрыяда, а таксама некалькі старых вершаў. Цяпер Х'юс працуе над кнігай нарысаў пра Сярэднюю Азію. Апрача таго Х'юс пераводзіць на ангельскую мову вершы савецкіх і чужаземных рэволюцыйных паэтаў.

Джэк Канрой (амерыканскі рэволюцыйны пісьменнік) закончыў аўтабіяграфічны раман „Пазбаўлены спадчыны". Урыўкі з гэтага рамана, якія рысуюць побыт амерыканскага шахцёрскага пасёлка, друкаваліся ў „Н'ю-Месес" і іншых часопісах.

Джэмс Стыль (псеўдонім амерыканскага рэволюцыйнага пісьменніка) закончыў свой першы раман „Канвеер". У рамане ўпершыню ў амерыканскай рэволюцыйнай літаратуры паказана становішча кваліфікаваных амерыканскіх рабочых у гады крызіса. Дзея адбываецца на фордаўскіх аўтамабільных заводах у Дэтройце, дзе сам аўтар працаваў некалькі год.

Эдвін Сівер (аўтар пераведзенага на рускую мову рамана „Кампанія") працуе над сваім другім раманам, які мае называцца „Машэннікі". У гэтым рамане аўтар паказвае уплыў крызіса на амерыканскую дробнабуржуазную моладзь.

Грэнвіль Хікс (малады амерыканскі літаратуразнаўца) скончыў працу над вялікім доследам пра „Соцыяльныя плыні ў амерыканскай літаратуры з часоў грамадзянскай вайны".

Агнеса Смідлей (амерыканская рэволюцыйная пісьменніца) доўгі час працавала ў Кітаі ў якасці газетнага карэспандэнта і цяпер піша зборнік апавяданняў пра кітайскую рэволюцыю. Некаторыя з іх былі ўжо надрукаваны ў „Інтэрнацыянальнай літаратуры" і іншых часопісах.

Поль Пітэрс (амерыканскі рэволюцыйны драматург) напісаў сумесна з Чарльзам Уоркерам новую п'есу—„Трэці парад“. П'еса адлюстроўвае падзеі, якія мелі месца ў Вашынгтоне летам мінулага года ў сувязі з паходам ветэранаў.

Майра Пэйдж (аўтар рамана „Навала надыходзіць“) знаходзіцца цяпер у СССР і працуе над новым раманам пра жыццё чужаземных спецыялістаў і рабочых у СССР. Майра Пэйдж мае на мэце паказаць палітычную дыферэнцыяцыю ў асяроддзі гэтых людзей.

Эдвард Дальберг (малады амерыканскі пісьменнік) выпусціў у свет раман пад назваю „Ад Флашынга да Кальвары„. Гэта кніга з'яўляецца працягам першай ягонай кнігі „Людзі нізоў“.

## ФРАНЦУЗСКІ КРЫТЫК ПРА СОВЕЦКІЯ ЧАСОПІСЫ

У „Меркюр дэ Франс“ змешчан агляд совецкіх часопісяй, напісаны Ж. Б. Бінштокам.

„У цяперашні час,—піша Біншток,--совецкія часопісі выходзяць амаль рэгулярна. Яны ўсё больш і больш набываюць характар дарэволюцыйных выданняў і паступова атрымоўваюць тое значэнне ў інтэлектуальным жыцці Расіі, якое ў свой час мелі такія часопісі, як „Современник“, Чэрнышэўскага, „Отечественные записки“ Шчадрына' „Вестник Европы“ Стасюлевіча і да т. п.

У „Новом мире“ Біншток адзначае „Мадагаскар“ Новікава Прыбоя, „Как 14-я дивизия в рай шла“ Д. Беднага і асабліва „О—Кей“ Барыса Пільняка.

„Па праўдзе сказаць, гэты твор, магчыма, лепшае з усяго, напісанага гэтым выдатным пісьменнікам—не з'яўляецца раманам, але ад гэтага ён не менш цікавы. Апісанне звычаяў амерыканскіх кіно-работнікаў—сапраўдны шэдэўр. Многія старонкі кнігі Пільняка прысвячаны беднасці беспрацоўных, пісьменнік дае жудасны малюнак гэтае беднасці“.

„У „Красной нови“,—піша Біншток,—апублікован раман Ільі Эрэнбурга „Москва слезам не верит“. Поруч з Катаевым, Пільняком, Леонавым, Ільфам і Пятровым, Эрэнбург цяпер з'яўляецца адным з буйнейшых пісьменнікаў Савецкай Расіі. Ён надзвычайна добра ведае парыжскую багему,—багему Монпарнаса, і ў сваім рамане дае надзвычайныя малюнкі жыцця і пакут розных няўдачнікаў, што жывуць ў гэтым асяроддзі“.

Далей Біншток пераходзіць да „Могилы неизвестного солдата“ Лідзіна. Гэтую рэч ён жорстка крытыкуе.

„У тым-жа нумары „Красной нови“ апублікаван сцэнары вельмі забаўнай „гукавой камэдыі“ Ільфа і Пятрова, вядомых аўтараў „Двенадцати стульев“ и „Золотого теленка“.

Пасля Біншток падае змест трох надзвычай цікавых нумароў „Литературнаго наследства“ і адзначае, як „дбайна і нават раскошна выдадзена часопісь“.



# ЗМЕСТ



---

**Адказны рэдактар М. ЛЫНЬКОЎ.**

**Нам. рэдактара К. ЗАРЭМБОЎСКІ.**



**Выдавец:** Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.

**Адрас рэдакцыі:** Менск, Савецкая 68, Дом пісьменніка, „Полымя рэволюцыі“, Тэл. № 22-161.

